*Раіса Баравікова належыць да пасляваеннага пакалення беларускіх пісьменнікаў.*

*У друку выступае з 1960 г. Працуе ў жанры паэзіі, прозы і драматургіі.*

*У яе творах дамінуе лірычны пачатак, асабліва гэта тычыцца вершаў, пра якія можна сказаць «Тысяча і адна ноч» кахання. Знакамітая паэтэса — лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы.*

**Раіса Баравікова**

# Сад на капялюшыку каханай

***Лірыка***

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1998

*Я памаўчу. Ты гавары*
*сваёю шапатлівай мовай,*
*пакуль завейнасцю ліловай*
*ноч да канца не дагарыць.*

*Нішто не вернецца назад.*
*Пачуцці нашы ў дымцы цьмянай,*
*а ты малюеш зноўку сад*
*на капялюшыку каханай.*

*Кране тугою кралвід*
*пад боскім зоркавым кілімам,*
*і плакаць хочацца наўзрыд*
*аб нечым тайным, немагчымым...*
*1995*

## ПАСТУШКА

Я сёння пастушка,
я статак пасу!
Блакітная стужка
ўпляцецца ў касу.
Прылашчацца промні
да белай рукі,
сдяжынкаю роўнай
пайду да ракі.
Пагутару з хваляй,
кароў напаю,
хай людзі пахваляць
за працу маю.
Я сёння пастушка,
я статак пасу,
што ветразік, стужка
ўпляцецца ў касу.
*1968*

* * *

Прастора спазнаецца ў руху,
а як спазнаць цябе цяпер,
калі пакінуў толькі скруху,
і сэрцу, і душы — знявер.

Няўжо замкнёна моцна кола?
Я ж ганарліваю была...
Сляды, твае сляды наўкола,
завея іх не замяла.

А ты прыйдзі, яшчэ не позна,
ты перадумай, пазвані!
О, як натхнёна і высозна
гарацць надзей маіх агні.
*1969*

## НЕВЯДОМАЕ

А можа, не было,
а можа, проста так!
Здалося і прайшло,
як хмара і як птах,
кудысьці ў вышыню
ўзнялося — дагані!
Дагнаць я не магу,
дык хоць рукой крані.
Крануць я не магу,
бо, можа, не было,
бо, можа, проста так
здалося і прайшло,
узнеслася, бы птах...
Дык хоць жа паглядзі,
у вочы зазірні!
Глядзець я не магу,
лепш загадзя збягу,
бо, веру, не было,
бо, веру, проста так
здалося і прайшло...
Махае крыллем птах,
ды не дагнаць яго.
*1969*

* * *

Няхай гавораць людзі ля кіёскаў,
што я ў палоне песенных забаў,
што нада мной вясёлкавай палоскай
сусед-мастак нябёсы распісаў.

Сяброўкі абсталёўваюць кватэры,
я п'ю ў лясах на досвітку расу
і незалежна, з выглядам гетэры,
чыёсьці сэрца ў кошыку нясу.
*1972*

* * *

Мне сёння прыснілася хата...
У ей мы калісьці жылі.
Вясною там бэзу багата,
звіняць над лугамі чмялі.
Праз сон я ў маленства глядзела,
на гнуткі сівы вербалоз,
я зноў святкавала нядзелю
ў зацішку знаёмых бяроз.
Шумелі за хатаю сосны,
і стукалі промні ў акно.
Малою на ўзмежачак роены
спяшалася слаць палатно.
За вокнамі стукалі колы,
зарою палаў далягляд,
і плакала я, бо ніколі
туды не вярнуся назад.
*1972*

* * *

Сярод папер, сярод лістоў,
сярод маіх штодзённых сноў
тваё імя, твая рука,
узнёсласць лёгкага радка.

Бяру аловак і пішу,
жыццё былое варушу,
як на экране — на сцяне
твой плашч, нібыта бачу ў сне.

Там за акном маім — ліхтар,
адзіны сведка слёз і мар,
ці ж я прызнаюся яму —
пісаць ужо няма каму.
*1972*

## СВІТАННЕ У ПАРКУ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Галінка трапяткая ўпала,
як недапісаны радок.
Сад вераснёвы і Купала,
лісця зжаўцелага грудок.

І ля фантана, што за сцежкай,
таксама восеньскі агонь,
русалка пырсне там не ўсмешкай,
а плачам тоненькім на скронь.

Забаваў летніх шчабятуха,
як многа слёз яшчэ пральe!
Паблізу незнаема глуха
аб камень Свіслач хваляй б'е.

І я прыцішваю дыханне...
Там, дзе лісця ляжыць грудок,
Купала шэпча на світанні
свой недапісаны радок.
*1972*

* * *

З-за саду выглянуў прамень
і скача па падушцы.
Ах, прыйдзе, прыйдзе ясны дзень
на радасць весялушцы!

А мне ні радасці, ні сну —
твой цень прыліпнуў калькай!
Мо ад таго іду ў вясну
я завадною лялькай.

Смяюся, плачу, шчабячу
на даўжыню завода...
І як пакутліва маўчу,
калі між намі згода.
*1973*

## ВЕРЛІБР, НАПІСАНЫ ПАД РАНІЦУ

Алавяны салдацік з андэрсенаўскай казкі,
калі я спакойна спала вясноваю зорнай ноччу,
неспадзявана раптоўна стаў выбіваць чачотку,
і столік пад ім хістаўся, як палуба карабля.
Ён то смяяўся, то плакаў, той прыгажун аднаногі,
рукамі хапаў паветра і некага клікаў тужліва,
і прачыналіся людзі, прачнуўся вялікі горад,
і месяц над ім гайдаўся, як на арэлях хлапчо.
І падалі, падалі зоркі, ноч перастала быць ноччу,
распаўся пакой, як атам у вопыце П'ера Кюры,
а я ляжала спакойна у ложку сваім вясновым
і зразумела раптам, што ты — мой каханы...
*1973*

## З БАБУЛІНЫХ ПЕСЕНЬ

Вось і стала я разлучніцай.
Сорам вочанькі заслаў.
Лепш пайшла б ужо за ключніка,
за замкамі каб трымаў,

за варотамі дубовымі,
на ігрышча не пускаў,
кулакамі каб пудовымі
раз у тыдзень перазаў.

Мо тады б і не глядзела
на суседа Кудзелю.
*1974*

* * *

А на душы і светла, і шчымліва.
Разгубленасць спакоем наталю.
І ціхае скажу табе: «Шчаслiва!»
за тое, што цябе не палюблю.

За свой спакой, за ветлівасць пагляду,
за той агонь, што сэрца не апёк,
і буду ўдзячна, можа, нават рада
твой профіль тонкі прасачыць здалёк.
*1972*

## ЗАБРОДДЗЕ

* * *

Імжыстай восені разводдзе.
Апошняй электрычкі свіст.
Павольна кружыць над Забродддзем
узняты ветрам лёгкі ліст.

Сачу з падворка за палётам.
Вось ужо бачыцца здалёк,
аціхлы, стомлены над плотам,
нібыта жоўты матылёк.

Паверыць цяжка, што асядзе,
уб'ецца ў прыдарожны пыл,
а помніцца, нядаўна ў садзе
шумеў, як пара дужых крыл...

* * *

Забродскі шлях. Нябёсаў просінь.
На ўзгорак выбегла адчайна.
Мне дзень прыдаўся незвычайным,
хоць ведала, што хутка восень.

Трава пажухлая хрумсцела,
а я вышуквала прычыны,
чаму ў акне няма мужчыны,
якога бачыць я хацела?

Над вёскай жураўлі кружылі,
быў сум прытоены ў прыродзе,
каму з нас кветкі варажылі:
прыйшла пара забыць Заброддзе.

Я не хацела чуць пра гэта,
узгорак з лёгкасцю мінала.
Яшчэ жыла спякотай лета,
а можа, толькі ўспамінала.

* * *

Я сення не прысела да стала.

Усё яшчэ жыву ў тваім палоне.
Я не ў радок, я ў памяць узяла
ласкавае цяпло тваёй далоні.

Пакутліва-трывожна б'ецца ў скронь
бяссонніцы суровы непарадак,
мяне праз ноч вядзе твая далонь
ад ласкі да бяздоказных здагадак.

Кахання растрывожаны агонь...
Лягчэй сцярпець удар каванай пражкай,
мяне праз дзень вядзе твая далонь,
у ноч вядзе, дзе нават дыхаць цяжка.

Дык будзь жа блаславёны за палон!
Скаруся бездакорна волі лесу.
Начэй забродскіх ярасны агонь
кране ўспамінам голле вербалозу.

*Ля чыгуначнага пераезда*

Ах, як лёгка ляцелі лыжы!
Быў загадкавым пошум хвой.
Нечы шалік пушысты і рыжы
прыняла на імгненне за твой.

Трапяталі спалохана вейкі,
хоць здаваўся раўнюткім адхон,
за якім прабягалі рэйкі
невядомай тузе наўздагон,

І з прыродаю снежнаю ў згодзе,
ледзь стрымаўшы кароткі уздых,
я ўявіла на момант Заброддзе
сярод схілаў таемна крутых.
*1975*

* * *

Гронак рабінавых медзь
разлуку сыграла мне,
плюшам падбіты мядзведзь,
быццам жывы, уздыхне:

— Ты супакойся, не плач...
Суму не варты твой госць,
вер мне, ягоны плашч
заменіць табе мая поўсць.
Рыжы ўскудлачаны плюш
намнога цяплей за балонь,
а хочаш, куплю капялюш —
і буду зусім як ён.
Мне ты не скажаш: «Прыедзь!»
Буду я побач заўжды,
плюшам падбіты мядзведзь,
цябе ахіляць ад бяды.
Буду зімой частаваць
мёдам з запасаў сваіх,
будзем з табою спяваць
добрыя песні ўдваіх...
*1975*

## ВОСЕНЬСКІ САД

Прытушыць дождж агеньчык пачуцця,
у небе жораў крыкам адзавецца,
а я спытаю, — як табе жывецца,
ці вычакаў ты долю ад жыцця?

Калыша вецер гэты ціхі сад,
паслухай толькі, музыка якая,
я не яе, каханы мой, чакала,
я думала, ты вернется назад.

Калі ж аднойчы з'явішся сюды,
што адшукаеш тут, сярод лістоты,
ды не шукай цяпла маёй пяшчоты
там, дзе жалобы восеньскай сляды.

* * *

Выпадкова машыну спыніла...
І зірнула туды з-пад рукі,
дзе фіранка пад колер чарніла,
нібы вершаў маіх радкі.
Пад нагамі патрэсквае гравій,
поўня сцеле сцяжынку-бель...
Так, напэўна, у ціхую гавань
заплывае чужы карабель.
Так, напэўна, сыходзіць на прыстань
з трапа знуджаны морам марак,
ды святло за фіранкай празрыстай,
як падманна прызыўны маяк...

Пад акном Вашым ясень танюткі
будзе поўню гайдаць у лісці
і блакітныя кветкі анюткі
будуць сумам маім цвісці.
Будзе ясень спяваць калыханку
белай поўні пра бераг чужы,
аж пакуль не ўстрывожаць фіранку
гаманою сваею стрыжы.
Вы адкрыйце яе, аднавесце! —
нібы з мора ўплыве халадок,
і пранізлівы — Вашай нявесце —
карабля развітальны гудок.

Непатрэбна чужая мне прыстань!
Не прымаю яе аніяк!
За світальнаю даллю агністай
мне міргае іначшы маяк.
Там, далёка, таксама танюткі
будзе ясень ля хаты расці,
і зямлі беларускай анюткі
будуць Вамі штолета цвісці.
*1975*

**ПАСЛЯ ДАЖДЖУ**

А на стале маім ляўкоі,
і легка мне ўдыхаць азон.
Дарма казаў ты, што ніколі
не вернешся пад мой балкон.
У міг адзін раскрыю дзверы,
зірну на мокры парапет,
туман разрэджаны над скверам
нібы дымок ад цыгарэт...
Як памяць сэрца заказыча!
Кране тугой вільготнасць дрэў.

Замест цябе з прысад пакліча
самоты квят — ільвіны зеў.
*1975*

* * *

Стракатасць выставачнай залы
і лесвічны пралёт круты.
Там незнарок табе сказала
нязвыклае да здзіву: «Ты».

Калі суніме вечар спёку,
аблашчыць прыцемак кусты,
як лёгка вымаўляць здалёку
знаёмае да болю: «Ты».

А ноччу чуць, як чысцяць пёркі
стрыжы пад сховай цемнаты...
Не спаць, варочацца і горка
шаптаць да рання зноўку: «Ты».

Выходзіць з дому, кутаць плечы,
збіваць расу з густой травы,
чакаць нязначнае сустрэчы,
каб вымавіць шматзначна: «Вы».

* * *

Выпадкова, без пэўнай прычыны,
спачувальна і не без ласкі,
мне сказала твая жанчына:
— Вы, як ліска з японскай казкі.
Муж чытаў мне яе няспешна,
надта ж простая тая навука:
за празмерна салодкай усмешкай
не інакш як сардэчная мука.

Я нічога ў адказ не сказала,
ды тужэй зацягнула пасак...
Там, табою забыты ў зале,
ляжыць томік японскіх казак.
*1974*

## НАВАЛЬНІЧНАЙ НОЧЧУ

І ўсё ж нашу я ў сэрцы спадзяванне,
што вернецца да берага паром,
таму не наракаю на расстанне,
спакойна я ўсдухоўваюся ў гром,
бо ведаю: і той, другой, не сгіііцца,
і бліскавіца ў тым акне ярчэй,
дык хай яна баіцца памыліцца —
у тых агнях агонь маіх начэй...
*1972*

**ЖЫВАПІС ПОБАЧ**

1
*Вясёлая зіма ў Лошыцы*

Паляцелі снежныя арэлі...
Чуеце, то звон, то дробны смех.
Ён з галін злятае заінелых
бомамі душы маей у снег.

Лошыцы знаёмыя карнізы
лебядзіным свецяцца крылом.
Ах, якія кветкі там, унізе,
расцвілі і б'юць здаля чалом.

А на дахах, верце, без падману,
мосцяцца шкляныя галубкі.
Сучаць яны ніці, як з туману,
зматваюць у снежныя клубкі.

Паабапал вуліцы паселі
ледзянога царства кавалі,
выбіваюць з жамчуговай белі
пацеркі, маністы, медалі.

Павядзіце здзіўленым паглядам:
снегавік з жалейкай л я варот,
нездарма Снягурка сёння рада
раскруціць вясельны калаўрот.

Сыпануць снягамі нам на ўцеху,
гэта ўжо адчула я сама —
пырснула на твар бадзёрым смехам
Лошыцы вясёлая зіма.

2
*Мак*

Нібыта ішла па вуголлі
цёмнаю ноччу жанчына.
Не лашчыла плечы голле,

ног не калола шыпшына.
Прысела, каб рукі прыкласці
да твару, што гнуткія лозы.
Мо прыгадала шчасце?
Можа, схавала слёзы?
А след яе ў золкім абшары
высвечваў агністай дугою, —
мо сэрца гарэла пажарам?
Мо вусны пякло тугою?
Схілілася долу ўтрапёна,
як першай зары чараціна,—
задыхала часта, натхнёна
жару жывога карціна...

3
*Чырвонае кафэ*

Кафэ ільсніцца дёплай барвай,
на твары водбліск ад слязы.
Ты мне налі што-небудзь, бармен,
як і ў мінулыя разы.

Я гэтым вечарам пярсцёнкі
зняла з рукі і без прыкрас
гляджу ў акно, і месяц тонкі
мне пасміхаецца ў адказ.

Зазначу для сябе, што схожы
ён з чалавекам тым адным,
што стаў цяпер толькі прахожым,
навошта ж думаю аб ім?

Вось і цяпер сяджу ў чаканні,
мо выпадкова ён сюды
са мною прыйдзе на спатканне,
згадае даўнія гады?

За хмаркай месяц тонкі пне,
знабмых крокаў не чутно,
і падае барвяны іней
са сцен у белае віно.
*1975*

## ПРЫ ЗНАЁМСТВЕ

Мо ад таго, што ён твой цёзка,
рукі яму не падала.
А толькі паглядзела дзёрзка
і ганарліва адышла.
А ноччу плакала ў падушку,
дзень сустракаючы раўмя,
і ён упарта мне на вушка
зноў паўтараў тваё імя.
*1975*

* * *

Зіма размашыста пазначыць
суметам схіл берагавы,
і немагчыма ўжо зыначыць,
як лбе, той накід снегавы.
Абую матчыны валёнкі
і папрастую наўздагад
туды, дзе тонкія сасонкі
журбою высветляць пагляд.
Туды, дзе хіліць долу голле
цяжкая снежная кайма,
сасонкі, рэчка, потым поле,
і большага ў мяне няма.
Табе прасцей, пейзаж прырэчны,
ты мне з гадамі даражэй,
і ад учынкаў недарэчных
цябе прырода ўберажэ.
А я вяду з сабою сваркі,
хачу на шчасце дні нізаць,
і немагчыма без памаркі
з жыцця жыцце перапісаць.
Іду да некага з віною,
і нехта прыхаваў віну,
і дзень удачы — навіною,
і тыдні страт — не ў навіну.
Сняжок задзірыста іскрыцца,
л я сосен запаволю крок,
дзе, ну зусім як я, храбрыцца
чырванагруды снепрок.
*1976*

* * *

З табой даўно не гаманілі,
а рэха голасу плыло
з велікарускае раўніны
у беларускае сяло.

То адзывалася праклёнам,
то пераходзіла ва ўсхліп,
перагаворвалася з клёнам
і аціхала ў ценю ліп.

А я ваколіцу мінала
на схіле гаманкога дня,
сунічнай брагай сустракала
мяне шчаслівая радня.

Пасля гарэла, як трохкутнік,
сузор'е пад акном маім,
і штось ласкавае трыпутнік
шаптаў мне голасам тваім.

## АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА

Азвуцца хутка снегапады.
Пра іх ужо гамоняць ветры.
А мы з табой зіме не рады
у гэты вечар непрыветны.

У час апошняе сустрэчы
засланы вочы ціхім жалем,
пакутліва накрыла плечы
я пры табе пуховым шалем.

Глядзіш адчужана, злаcліва —
я для цябе ужо чужая!
На санках снежаньскіх імкліва
да нас расстанне пад'язджае.

Адводжу позірк свой маўкліва
і час зацягваю упарта,
з табою не была шчаслівай,
а без цябе і жыць не варта!

Лягла на твар разлукі боязь,
ды пагляджу ніякавата...
І пакланюся нізка ў пояс,
нібыта ў нечым вінавата.
*1976*

* * *

Пасядзім, мой даўні дружа,
хай сыграе нам ражок,
над які чужога мужа
не бяруць на ланцужок.

Я на досвітку замглёным
сыплю проса галубам,
мной на шчасце блаславёны,
добрай долі зычу вам!

Без маёй журбы-спагады,
пэўна ж, ходзіцца лягчэй!
Вы, здаецца, нават рады
халадку маіх вачэй.

Што ж за дзіўнае пытанне:
у каноплі з кім хаджу?..
Я пасля... пры развітанні
вам у поцемках скажу.
*1976*

## ЗОРКА ПАЛЯВАЯ

Ах, не трывожце, сэрцу так балюча!
Ах, не прыходзьце прывідам у сны!
Я пабягу дарогаю гаючай
без Вас у далеч бэзавай вясны.

Я пабягу, шукаючы прытулак
няздзейсненым жаданням у гаі,
ад мітусні, ад звону шумных вулак,
туды, дзе ноч калышуць салаўі.

Калі ж узыдзе поўня караваем, —
пазбавіць сэрца смутку і нуды,
у ім пакіне зорка палявая
свайго святла гарачыя сляды.

Ласкава буду зваць яе сястрыцай,
у бездань неба кіньце свой пагляд...
Магчыма, зорка весняя іскрыцца,
а можа, я плыву за далягляд.
*1976*

* * *

Падобны голас мой на ўсхліп
пакрыўджанай дзяўчынкі,
над снежаньскім спакоем ліп
своволяць аблачынкі.
Смяюцца дзеці на двары,
а сэрца мае плача,
яшчэ ж учора гаварыў,
што я твая удача.
А сёння тоненькім ільдом
ты не прыйшоў па следу,
хоць і казаў: у гэты дом
і мёртвы я прыеду.
Я не сумую, бо крадком
падслухала аднойчы:
паэты лечацца радком
і паміраюць двойчы.
Хоць і дрыжыць мая рука,
і сэрца спапялёна,
але мелодыя радка
разлукай не замглёна.
Няхай сто тысяч раз памру,
і зноўку уваскрэсну,
і ведаю: усё таму,
каб слухаў маю песню.
Каб толькі ёй адною жыў,
не называў праклёнам,
і ўсё жыццё сваё тужыў
па мне, як ліст па клёну.
*1976*

**НА БАЛКОНЕ**

На балконе адвячоркам
кветкі ўвішна я палю,
як узыдзе ў небе зорка,
я слязою іх палью.
Ты, су сед, не пасміхайся,
не багата ў нас выгод,
маёй хаты не дурайся,
паглядзі,— які гарод!
Хоць і кветкі, а расліна,
зацвілі, нібыта мак,
я табе сказаць павінна,
ты, сусед, усё ж дзівак!
Я цябе рукою гнуткай,
як лазою, абаўю,
дык заходзь, сусед, я хутка
свае кветкі дапалю.
Хоць і ведаю, што хтосьці
будзе ўнізе ноч стаяць
і каменьчыкі са злосці
у гарод у мой кідаць.
Не баюся, хай кідае,
не было б другіх нягод!
Пэўна, нехта забывае,
што высока мой гарод!
*197 б*

* * *

Цяпер бы лашчыць салаўю
садоў далёкія абрысы,
уздыхам, выдыхам лаўлю
гадамі змененыя рысы.

Гарачым шэптам знемажы,
адбіся ў позірку адданым,
мне цяжка вымавіць: «Чужы!
і не магу сказаць: «Каханы».

Адное рэчкі берагі,
на ноч з'яднаныя імжою,
не называю дарагім,
баюся — выплыву чужою.

Салёных ростаняў зашмат
на вечаровым небасхіле,
ты, мной аднесены да страт,
сярод знялюбленых і мілых.

Жыцця пакутнага цяжар
не спакушаецца надзеяй,
навошта целу гэты жар,
калі душою халадзею?

Калі з заклятай нематы
бездапаможна даганяю
гады, з якіх гукаеш ты,
а падысці забараняеш.
*1977*

* * *

Адплывуць за пясчаную выспу
адгарэлага лета дымы,
я цябе адзінотаю высню,
ты мяне напаслед абдымі.

Ноч агнямі ў акне адміргае,
прымуць новыя нас берагі,
за мяне дакахае другая,
за цябе дацалуе другі.

Валасоў маіх ніць залатая
упадзе на гарачую скронь,
не трымаю! Няхай адлятае
неразумнага сэрца агонь.

На галінах, ад ветру каляных,
захлынаецца лісце ў журбе,
у імя несустрэтых каханых
я аднойчы забуду цябе.

Там, дзе верасень пройдзе ўрадлівы,
дзе крынічны заб'ецца выток,
упадзе на зямлю сіратлівы
адгарэлага лета лісток.

І нішто не ўстрывожыць з гадамі,
не ўсхвалюе чаканым званком,
за цябе адсумую радкамі,
за сябе абляцелым лістком.
*1977*

* * *

І лістоце апалай няўлежна,
з ночы просіцца ў расцяроб,
як спакойна, як незалежна
ён цалуе не ў губы — у лоб!

І не верыць ніводнаму слову,
з анямелаю ходзіць душой,
быццам тут аднялі ў яго мову
і ніяк не навучаць чужой.

І ў мяне дастаткова пагарды,
не хілю перад ім галавы,
у яго я і слова не варта,
а не знае, што мною жывы.

## ДЗІЧКА

Ці не вецер там парушыў
сон салодкі на дасвецці,
маладое дзікай грушы
разгайдаў у шале вецце.
Вецер з грушаю гамоніць,
вецер грушу забаўляе,
а яна лісток аброніць
і ад ласкі замірае.
Са старое, даўняй звычкі
заварочваю прывыкла
я да той вясслай дзічкі,
а яна ў журбе панікла.
Са спагадаю да гора
дакранаешся і... коле,
не таму, што дзікі нораў,
а хутчэй за ўсё ад болю.
Па чужым, далёкім полі
вецер шастае гуллівы,
мо вярбе, а мо таполі
навявае сон шчаслівы.
Незайздроснай долі знічка
ў цёмным небе адгарае,
а пры шляху плача дзічка,
горкі плод у пыл страсае.
*1969*

* * *

Не прашу ні ў кога вернасці,
бо сама не без віны,
адпушчу цябе без рэўнасці
за далекія млыны.

Позірк светлы не засмуціцца,
не складу ў жалобе рук,
а зямля мацней закруціцца
пад няроўны сэрца стук,

З хаты выбегу, здзіўлёная,
паглядзець на кругаверць,
скажуць людзі: «Улюбёная,
а ідзе, нібы на смерць!»

## ПЕРШАЕ ВЕРАСНЯ

Бяруцца скупа жоўтым кроны,
сумуе восеньская медзь.
Ён думаў, сэрцу забароніць
аб ім жывую памяць мець.

Я сапраўды нямнога помню,
знаходжу ў справах супакой,
бяжыць па тоненькаму промню
пачатак верасня ў пакой.

З ахвотай школьнік занатуе
на ўроку летнюю пару
і, што было, пра што шкадуе,
даверыць сшытку і пяру.

Мне не стае яго старання,
і пачынаю разумець:
не трэба сшыткаў для падання,
дзе можна памяццю гарэць.

**ГОСЦЬ**

1. * * *
Яшчэ на сення клопат есць:
суняць бы неяк грай шпачыны.
А тут насмешка лёсу — госць!—
да адзінокае жанчыны.

Вяссслых спраў паслугачы —
іскрынкі горкія ў наліўцы,
і сэрца трэба ўберагчы,
і штосьці д'ябальскае ў грыўцы.

І запытальны ўзлет брыва
не хоча з роздумам спрачацца,
у небе поўня, хоць зрывай!
Пры гэткай толькі цалавацца.

Як патрабуе этыкет,
адводжу позірк сарамліва,
жыццё бясконцае ў планет,
і век кароткі — у шчаслівай!

Нямнога шчасця для дваіх! —
не першы дзень жыву з маркоты,
што для яе кароткі міг
расцалаванае гаркоты?

Я не хачу гуляць з агнём,
я закрываю шторай поўню
і ненавіджу за акном
асалавелую шпакоўню.

2. * * *
Скуль ты такі невыносна адважны?!
Моцна зацягваеш ніць...
Гэта мясціна завецца ў нас Дражняй,
можа, цябе падражніць? —

голасам ціхім, ласкавым паглядам,
бояззю ранняй тугі,

нам бы на луг, ды яшчэ да Калядаў
расстагавалі стагі.

Соладка спяць гарадскія кварталы,
сходы бягуць, як гады...
На астраўках каламутных праталін
нашае ночы сляды.

3. * * *
Золка... Золка, ласкавы мой госцю,
я смяюся, мой голас дрыжыць,
між тваёй і маёй маладосцю
поле белага снегу ляжыць.

На якую чарговую згубу
шоўк завейна абцягвае стан,
не цалуй перасмяглыя губы,
ты душу напачатку дастань.

Знаю, смелым няма пакарання,
піць пачаў — дакаштуйся да дна,
можа, нас ашукае світанне,
ды далёка яшчэ давідна.

Ты паслухай, як дыхае цяжка
нам у твары начны веснавей,
і не вельмі славутая пташка,
як апошні пяе салавей.

Там, дзе падаюць,—
сцежку не мосцяць:
мне пад ногі не надта сцялі,
без таго твая дужая постаць,
нібы бераг жаданай зямлі.

З трапятаннем ляснога аленя
затрымайся на строме начы,
пакладзі галаву на калені
і над доляй маёй памаўчы.

4. * * *
Бясстрашны, уступай ва ўладу,
даю павечныя правы,
замацаваныя паглядам
скаронай гордай галавы.

Я не шкадую сёння волі,
застыў агонь яе ў вачах,
світальны месяц любіць поле,
ён толькі — ценем у нагах.

Пад гэтай цьмянаю аховай
улады хочацца ўдвая,
я — літасці прашу на словах,
дыханнем гавару — твая...

5. * * *
Я лішняга сабе не назапашу,
свайго ў жыцці ніяк не дабяру,
заві, мой госць, гукай у лесе нашу
запознена харошую пару.

Зямлю калыша год невысакосны,
а хочацца мне высака ўзляцець,
хай ноч усю шумяць над намі сосны,
ім сёння ёсць пра што пашапацець.

Ігліцы перасохлае пароша.
Пінжак далей у зараснік пасунь,
мажліва, лес з прытулкам не паможа,
дык дапаможа ў шчасці нам лясун.

Калі ў руках трымаеш яблык спелы,
не думаеш пра сад чужых зямель,
з та бой не я была ў вясельна-белым,
а тут... туман, як вэлюмная бель.

Прасі, мой госць, садзі за стол заручын
крылатых дружак з тых, што галасней,
бо толькі птушкі голасам сугучны
і сэрцу, і абдымкам, і вясне.

Якім запевам нас яны напояць?!
Але не трэба птушкам многа ўмець,
я аддаю сваю для песні споведзь,
ім лета будзе мала, каб прапець.

6. * * *
Не распытвай. Ты бачыш, што маю.
Я ўспаміны кідаю для тых,
што пяшчотна другіх абдымаюць
і сумуюць па вуснах маіх.

Не шкадую струны абарванай,
густа звоняць пад ветрам драты,
можа, песня мая — адспявана,
а душа захавала матыў.

Апранулі зялёнае вольхі,
я сукенку пад мак падбяру,
не загадваю, госць мой, на колькі,
дастаткова, што зараз гару.

У пунсовым сустрэну світанне,
хоць на колер ды маю правы!
Нават кніжак няма пра каханне —
век халодным разлікам жывы.

Не хачу, каб дурэлі на шпагах,
і ў геройстве ёсць многа маны,—
не узважвай, мой госцю, на вагах,
знаеш... сэрца не мае даны.

Не тужы. Раздажджылася трошкі,
ападзе ручаёвая плынь...
За аўсамі распусцяць валошкі
мне ў пасаг сваю ціхую сінь.

7. * * *
Не сціхае ў бусляыцы
                устрывожаны клёкат,
разгайдалася ранне
                на крылах буслоў,

спатыкнецца прамень
і ўпадзе трапятліва на локаць,
дотык вуснаў праз сон,—
як працяг недаказаных слоў.

Спі, мой госць, спачывай...
На рацэ распускаецца лотаць,
як маленькае сонца,
азірае свае берагі,
колькі ранкаў буслам
давядзецца над ёю адлётаць,
колькі выпадзе дзён
мне сустрэць на плячы дарагім?

Пралятае жыццё
дзе маною, дзе праўдай,
пачынаецца лета,—
адчуваю далонню цяпло,
падступае, як прывід,
дзе да спуду сапраўдна
над буслянкаю б'ецца
маладое крыло.

8. * * *
Зноў закружыла весялосць,
з акон злятае ноч, як сажа,
не абяцай спакою, госць,
што будзе заўтра — дзень пакажа.

Ды і навошта супакой!
Былі б далоні нашы ў згодзе,
я гавару ў паўшэпт з табой
і ў поўны голас са стагоддзем.

Нішто не спісваю на час,
я да яго жыццсм прыкута,
хоць ён няўмольна (і не раз)
са мной разлічваўся — пакутай.

Мне горача... Бярэ разгон
на ўсходзе нітачка ўзыходу,

і ў тым наступным віры дзён
я для сабе не бачу броду.

А ў гэтай сцішанай начы
мне ад уласнай думкі смешна —
што час?! Як часта на плячы
каханым мулка і няўцешна.

9. * * *
Па шляхах жыццёвых ходзіць мноства
розных непрадбачаных нягод,
лепш бы павязацца нам сяброўствам
тым, што не на дзень і не на год.

Палкасць — бліскавічная крывая,
зводня расцугляных навальніц,
голас твой заве і акрыляе —
жаўранкам падранкавым звініць.

З маладосці выбегла на сцежку,—
тут бы супакоена прыстаць!
Госць мой, вераснёвую усмешку
з твару пацалункам не сагнаць.

Верасень... жаданы месяц збору,
над садамі лёгкая і мгла,
госць мой, не насі ў вачах дакору —-
многа мела — мала данясла.

Абдымі... Хай пачакаюць зімы,
нам няма патрэб прыспешваць час,
палюбі пару маёй радзімы,
што пладамі выспела для нас.

І журбу, і весялосць жалеек,
месяца світальнае святло,
пад якім твой жаўранак шалее,—
быццам яму лета не было.

10. * * *
Ты скажы мне, з якога суквецця

сплесці той запав етны вянец,
каб не чуўся у шолахах веццяя
непрытоена сумны канец.

Гаварыла: прыкметам не веру,
развражала: надоўга!— і вось...—
варажу на сцяблінках аеру,
і выходзіць — прысуднае,— госць!

Толькі госць...
На прыход! — Не на годы
Цяжкім хмелем спаўеш галаву...
З кожным новым тваім адыходам
разумею, што стратай жыву.

Не ўзыходзіць лістота на палі,
жывяць дрэва яго карані,
я баюся — ты толькі абпаліш,
а гарэць не дасі на агні.

Не заву безмяцежнага шчасця,
свет здаўна да гарэння жадзен,
ды калі разгараюцца страсці,
просіць свет супакойлівых дзен.

Не капрыз. Не настрой. Не развага.
Горка сэрца гаворыць з табой,
знаю я, як цалуе адвага,
калі ўпэўнена — выйграе бой.

11. * * *
Што прыхопім з сабой? Што забудзеі
Дый няма асаблівых прычын
помніць гэты валошкавы будзень
і густое кустоўе ляшчын.

Маладая зязюля не лічыць,—
маладая зязюля — заве...
Напаслед я хацела б пазычыць
маладога кування ў яе.

Можа, гэта «ку-ку» парукае…
Госць мой, сення дурманіць багун,
да цябе выбягае другая,
я паглядам таксама бягу.

Вось падкосяцца лёгкія ногі,
замінаюць трава і карчы,
я не знаю больш доўгай дарогі,
я стамілася, дай адпачыць.

Адыдзі… там шаўковыя косы,
чую смех, ен падобны на мой,
разганяю над свежым пакосам
камарынае радасці рой.

І шукаю дадому дарогу
карацейшую… можна праз мох…
Не чакала, мой госць, да парогу,
выйшла так… правяла за парог.
*1977*

* * *

Даруй і дзякуй! Вольная цяпер.
Ужо непаду ладная нікому,
праз адзіноту, смутак і знявер
вяртаюся шчаслівая дадому.

Даруй за недазволены агонь,
за боль і безнадзейнае: кахаю...
Мо ад таго бунтуе радасць скронь,
што сёння толькі вецер абдымаю.

Я дзякую табе за смех ў бядзе,
за пачуцця і думак першароднасць,
дык хай жа мой радок цябе вядзе
ад позірку майго — у бессмяротнасць.

*1977*

## ЗІМОВЫ ЭЦЮД

Зіма мінаецца, чаму ж
на сэрцы боязна-трывожна,
па белым снезе асцярожна
бяжыш ад холаду і сцюж?
Пачую хутка капяжы...
А мне мілей за ўсе суметы,
і ціша ранішняй дрымоты,
і лёгкі смутак на душы.
Нібы падбелены садок...
Зірні ў акно і схамяніся,
капрызна просіць: «Пасміхніся!»
Там сына тоненькі слядок.
Зляціць усмешка, і крылом
заб'ецца ў шыбу птушка сонна.
Як непаўторна і будзСнна
зямля глядзіцца пад ільдом.
Пагляд да строгасці прывык,
і завывае вецер глуха...
А ты душу сваю паслухай,
там пра вясну пяе кулік.
*1975*

* * *

Пад перастук сталёвай рэйкі,
пад звон апошняга трамвая,
сцяна пад колер канарэйкі
мне сон салодкі навявае.

І позіркам, і сэрцам рада
твайму нязвыкламу прыходу,
бо салаўінаю руладай
ноч разліваецца ва ўгоду
маім трывогам і на згубу
вядзе таемнасцю сваею,
і толькі шэпчуць, шэпчуць губы:
я не магла не быць табою,
бо гэту ноч мне даравала
душы цярплівае чаканне,
учора цень твой цалавала,
а сення слухаю дыханне.
*1978*

* * *

Хай будзе так, як ты схацеў,
тваё жаданне не парушу,
вядзе душа ласкавы спеў,
а я маўчаць яе прымушу.

Раздам прахожым рэшту слоў
я сваей шчырасці няемкай,
праз чараду тваіх гадоў
прайду маўклівай незнаёмкай.

Глыбока ў сэрцы пралягла
тваей адчужанасці рыска,
чаго шукала — не знайшла,
у блізкасці была няблізкай.

Суніме час пачуццяў вір,
пяроймуць смутак мой бярозы,
бо ім прасцей кідаць у жвір
з лісця расы начное слёзы.

І адплыве ў далёкі свет
усё, што сёння ў сэрцы маю,
мне не шкада губляць твой след,
я маладосць з табой губляю.

А недзе там, дзе далягляд
на лета чыніцца грамамі,
былое рынецца назад
і захлынецца паміж намі.
*1978*

## РУСАЛЧЫНА КВЕТКА

Яшчэ няма яе, бялюткай…
Ёсць толькі завязі штуршок.
А ўжо ляжыць на хвалі хуткай
пялесткаў тоненькі штрышок.

І калі з'явіцца гарлачык,
дальбог, пабачу я здалёк —
над ім з русалкаю у мячык
гуляе лёгкі матылёк.
*1978*

* * *

Лета вяртацца не ўмее
на межы свае ізноў,
сэрца мае сталее —
доўга не носіць рубцоў.

Сяду ў парозе, як некалі,
вецер абвее твар,
быццам купцы праехалі
ды зганьбавалі тавар.

Хмары ідуць абложна,
мне думалася спярша,
не зашчыміць трывожна,
сцерпіць разлуку душа.

Што ж гэта ў свеце дзеецца,
доўга няма маразоў!
Хочацца мне абнадзеіцца —
вернецца лета ізноў.

*1978*

* * *

Іду туды, дзе луг духмяны,
дзе ў сініх рэках — невады,
шукаць тvае сляды, каханы,
пакінутыя на гады.

Паходкай лёгкай, лебядзінай
тапчу сухую асаку,
на ўсё жыццё май адзіны
ты быў і ў сэрцы, і ў радку.
*1972*

## ПРЫЦЕМКАМ У БЯРЭЗНІКУ

Баюся словамі сурочыць,
часцей,— душою гавару,
зімовы прыцемак азмрочыць
бярозы белае кару.
Нібы жанчына пры расстанні,
яна са змроку паўстае;
і штосьці есць ў яе дыханні
ад рызыкоўнасці мае.
Суметы снежныя, як одум,
грунтоўным накідам ляглі,
якому ж сэрцу я злашду
нясу за ветрам па зямлі?!
Парой разважліва, ціхмяна,
але ж упарта сцерагу
жывы скразняк ад шалу п'яны
на самым ветраным рагу.
Мой дзень — пяшчотай не сагрэты,
душа,— маўчы! Маўчы! Маўчы.
Мне — добра. Я жыву дагзтуль,
як з аблачынкай на гілячы.
*1975*

* * *
Пад соннай ёлкі калыханне,
пад навагодні легкі вальс,
дзеля бясконцага чакання
я адмаўляюся ад вас.

Пайду дарогай снегавою
на мроях шчасдя варажыць,
каб вам з жанчынаю другою
аб лёгкай страце не тужыць.

Якой надзеяй сэрца песціць?
На кожнай здрадзе свой закон,
а без закону — толькі песні
душою пішуцца спакон.
*1978*

* * *

Ля крыніцы бруістае вяне
абранёны на шчасце вянок,
тут калісь палявалі славяне
на чужых даўганогіх жанок.

Паўтараецца многае ў свеце,
на палянцы распалім касцёр,
і заблудзіцца месяц у вецці,
як лязо агнявое, васцёр.

У тваім сінявокім абліччы
я славянскія рысы знайду,
стань жа сёння маім паляўнічым;
я сама пад руку пападу.

І ад радасці хмельнае грузны,
абмінаючы дрэвы і пні,
прыпадзі да распаленых вуснаў
і ў высокія травы шпурні.

Закрычы па-дзікунску штосілы,
абрываючы сукню з пляча,
каб сарвалася дрогкае: «Мілы-ы»
і хіснулася неба ў вачах.

Каб на самым абрыве палянкі,
дзе ў калена густая трава,
ўпадабала я лес паланянкі
і надломы крутога брыва.
*1979*

* * *

Павер, каханы, я — ў даўгу
Калі б яшчэ мацней любіла,
мяне б не так самота біла,
што нават плакаць не магу.

Не маю права на дакор,
сваім каханнем ахвярую
і нават восені дарую
сляпое ззянне стылых зор.

Бо не спазнаць ніколі ім
кароткага кахання ўпотай,
цана якому — адзінота,
наканаваная двоім.
*1979*

**МУЗЫКА**

Мне не ставала толькі музыкі,
усё астатняе — было!
Дык заіграй жа, промень вузенькі,
каб аж дрыжала ў рамах шкло.

Кідаю вобзем кубак пеністы,
гуляю звонка ад відна,
і смех вясёлкаю праменістай
іграе ў кропельках віна.

З чаго ў мяне такое свята?
Цяпер ужо не зразумець!
Іграю я, іграе хата,
і абяцае клён шумець!

Ён пад акном за вартавога,
але да музыкі ахвоч:
было б яе багата ў Бога,
а мы змаглі б гуляць і ноч.

Гуляць адчайна і трывожна...
Ну, што мне чалавек той дасць,
куды аднойчы з раздарожжа
заехала пабавіць час.

Міналі дні з дажджом і з пылам,
мне б зненавідзець, знелюбіць!
Ну, што з таго, што стаў ён мілым,
калі павінна я забыць.

Забыць! Забыць! Там бераг — коўзкі,
чужое для мяне імя,
там нават гіпсавы Чайкоўскі,
але там музыкі няма.

Там для мяне не заіграе
хоць бы ў адну струну душа,
ляціць паўсцяж мяне прамая
у адваротны бок шаша.

А я з душы зрываю гузікі —
такая сення весялосць!
Мне не ставала толькі музыкі,
цяпер яна, дакладна,— ёсць!
*1979*

* * *

Ах, нездарма жыла я ганарліўкай,
чакаючы цярпліва твой званок!
Цябе частую леташняй наліўкай
і з дзьмухаўцоў пляту сабе вянок.

Над горадам сваволіць май гуллівы,
я пакланюся звоцшаля яму,
а гэты дзень высокі і шчаслівы,
як сонца, над зямлёю уздыму.

*1979*

* * *

Не спатрэбяцца лёгкія вёслы,
далягляд над ракой адгарыць,
як жа цяжка бывае дарослым
толькі позіркамі гаварыць.
Рыбакі пасля добрага ўлову
пад сасною вядуць гаману,
не прасі запаветнага слова,
я ўсё роўна цябе падману.
Сцежка вузкая. Позірк глыбокі.
За ракою шумяць чараты.
Толькі надта ж той бераг далёкі,
ну, а гэты занадта круты.
Не для ўцехі цвітуць адвячоркі! -
будзеш з іншымі словам лаўчыць,
нас не грэюць высокія зоркі,—
і душа безнадзейна маўчыць.
Праўдзі напрасткі за развілку,
тут залішне выразны абрыў,
я, магчыма, прыму за памылку
калі-небудзь і гэты разрыў.
У жыцці недалётаў даволі,
можа, долі сваёй не ўлаўлю,
не схачу разняволенай волі
і ў сабе успамін палюблю.
Стане позірк, як зараз, глыбокім
і праз зараснік лесу густы
уваткнецца у бераг далёкі,
абрываючы бераг круты...
*1979*

* * *

Шчасліваму і гора дапаможа,
ды ўсе часцей жыццёвы калаўрот
бязлітасна заве у падарожжа
да адзіноты, смутку і згрызот.

Жыву, нібыта долі сваей вырак,
самотна вочы сінія глядзяць,
і толькі думкі ў невядомы вырай,
нібы лісткі апалыя, ляцяць.
*1979*

* * *

Я З душы сваей вырвала слова
і яго акрыліць не змагла.
За абдымак куплю ў птушкалова
маладога пад восень шчыгла.

Каб сшалелы, не проста з настрою,
а з высокае гэтай цаны
заспяваў ен што-небудзь такое...
рызыкоўнае... наўзманы.

Падхаплю перасохлым дыханнем,
што ж ад змоўклага лета чакаць?
Ці не лепш мне з вучнеўскім стараннем
ссалавелай душы падпяваць?

Ветры моцныя ў шыбы ляскочуць
затуманеных з рання акон,
дзесьці бабы дарэмна сакочуць,
што бясслаўна лячу пад адхон.

Дзякуй Богу за нораў нязломны,
непрывыклы таіцца наўзбоч,
аддаю супакой нескаромны
за адну разгавелую ноч.

За адно акрыленае слова...
І на добрую славу шчыглу
абдыму яшчэ раз птушкалова,
а іначай і жыць не магу.
*1979*

* * *

Ластаўкі сядзяць напагатове,
крок неасцярожны і... зляцяць.
Сэнс таемны чую ў кожным слове
і баюся позірк свой падняць.

Аддае бульбоўнікам зляжалым
(трэба ж нечым полю прывячаць),
як неўтаймавана лёгкі шалік
зноў ірвецца да твайго пляча.

Я на смеласць гэтую злуюся,
шалік свой зацягваю мацней,
ластавачак спудзіць не баюся,
а за сэрца стала страшна мне.
*1979*

* * *

Не цалаваць, не думаць, не чакаць,
хадзіць у госці да сяброўкі зранку.
З усмешкаю знаёмых сустракаць
і слухаць дрэў азяблых калыханку.

Прыміранае часам пачуццё!
Куды толькі мяне яно не гнала,
яно, як боль тупы праз забыццё,
з агню ў агонь бязлітасна кідала.
Жанчына. Маці. Сталы мой узрост,—
вытрэбваюць нямала абавязкаў,
як паліто ў дзяцінстве навырост,
мне выпала на міг кароткі ласка.
Я вырасла з яе і адышла,—
трохкутніка класічная развязка,
не зразумела толькі, як магла
загразнуць, дзе, здавалася, няграязка.

Каханы. Сябра. Карацей — чужы!
Мароз узоры зноў на шыбах вяжа.
У полі вецер лёгкі адкружыў
і заўтра ля пад'езда снегам ляжа.

Закоўзаюцца дзеці... І мой сын
па гэтым снезе пройдзе з асцярогай,
зімовая, да лому ў скронях стынь,
гарачая да наледзі трывога.
*1979*

* * *

Яшчэ захоўваюць сукенкі
цяпло нядаўна мілых рук,
яшчэ гарацць начамі зрэнкі
агнем нявыплаканых мук.

Яшчэ бяссонне з хаты гоніць
ад горкай думкі аднае:
мяне нічым ен не палоніць,
а легка дыхаць не дае.
*1979*

**КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ**

1
Праспявалі салаўі вячэрню.
Ноч маўчыць.
Заблішчыць раса сцяжэлым зернем
на мячы.

Свечак золкай додніцай назаўтра
не палі.
З поту векавой мужыцкай праўды —
соль зямлі.

Да абедні распяюць туманы
салаўі
над праткнёным дзідаю курганам
у баі.

І яшчэ далёка да памоста,
чысты шлях,
і гарыць лязо сякеры гострай,
нібы сцяг.

2
Не здрадзь сабе.
Фальваркі паліць помета.
Мяцежны дух — істоты ўсёй рывок
у бунт або ў сасновы шум пагоста,
ёсць доўгі век, а ёсць — жыцця на крок.

Не здрадзь сабе.
Склікае пушча вояў.
Крывавы месяц.
                    І птушыны крык.
Гісторыя —
            для славы і герояў.
Здабудзе сабе славу і мужык!

Не здрадзь сабе.
Падзьме завея сечы —
пралеска ў пушчы вырасце з крыві...

Скрыжуй свой лёс з надзеямі галечы,
ёсць кары меч, а ёсць палон любві.

Жыццё а дно.
Ноч за яго абсягам.
Катрынка долю выплача ў журбе...
І стане доля ратных дзён працягам,—
не здрадзь сабе!

3
З-за далягляду выплыве світанне,
як пікі, промні ўрэжуцца ў страху...
Я смерць прыму, бы ў край чужы выгнанне,
шыпшыны куст ля хаты — на шляху.

Бывай!— скажу. Табе б на полі бітвы
лепш узрасці, дзе зараз груганнё...
І слухаць абяздоленых малітвы,
пялёсткі к небу ўскінуўшы агнём.

Бывай!— скажу яшчэ сівой жанчыне.
Яны был і са мною да канца,
паплач па іх, а потым па Айчыне,—
паплач за сына, брата і айца.

Мы косы, мы сцягі свае ўзнімалі,
крышылі склеп пранізлівай тугі,
надзею маю, што не ўсе мы палі,
я адыду, і з'явіцца другі...

Засну на міг і бачу: за платамі,
у чорным полі ўюцца крумкачы...
Мундзіры...
Пыл...
Палын пад капытамі...
Узнятыя сялянамі мячы.
*1979*

* * *

Даўно крыклівая малеча
гуляць пакінула ў сняжкі...
Як перабыць мне гэты вечар,
ён адзінотаю цяжкі.

На перамерзлым тратуары
гудуць вятры на ўсе лады,
спрабуюць будучым ударыць
і пражытым б'юць гады.

Жыццё не вывернеш пальчаткай,
дарма гуляць з ім у любосць,—
канец ужо ў самым пачатку,
і баранюся тым, што ёсць.
*1979*

## УСПАМ ІН ПРА ЦЁТ КУ ЯНЮ

Можа, кляў гаспадарку: гары яна гарам.
Можа, меў гостры зуб на суседа Кузьму.
І, аднойчы ўскіпеўшы, яе ён ударыў,
і яна пакланілася нізка яму.

...І, калі на вазок сн падсаджваў другую,
у яе на вачах, як купец на карму,—
адвярнуўся ад слоў: «Як жа я давякую?!»,
і яна пакланілася нізка яму.

А пасля лугавінай, нібы па кіліме,
да сялібы вяртаўся ён цераз зіму,
задыхаўся ад думкі: «А раптам не прыме?.
і яна пакланілася нізка яму.
*1979*

* * *

Ужо не трэба шкадаваць
сардэчных слоў, размоў кароткіх.
Замерзла ў Свіслачы вада,
даўно пры сем'ях аднагодкі.

І нехта мой настылы дом
назваў пакутніцкім астрогам,
а я заўсёды за парогам:
пад кронай ці пад ліхтаром,

А найчасцей іду туды,
дзе ў час начны прахожых мала,
дзе зажурыўся наш Купала
пад снежнем ясна-маладым.

Дзе пад сумётам ліст кляновы
заве з глыбінь зямных траву,
дзе я ва ўладзе той размовы,
што людзі споведдзю завуць.

*1979*

* * *

*Міхаілу Пташуку*

Чамусьці ўзяў і ўсё парушыў,
на мой прывет — глухі адказ!
Не разышліся нашы душы,—
стаў нехта трэці паміж нас.
А разганяў не раз хмурынкі,
як брат старэйшы нада мной,
дзяліў салоны смак скарынкі
і бедаваў маёй журбой.
Чаму ж тады цяпер не ў згодзе
Ён мне, як правая рука,—
мой астравок, мае разводдзе,
мая туга палешука?
І мне трывожна, мне шчымліва
хоць здрады ў тым маей няма,
што адзываюся шчасліва
на тое, трэцяе... імя!
А ен, як быццам так і трэба,
глядзіць сурова з-пад рукі,
з сабой узяўшы толькі неба
палескай вбскі Федзюкі.

*1979*

* * *

*Маме*

Як ціха яблыні шумяць
у нашым садзе,
мы адвячоркам ля акна
з табой прысядзем,
пачну расказваць пра сябе,—
табе цікава,
а мне лавіць бы на сабе
пагляд ласкавы.

Жаночы лёс — няпросты лёс,
я гэта знаю,
удосталь смеху, ўдосталь слез
усе прымаю,
да сэрца блізка не бяры
мае нягоды,
яшчэ спяваюць салаўі
мне цераз годы.

Як ціха яблыні шумяць
у нашым садзе,
давай жа, мама, ля акна
з табой прысядзем,
цень адвячоркавы, густы
на шыбку ляжа,
табе пра тое, што ўтаю,
вясна дакажа...

*1980*

## КАЛІНАВІК

Хаду калінавіка чую,
ідзе з барвянай галавой.
Пад небам зорным заначуе
з сяброўкай вернай палявой.

Адчуе млосць у дужым целе,
у кроў ударыць буйны хмель.
Каліна белая рассцеле
яму гарачую пасцель.

Халодным вокам поўня гляне,
пачуе ў полі лёгкі ўздых,
то не трава ў жалобе вяне,
то шэпт каханкаў маладых.

Азвецца ноч гуллівым звонам,
струной напятай загудзе,
з каліны белая карона
у травы спелыя ўпадзе.

Калі ж прачнуцца на дасвецці,
зноў пойдзе ён сваей хадой,
услед яму заб'еццца веще
каліны горкай, маладой.
*1980*

* * *

Адгукнуўся смуткам шолах
сакавітых летніх траў,
у душы гуляе сполах
абяцаных мне забаў.
Не гляджу цяпер з тугою,
як бывала, ў цёмны кут,
падзяліла лёс з другою,
падзялю і боль пакут.
Не паверу, што шчаслівы
ты ў агні яе начэй,
зноў сустрэўшы палахлівы
позірк сцішаных вачэй.
*1980*

## З РАЗМОЎ ВЯСЁЛАЙ УДАВЫ

«…Хіба што да Паўліны зайдзіце,
яна многа чаго расказаць можа».
*Зарэчча, 1979 г.*

1. * * *
Ты навошта мне прыносіш
шоўку белага адрэз,
ну, хіба зіму упросіш —
не цвіце зімою бэз.

На адлеце маладосці
птушкай восеньскай свішчу,
папрасіся толькі ў госці —
нават чорта не ўпушчу.

Гэты позірк мне знаймы,
гэта памяць да вугла:
мне ад іх акон праймы
занавесіла імгла.

Замятае снег калючы
сцежкі ўдовінае зрэз,
лепей скінуў бы ты з кручы
шоўку белага адрэз.

Выпрабоўваць лёс не трэба,
падарунак забяры,
нада мной пасекла неба
злая доля без пары.

Ды, напэўна, з ласкі маю
расцвіце вясною бэз...
Уздыхну і прыгадаю
шоўку белага адрэз.

2. * * *
Сінявокі май галубіцца,
млявы золак п'е нагбом,
за туманамі заблудзіцца
малады вясновы гром.

Пакахаю Васю-мельніка,
будзе жорны ён круціць,
за сцяной густога ельніка
мілай пацеркі дарыць.

Зацвіце чабор аброшаны,
задурманіць галаву,
Вася свой пінжак паношаны
кіне ў шызую траву.

Баю-баю, мая гусанька,
на плячы маім засні...
І сама ты маладзюсенька,
і гарыш, нібы ў агні.

А назаўтра пройдзе мацерка
па узмежку тым з казой,
ой, чыя ж тут,— скажа,— пацерка
прарасла за ноч слязой.

3. * * *
Я чужых не абдымаю,
ты ідзі дадому,
у руках вясло трымаю,—
хваля здыме ўтому.

Па вясне завяла гронка
бэзу каля хаты,
не каханка і не жонка,
хто ў тым вінаваты?!

Па ўсяму відаць, з узростам
памяць усыхае...
Мо яшчэ й цяпер пад мостам
цень мой замірае.

Ой, гады, мае гадочкі
(вось і век Паўлінін),
абляцелі, як лісточкі
з маладой каліны.

Як жа мне цяпер гукаці
лецейка у хату?
Як жа мне з табой стаяці
любым, ды жанатым?..

4. * * *
Пdescribed
бульба ды часнок,
ты ў далйкае Заброддзе
не хадзі, сынок.
Там гароднiна даецца
хоць каму ды ў дар,
там нiколi не злуецца
добры гаспадар.
Госцю кожнаму сн рады,
ветлiвы заўжды,
толькi ж тыя, тыя грады
блiзка ад бяды.
Я туды пайшла аднойчы,—
не ўзяла часнок,
а туга заслала вочы
наўсягды, сынок.

5. * * *
Трэба знесцi: хныч — не хныч!
Груд бульбоўнiку.
Кажуць бабы: «Ты пакліч
палюбоўнiка».
І пайшла я за сяло,
разгукалася...
Толькi рэха весяло
разгулялася.

Упляталася ў быльнёг,
гнула вецце...
Прыляцеў і лёг да ног
вецер.

* * *

У кожным слове есць мастацтва,
жыве па прынцыпу адным:
з маленства уступіт у сваяцтва
не назавеш павек чужым.

І з гэтай простаю высновай
у моцу сіл сваіх пяеш,
са слова пачалася мова,
а што я, людзі, без яе?!

**СЕРАБРАНКА**

З якое шчодрай самабранкі,
з якой вясны, з якога лета
плыве па вулках Серабранкі
духмяны водар першацвета?

Не пабаюся, што захмеліць
ускрай былое лугавіны,
яшчэ хачу бяздумна верыць
няхай сабе і ва ўспаміны.

Лічу жыццё сваё звычайным:
сякуць дажджы і спёка морыць,
навошта ж ластаўка адчайна
не-не ды песняю адорыць.

Тады стаю за паваротам,
ліст зелянцовы абрываю
і ад сябе самое ўпотай
кагось далекага чакаю.

Няўжо не ўспомніць тыя ранкі,
няўжо забыўся ён на лета,
дзе гэтаксама Серабранкай
плыў хмельны водар першацвета

Як разышліся — не згадаю,
іду штолета на сустрэчу,
і, як тады, лісток зрываю,
і, як пасля, яго камечу.
*1980*

* * *

У тваіх блукае валасах
месяц, а ў вачах блішчыць рыжынка,
мне ж бацькамі дадзена ў пасаг,
на ўсялякі выпадак, смяшынка.

Я гадзіны гэтыя люблю,
справа не абы ў мяне якая,
месячык, старанная, лаўлю,
рукі маладыя апякаю.

Затрашчыць уночы лйдастаў,
валасы твае мякчэй за кужаль,
ты яшчэ і сябрам мне не стаў,
а гаворыш: будзеш добрым мужам.

Ды чаго не скажа маладосць!
Да акна прыбілася сняжынка,
і чамусьці добра знаць, што есць,
на ўсялякі выпадак, смяшынка.
*1980*

* * *

Мой N... Далей не буду. Гэта грэх
цікавасцю дражніць людзей пачцівых.
Мне еорамна за мой салодкі смех
і горка за пагляды нешчаслівых.

І ўсе-ткі N... На дыбачках прад ім
кручуся феяй, матыльком вясновым,
І вочы засціць легкі мройны дым,
і тлумны свет ва ўсім глядзіцца новым.

Дзесь арганіст садзіцца за арган.
І хтось Нябачны лєсы нашы вершыць.
Мой мілы N.., вам выпала: раман!
Мне ж толькі строфы нечаканых вершаў.
*1980*

* * *

Калі б я знала, што — ў гадах?—
была б да ўчынкаў асцярожнай,
ды нават слова па складах
раскласці не заўсёды можна.

Калі б я знала,— дзе? Калі?—
узнікне тая агароджа
зямлі, дзе ўжо няма зямлі,—
не пражыла б і дня, быць можа.

Калі б я знала, што няма
душы, каб мне душой прыпасці,
я не чакала б, я сама
сабе адмовіла б у шчасці!

Калі б я знала?..
Свеце мой,
я не хачу глыбінь пазнання,
дай, чым ты жывы, мне жывой,
каб знаць, за што плаціць дыханнем.
*1980*

* * *

На ўсё, на ўсй кажу: мажліва...
Пры сонцы можна быць дажджу,
пры шчасці поўным — нешчаслівай,
а я — шчаслівая хаджу.

І можна быць пры ліставею
надзіва ціхае начы...
Я аднаго ўявіць не ўмею,—
хаджу шчаслівая пры чым?!

* * *

За жнівом надыходзяць дажынкі,
той шчаслівы, хто ўпору дажне,
шчаслівейшы,— хто з першай дажджынкай
толькі-толькі сяўбу распачне.

Дзе жніво маё?— Поле не зжата,
томіць вочы зялёны загон.
Скажа восень, чым буду багата,
мне б хапіла і жменькі з яго.

І яе раздару без астачы
перад выраем вечным сваім,
перад полем, якому аддзячу
тым, што вечны мой вырай у ім.

Дзень мінецца,— бліжэй да спачыну,
набіраю з аддачай — вагу,
і раскрыць гэту ісціну сыну,
даўшы свет яму, я не магу.

Каб было прад людзьмі не ганебна,
моцна веру ў жыцці аднаму:
мне дажаць сваё поле патрэбна,
каб было з чаго сеяць яму...

*1980*

* * *

Жыву, як есць, не без заганы,
і не нясу журбы гадам,
і, можа, я другім каханым
сябе па кропельках раздам.

І ўсе, што снег не зацярушыць,
сплыве вясною па вадзе,
і што там губы! Нават душы
не сутыкнуцца анідзе.

Ні тут, ні там... у снежнай сіні,
ах, не пра гэта мой радок,
навошта несці ва ўспаміне
сатлелай памяці грудок.

Пары харошай — недарэчнасць,
на спад збіраецца зіма...
І застаешся ты, як вечнасць,
і знаю — вечнасці няма.
*1980*

* * *

Мяч, сынам кінуты, злаўлю
і потым весела, як брошку,
дзе б'ецца сэрца, прыкалю
з букета сінюю валошку...

Хутчэй да жыта, за хлявы,
забыць пагляд вачэй суровых!
І да начное сінявы —
шаптацца з лугам чабаровым.

Надыхацца, узяць у кроў
і захмялела, як ад брагі,
заліцца песняй ля жытоў
з жаночай смуткавай адвагі.

Прыкласці рукі да грудзей,
дзе абмірае тонкі кужаль,
і кожнай рыскай заірдзець,
як першай ноччу па замужжы.

Ісці спаволена праз луг
на голас птушкі палахлівай,
дзе, можа, ўпершыню пастух
заплакаў горка і шчасліва...
*1980*

**РАКА**

Вецер лісце гоніць па дарозе.
Мне даўно няма каго чакаць.
Плешчацца, праклятая, ў парозе
адзіноты чорная рака.

Творыцца няўмольнае ў прыродзе,—
сад правеў у доўгі шлях шпака,
нават прышлы чалавек не зойдзе,
з кожным днём глыбей — мая рака.

І звініць любая рэч у хаце
хваляй, што не знае астраўка,
нехта пазайздросціў на багацце,—
многа тоіць вод — мая рака.

Устаю — яна бурліць гулліва,
спаць іду — плюскоча весялей,
дзіўна, каб была я нешчаслівай,—
гэткая рака ў мяне! — але...

* * *

Мы не хаваліся за фразы,
бо грэх — хавацца ад сябе,
дзе кожны пры сваей журбе,
дзе кожнаму відно адразу:
стаім пад горасным вянцом...
А гэты шэпт і гэта ласка,
як недаказаная казка,
з ужо вядомым нам канцом.

*1980*

* * *

У грудзях замірае дыханне,
а на вуснах — экспромтны куплет,
мне прызначыў сягоння спатканне
самы лепшы расійскі паэт.

Прыхарошаны куст адзінокі
за акенцам глядзіцца ў ваду,
я таропка адмерваю крокі:
не пайду, не пайду, не пайду!

І, каб нешта ў настроі зыначыць,
недаростак-вазон паліла...
А паэт мне радком растлумачыць
тое ўсе, з-за чаш не прыйшла.

* * *

На вярбе каташок, як вочка
маладой акіянскай нерпы,
асакой прашумела ночка
ля чужога сяла Прыцерпы.
Воды чыстыя абмывалі
беражок у часы прыліву,
і расчэсваў грабеньчык хвалі
прыбярэжных туманаў грыву.
І парыпвалі ціха вербы,
цені сплёўшы ў густую пляму,
ля чужога сяла Прыцерпы
сніла я маладую маму.
Угаворвала цймную ночку,—
ты мой сон павартуй пад вярбою,
вышывае мама сарочку,
хай пабудзе яна маладою.
Рукі ў мамы баляць нясцерпна...
І свяціліся доўга ўночы,
ля чужога сяла Прыцерпы
маладыя мамчыны вочы.
*1980*

* * *

Раптам сонечна і блізка
позірк твой злаўлю.
Неба — жураўлю калыска,
я люблю зямлю.

З пахам кмену і каляндры,
толькі выйдзі ў сад,
абаўе, як хмель, прляндай
дзікі вінаград.

Толькі сёння я не выйду.
Чуеш,— сэрца стук
мне расказвае пра крыўду
ад няверных рук.

Бо з чаго такі ліслівы,
хітры баламут?
Дай і мне пабыць шчаслівай
у агні пакут.
*1980*

* * *

Усё бліжэй стаю да рыскі,
якая вынік падвядзе,
і хтось далекі стане блізкім,
маўляў, быў другам у бядзе.

І не з маёй — з чужое волі —
мае і радасць, і бяда
(на тое прыкладаў даволі)
інакш раскажуцца ў гадах.

Чаканняў. Страт.
Памылак россып,—
развеецца ў часах, як тло,
снягі мае, паводкі, росы
навечна выльюцца ў — было...

Было, і ёсць, і далей будзе —
малыя сцежкі, бальшакі,
скуль па адным сыходзяць людзі
у незваротныя шляхі.

Дзе ўсё зямля сабой залечыць,
дзе возьме завязі расток
з самое долі чалавечай
любові і надзей выток.
*1980*

* * *

Валасы — як са спелага стэпу,
стэп ніколі не быў дарагім,
а гляджу, удыхаю, і слепну,
і бяссільна зліваюся з ім.

На сцяжынах расла палыновых,
дзе ажыннік у месцах глухіх
мне шаптаў адмысловыя словы,
і рабілася млосна ад іх.

Я запомніла тую навуку,
не прымала ніколі за хлеб,
а, як зерне, кідаю па гуку
у губамі апалены стэп.

## 11 МАЯ

Мяне трывожыць цветам сад,
там нешта сёння адбылося.
Цвіценне радуе пагляд,
а сэрца прадчувае восень.

Я сокі майскае зямлі
хачу ўвабраць душой і целам,
яшчэ сады не адцвілі,
а дзьмухаўцы ўжо абляцелі.

* * *

Нехта пазірае ўслед варожа,
адыходзіць хтосьці ў заняпад,
студзеньская легкая пароша
нагадала мне вясновы сад.

Лопнул і будзеннасці вярыгі,
вераб'і, хоць імі гаць гаці,
ад садоў Чыжоўкі да Нямігі
пнуцца мне сягоння дагадзіць...

Як жа кружаць, бы ўзапраўду вёсны
тыя ўсе, што трэба мне пражыць,
вырашылі днём прадстаць дзівосным,
днём адным, і кола завяршыць.

Як крычаць старанна і бязладна,
голасам раздзьмухваюць снягі...
Добра мне кудасаю каляднай
думаць аб далёкім, дарагім.

Добра чуць, як зноў па сэрцы дзёрзка
блізкае адлігі б'е капеж,
і пачуццяў здрадлівае войска
ўпершыню не хоча здаць рубеж.
*1980*

* * *

Прывязацца б душою і целам,
вочы б сінія прагна любіць,
колькі помню сябе — ўсё хацела
я жанчынаю вернаю быць.

Над закрытым стаю чамаданам,—
томік вершаў, сукенка адна,
а здаецца, жыццё спакавана,
чамаданчык ніяк не падняць.

Чую, хочацца сэрцу спачыну,
можа, верш свой апошні пішу,
і такія плывуць аблачыны,
нібы ў рай адпускаю душу...

* * *

Не пагаворым болей, як раней,—
на ўсё свой час, на ўсё свая прычына,
няхай зычлівай ласкаю кране
вас нейкая далекая жанчына.

Цяпер ніхто не скажа: вы — мой друг,
і вам не перадасць: яна — хваліла,
адцвіў той шапаткі вяселы луг,
што некалі ў пісьме вам падарыла.

Цяпер яднае толькі тлумны свет,
трывожныя, пагрозлівыя з'явы...
Які ж адкрыўся дзіўны мне сакрэт,
што ваша — вам: жыцце, надзеі, справы.

Як палюсы, што дзеляцца зямлёй,
жывем, і ўсё падкрэслена няміла,
а гэта проста ласкаю сваей
да кропкі з вамі я дагаварыла.
*1980*

* * *

Вада вірлівая, а плытка.
І не чакаецца дажджоў.
Я з некім іншым пераблытаць,
відаць, цябе пасгіела зноў.

Душа душы не закранула,
да сэрца сэрца не лягло,
ноч вераснёвая дыхнула
агнём, якім не апякло.

І ты ні ў чым не вінаваты,
і я часцей за ўсё пяю
на той вунь месяц сіняваты,
каб долю выпытаць сваю.

І чым званчэй, тым рызыкоўней!
Сягоння зблытала цябе,
а заўтра стане — усе роўна,—
не лічаць зерня пры сяўбе.

Ты падаеш руку на згоду
і слоў не мераеш вагой,
ахвяраваць яшчэ паўгодам,
каб зноў прыйсці да аднаго? —

клён адзінокі ў полі стыне,
пад ветрам ліст яго дрыжыць,
як мала ласкі ва ўспамінах,
як многа горкае ілжы.

Ноч неўпрыкметку прамільгнула,
і сведчыць позіркаў святло:
душа душы не закранула,
да сэрца сэрца не лягло.

* * *

Гэта слізкая ў восень хада
па няроўнаму тонкаму промню,—
стане потым чагосьці шкада,
а цяпер...
крок ступлю і — не ўспомню!

Дні ідуць, пакідаючы нам
астраўкі вераснёвага ззяння,
што са шчодрасці з сэрца аддам,
атрымаецца ўсе — ў падаянне.

Ахінае зямля карані.
Ты павязаны з гэткай жа доляй,—
ад вайны, ад бяды барані,
у астатнім — даруецца воля.

Белай птушкаю ў свет адпусці
і гарачае крыўды не слухай,—
зацярушвае час у жыцці
не такое сваей пацярухай.

Каб было і прасцей, і ясней,
буду думаць (каб толькі ўдалося),
што цябе пакідаю ў вясне,
а сама адыходжу — у восень.

І пашлю з беларускіх палёў,
з усяго, што жадана і міла,
не рамонак,— ён звяў і палег,
а пялёстак адзін — разлюбіла.
*1980*

* * *

З твайго саду да мяне на агеньчык.

*Мікола Селяшчук, алей*

У мяне палянка ёсць за садам,
многа там шыпшыны і травы,
дам табе высокую пасаду,—
будзь майго бяссоння вартавым.

Упадзе ў траву пялёстак клейкі,
задрыжыць расінка на плячы,—
адгукнуся голасам жалейкі,
каб не сумавалася ўначы.

Перадам з душы ўтрапёнасць слову,
што ірвецца спуджана здалёк,
у шыпшыннік, пад тваю ахову,
быццам саду лёгкі матылёк.

*1981*

* * *

Птушка патрывожаная свішча,
і настыл і з раніцы кусты,
хочацца на ціхае гарышча,
дзе схаваны даўнія лісты...

Сярод іх і мой няроўны почырк,
сціплае шматкроп'е — цераз сказ,
каб былі сухімі ў мамы вочы,
бед не выстаўляла напаказ.

Тыя беды зведзены дарэшты...
І нязвыкла ўспыхнула шчака,—
страшна мне натрапіць там на нешта,
што вяла шчаслівая рука...

На рыпучай з наледдзю драбіне
з дзіўнаю нясмеласцю стаю,
і купае ў снезе арабіна
ягадку прагорклую сваю.

**ТАМ..**

Якой адлегласцю аддалены,
якой імжакаю затканы
мае палескія праталіны,
мае сунічныя паляны?..

З дарогі радуюся дому,
як самым дарагім дарам,
але не меней і другому,—
кароценькаму слоўку — там-

Там скажа дзіўна: «Ў Антаполле!»
калі ў Антопаль на кірмаш
вязе дзе лесам, а дзе полем
вясёлы бондар свой багаж.

Яшчэ ў павазе там красёнцы,
і хлеб — акрасаю стала;
там вызначаецца па сонцы
сцяжына з лесу да сяла...

Улетку там шукаюць восы
салодкі яблык у лісцы;
і нечакана можа ўвосень,
як лёс, сунічнік зацвісці...

Шматлюдны горад мой сталічны,
людзей — мурашак талака,
але адразу па аблічча
заўжды пазнаю земляка.

Прыйшлі глыбокія туманы,
вось-вось і сцюжы загудуць,
а ўсё здаецца,— там паляны
мае сунічныя цвітуць...

* * *

Ну і пагляд,— курам на смех!
Адкуль такая падазронасць?
Хіба я белая варона?—
Жанчына я. І ў гэтым — грэх!
*1981*

* * *

Як добра часам, што наўкол
нямыя рэчы,
бязгучны мой пісьмовы стол —
цалую плечы.
Бязгучны шафа, крэслы, столь,
сцяна нямая,
бязгучным стаў былы мой боль,-
і а б дыма ю.
Не трэба шэпту, не прароч,
есць слова злое,
плыве ў люстэрку наша ноч,
яно — нямое.
Плыве, як цень, плячо к плячу,
мацней абдымкі,
і я — губамі падлічу
твае радзімкі.
Маўчы, не трэба пра пасля,
яшчэ — не заўтра,
а гляне коса хтось са зла,
скажу — няпраўда!
Няпраўда, ночы не было,
было — нас двое,
а што сказаць інакш магло б,—
усе нямое.
*1980*

* * *

Кладзецца першы снег на скроні,
жартуе снежань зноў са мной:
той чалавек мне не старонні,
але... праходзіць ста ра ной.

Не падымаюць поўны келіх
за тупасць гострую сякер,
якія ссеклі ўсб, што мел і,
мы без прыкідкі на цяпер.

А мне гаворыць, што часамі
ен з асалодай моцна п'е
за раздарожжа паміж намі,
што размінуцца не дае.

* * *

Забываць пражытыя годы
і наступным дарогу гаціць,
за хвілiннае — ах!— асалоды
непазбежнаю стратай плаціць.

Надакучыла даль снегавая,
дзе калючы і рэдкі хмызняк
у чаканае штось зазывае,
а туды не прабіцца ніяк.

Калядуюць бяссоннем Каляды,
чым сягоння сябе адарыць?—
за спакойным і мудрым паглядам
толькі сэрца не мудра гарыць...

Не стамлёнаму ўсё яму мала,
не спяшайся, мой скоры цягнік,
да білетнае касы вакзала
лбе тваім пасажырам прынік.

Пасажырам транзітным, не болей,
можа, голас далёкі забыць?
Дзверы насцеж у снежнае поле
я паспею і потым адкрыць.

Як выструньвае голас той постаць,
хоць на колах імчы, хоць бягом...
І адмовіцца быццам бы проста,
і ні дня не магу без яго.
*1981*

* * *

Цвіце ў гародчыку язмін
другой жанчыне ў асалоду,
нічога не прашу ў прыроды,
а толькі гавару: вазьмі!..

Навошта твару — прыгажосць,
дзяўчынцы трэба зграбнасць стану,
была няшчодрай маладосць,
няхай скупою будзе сталасць.

З ракі вясновай крыгаход
пагнаў у шлях вялікі смецце,
ці ж мне яго баяцца ў свеце,—
я так прывыкла да нягод.

Да той пякучае слязы,
з якой калісьці ткалі ўдовы
нявестам мілым паясы
на доўгі месяц іх мядовы...

Да шчырых гутарак без слоў,
да здзіву — так, каб не здзіўляцца,
спалохацца і рассмяяцца,—
няўжо язмін расцвіў ізноў?!
*1980*

* * *

Адсмяяўся, адплакаў, атрос
па пялёстку. Застаўся гарлачык
маку спелага ў вэлюме рос
на старой непрыветлівай дачы.

Не чакаецца сёння дажджу,
ні маланкі, ні ветру, ні грому,
а чаму на да рогу гляджу,
не расказвайце, вочы, нікому.

Там вядуць на прагулку дзяцей,
позірк рою дзіцячаму рады,
як далёка туды, карацей —
набалеламу сэрцу да здрады.

Помню, бегла насустрач бягом
і вяла да высокага ганка.
Сустракала, як брата свайго,
а развіталася, як з каханкам.

Толькі помніць яго папрасіў
і зарубку зрабіў на штыхеце,
і не стала з хвіліны той сіл
сцерці гэтую памяць аб леце.
*1980*

* * *

Заместа слоў пачаўся снегапад.
А двор прапах смалою і іглічай,
чаму мне гэтак страшна памыліцца,—
сказаць баюся нешта неўпапад.

Між ніцых дрэў зіма не ў першы раз
пагляд чаруе яркай белізною,
не трэба вам развітвацца са мною,
я, можа, ўсе жыццё чакала вас.

Сняжынак рой, як зорнае сяйво,
спяшае ноч да раніцы раскідаць,
прыкрыю твар шчаслівы рукавом,
каб вам безабароннасці не выдаць.

І позірк ваш дакорлівы злаўлю,
як ловіць промень веснавая хмарка,
няпраўда! Ну, якая ж я дзікарка,
хіба вам не відно: я вас люблю...
*1981*

* * *

Таксі праехала, і пырскі
дажджом халодным абдалі,
а чалавек мне вельмі блізкі
зноў адрывае ад зямлі...

На міг узніме пад аблокі,
вачам адкрые далячынь
і сам акажацца далёкім,
у вышыні той,— ні пры чым.

І на зямлю ізноў апусціць,
дзе лесы разам праляглі,
і ў вышыні той знаеш,— пуста,
і мала ўжо адной зямлі.
*1981*

* * *

Як і не гасла цыгарэта...
Пры мне,— нібы яго няма.
Адсутны мой,— ужо зіма,—
выходзьце з лета.

Бы і не ведаў ён нуды.
Пры мне,— заўжды,— нібы ў граніце.
Увекавечаны,— скажыце,—
з якой бяды?!

З таго, што млела дзеразой? —
пры мне — заўжды,— хоць пасаліце...
Разумнік мой,— не гаварыце,—
чысй слязой!

*1981*

* * *

Па правадах бяжыць нячутна ток.
Слупы, і пыл, і лопух лісцякрылы,
у ім вады халоднай на глыток
для тых, каго дарога прытаміла.

Зглыну, і зноў урэжацца абцас
у грунт, дзе столькі align рознага хадзіла,—
дзяўчына з незабудкамі для вас
і чутка,— што дарэмна вас любіла.

Я на сухі пагорак узыду,
а позірк пільны — незнаема пудкі,
вунь дом у трох бярэзін на віду,
і тры акны, і ў кожным незабудкі.

Ваш супакой, пры ім — дзяўчыны цень,
што стаў ужо даўно жаночым ценем,
навошта я ўрываюся ў ваш дзень
тым прамінулым бэзавым імгненнем.

Для адзінокіх душ няма жытла,
любоў для іх — дадатак адзіноты,
як шчыра прагнуць ласкі і цяпла
і як сумуюць пры цяпле тым потым.

Ці помняць тры бярэзіны мяне,
прывыклыя да іншага аблічча?—
вунь цень жаночы бачыцца ў акне,
і голас,— быццам кнігаўка кігіча.

Гарачым смуткам сухавей свістаў,
і кветак тут для вас я не ірвала.
Не адсылала шчырага ліста,
калі прасілі, каб пашкадавала.

Чаму ж збялела тая, што ідзе
насустрач мне, я саступлю дарогу,
я проста — адзінокая ў бядзе,
нязваны госць ля першага ж парогу.

Навошта я? — І праўда,— што я тут?
заўсёдны сведка смутку і разладу,
хіба ў мяне няма сваіх пакут
наперадзе і непапраўна ззаду!

Навошта я? Мне трэба даць адказ
той, што стаіць, нібыта пры магіле,—
мы ўсе бяжым адтуль, дзе любяць нас,
вяртаемся туды, дзе нас любілі.
*1981*

* * *

Забыць іназаўсёды адысці.
Навошта —
Вы, і голас Ваш, і крокі?
Навошта дрэва марыць аб лісці,
калі цяпло ад дрэва так далека?!

Адмовіцца, каб ведаць, што знайшла!
Купіць білет, і слухаць Дзіна Рыда,
і чуць, як у душы смяецца крыўда
з тага, што вера доўга ў ей жыла.

Адмовіцца!— насуперак кручыне,—
і гэта ўсе, што ў долю магу даць
не брату, не таварышу,— мужчыне! —
і вернасцю сваею пакараць.
*1981*

## ПАТАРОЧА

У густых арэшніках рагоча,
у гаях калінавых — пяе...
Выбяжыць да грэблі патароча,
быццам там чакае хтось яе.

А калі ў лугах сівых світае,
пад стары масток бяжыць бягом,
там начныя кветкі пакідае
і сама не знае — для каго!..

З'явіцца здалёку нехта прышлы,—
лотаццю прыкінецца ў вадзе,
ды, напэўна, той,— адною лішне,—
чалавек і вокам не вядзе.

Выплакацца з шрычы захоча,—
не ўгадае трапна, перад кім,
людзі кажуць,— гэта ж патароча,
незямной, не трэба жыць зямным.

Ноч мяне нядаўна падманула,
патарочу прывяла імгла,
твар яна чамусьці адвярнула
ды з дарогі хуценька сышла...

І тады ўва мне ўзнялося смехам
(тое ўсё, чым я дасюль жыла),
патароча адказала рэхам,
і я зноўку голас падала...
1980

* * *

Паспытаўшы вясновага шалу,
адляцелі мае жаўрукі
і пакінулі песню пра Галю,
што з сабою ўзялі казакі.

Не заўжды легкавернасць да страты,
я сюжэтам тым сэрца гаю,—
знойдзе доля сірочая — брата,
ашуканы — надзею сваю.

І ў хвіліны цяжкія не варта
перад небам высокім грашыць,
вунь стаіць мая верная варта,—
амялушкавы гай пры шашы.

Вунь сцяжына і водар грыбніцы,
вунь прагал, дзе брусьнічнік расце,
дам напіцца з рукі, бы з крыніцы,
і шчасліваму і сіраце.

І за гэтую радасць малую,
і за хлеб той, з якога жыву,
незаганна, калі пацалую
дол сыры, разгарнуўшы траву.

Прычакае прырода мяцеліц,—
на каго і на што наракаць? —
веснавыя мае адляцелі,—
трэба новых гасцей сустракаць.
*1981*

* * *

І я сказала: «Больш не трэба фальшу.
Зіма прыйшла. А вы — вясны кумір».
Ляжыць забыты на канапе гальштук,
зусім як нечаканы сувенір.

Дзятва бяжыць з гары крутой да хаты.
За гальштук быў бы ўдзячны снегавік.
А позірк мой таму і вінаваты,
што к гэткім падарункам не прывык.
*1981*

**ЛІПА ЦВІЦЕ**

1

Ля прыбмнага пункта шклатары
маладзенькая ліпа расце,
там стаіць чалавек — без тавару,
цягне сонечны дзень пакрысе.

Так, нібы для здароўя карысна,
быццам справы няма гультаю,
я зашморгваю штору наўмысна
і тым самым — сябе выдаю.

Лепш бы картаю бітаю выпаў
ты,— што зараз глядзіш на акно,
лепш бы там, пад нявіннаю ліпай,
заглынула, як прорва віно.

Грэх ці не!
Сонца ў небе — аладкай,
і зарубкаю — боль на ілбе,
і сукенкі глыбокая складка
пад рукой занямелай — глыбей.

Што таіцца? Я позіркаў прагну,
я сама, як агонь светлячка,
хоць і знаю, што з нашае праўды
пасталець можа ваша дачка.

Зразумее яна ці асудзіць?
Бачыць Бог,— адвярнуць не змагла,
цяжкі камень усклала на грудзі,
лёг,—
як зорка ля сэрца ўзышла.

Вас!
Навошта па нес гэты скоры?
Вам схлушу, а сабе не зманю,—
адхінаюся гэтак ад шторы,
бы глынула знянацку агню.

І маленькага сэрца удары
шле да ліпы ўзбуялая плоць,
і займаецца там, ля шклатары,
першацвету няяркая жоўць.

2
З чужое ночы ен прыйшоў
у вечар мой, у песню голля,
на мне сукенкі белы шоўк,
нібы настольнік для застолля.

Застыла ліпа, як струна
(чужэюць гэтак з недаверу),
быццам паклікала яна
мяне на тайную вячэру.

Двару глухому дорыць пах
і пад сабой — чакае змовы,
а на маіх зямных губах
няхітрыя смяюцца словы.

З таго, што выжла верна спіць
і куст шыпшыны коле рукі,
што я не помню, як баліць
душа з любоўнае разлукі.

3
Бываюць дні, калі раптоўна
з пустога, ну няма з чаго,—
выключна робішся тактоўнай
і любіш ворага свайш.

І злыдня назывaет братам,
не чуеш злосніка брахні,
і што ні дзень — сама расплата
за крыўды ўсе і за грахі.

Няўжо набеглі дні такія?
Дазвол на ўсё, што не зраблю!
Вы загадайце мне — і кіем
я зорку момантам саб'ю.

І вам аддам.
І ўсб няпраўда.
Мана!
Ружовенькі наіў!
Калісьці ж прыйдзе тое заўтра,
што ўсё аголіць, як адліў.

І злыдзень застанецца злыднем,
і вораг — ворагам маім,
зласлівец,— адчувальна вытне,
а ў вочы пусціць сіні дым.

І зорка — зоркай. Збіць не здольна.
І думка сумная шкрабе:
адно магу: і ў тым я вольна,—
З усім сваім аддаць сябе.

4
Прыляцелі і паселі
развясёлыя стрыжы.
Што сягоння я пасею,
ты рукой сваёй сажні.

Можа, жыта, можа, проса,—
аддаю табе ўраджай!
Тым усім, што дол і просяць,
на шчаслівую — раздай.

І сляпому і глухому
з поўнай жмені сыпані,—
хто бяжыць ад скрухі з дому
і таму, хто на кані.

А самому стане крута,
толькі б я сказаць змагла,
чым закусваць жаль-атруту,
што ў душу тваю ўліла.

5
Мой шалік горнецца к цяплу,
а мне дяпло — чужая слава,

нервовы вецер я люблю
і тытунёвы пах гаркавы.

Сястра-сініца. І адной
мне зразумела песня птаха,
я, мілы мой, не пабіраха,
хоць і з працягнутай рукой.

Не, я цяпла не папрашу,
мяне ад сцюж затуліць хата,
мець стала модна мецэната,
мне б — толькі родную душу...

6

Перавернецца свет, гэта ж праўда,—
                    такое бывае,
як пужлівая лань, небяспеку пачуўшы, бяжыш,
а яно, пачуцце, непазбежна, як стрэл, даганяе
і спакусіць, як д'ябал,
          і кіне ахвярна на крыж.
Спакушай, не баюся ніякай пякельнае мукі,
мы ў жыцці разміныемся, як цені
                    ад розных планет,
гэта ведаю я і насустрач працягваю рукі,
я — ахвяра твая, ты —
                    яшчэ не заселены свет.
Пазаві, адвядзі мне лясную палянку,
адвядзі мне пустыню, я там правяду арыкі,
пабудую там хату, павешу на вокны фіранкі,
ускапаю гарод і пасею вясною гуркі.
Будзеш спраўна страляць — будзе ў доме
                              дзічына,
будзе піва варыцца і песня ірвацца пад столь,
а каб род працягнуць, нараджу
                    пад Вялікдзень я сына,
важна чарку падам і з дубовае бочкі — расол.
Як на справе далека ад явы трымаецца мара,
мы ў жыцці разміныемся, як вогнішчаў
розных дымы,
будзе ліпа цвісці, будзе пункт
па прыёму шклатары,

запярэч, падкажы мне жаданае — будзем і мы...

7
Дыхнула ў твар начною прахалодай,
праехала маршрутнае таксі,
кажу сабе: «Майстэрствам авалодай,
астатняга ні ў кога не прасі.

Няма віны — ніколі не вініся,
жыццё саткана з мёду і крыві,
на ім згары, і горка падманіся,
і зноў уверуй — з гэтым і жыві».

8
О як жыву з адною толькі верай!
Ты адабраць мяне схацеў у дня,
дзе прыручыць змагла б я нават звера,
а тут — здаецца лішняй дабрыня.

Галіны ліпы шапацяць драпежна,
маўчаць салоўкі, і маўчаць гракі,
хачу ва ўсім застацца незалежнай,
хачу залежаць ад тваёй рукі...

9
Прад ім рассыпала душа
слоў залатых бярэма,
а ён ідзе, нібы паша
да пільных спраў з гарэма.

Яму і ласка — не закон,
загад — чужое права,
нібы жыццё даруе ён,
а смак жыцця — гаркавы.

Таму і ў вочы не глядзіць...
Забіла голлем ліпа
ў жаданні ўміг адгарадзіць
яго ад майго ўсхліпа.

А я не ўсхліпну. Ноч са мной

здаўна жыве ў саюзе,
паставіць тварам прад маной
і кіне ў шал ілюзій.

Ён прада мной — як за сцяной,
а лепш — за небакраем,
куды ўзмужнелы голас мой
па песні выбягае...

10
Я змагу сказаць — шчаслíва,
што не дадзена — не мецъ!
Буду думаць, што імклíва
развяла нас крутаверць.

І ні дзе, ні ў якіх сферах,—
і зямных і незямных,
як рака, размыты бераг,
не пачуеш слоў маіх.

Толькі доля вінавата,
а ў мяне яна адна!
Чарку п'ю з чужога свята,
і хацелася б — да дна.

У гняздзе для песень птушка,
а дасціпны б параўнаў
з той пасажнаю падушкай,
што вясёлы сват украў...

11
Зналася з пяшчотаю,
не займала й лёду,
свята — за суботаю,
а бяда — заўсёды.

Белая ці чорная?
З крапівой ці з ружай?
Воцат п'е законная
за нядобрым мужам.

Галубком ці воранам?
Плача ці смяецца?
Ля ўдавіцы зморанай
вужам абаўецца.

Я — і не законная,
я — і не ўдавіца,
я к табе, бяда мая,—
нізка пакланіцца.

12
Не біся так моцна, сэрца!
    Мы пойдзем дадому.
Па нейкай ледзь адчувальнай прыкмеце
    тваю адчуваю стому.

Цяпер бы пабегчы ў поле,
    дзе ніхто не пабачыць,
як вачамі сухімі
    над нечым сваім мы плачам.

І ўсё-ткі пойдзем дадому!
    Плач прытрымаем у лёгкіх,
каб ніколі не думалася,
    што дыхаецца нам лёгка.
Каб ніколі не верылася,
    што пражыць можна
без таго, што ўсярэдзіне
    варочаецца трывожна.
Каб не ўяўляліся дні
    без солі і перцу,
перац — на стале,
    а соль...— пад табою, сэрца
Таму і вочы сухія...

13
А ліпа! Ліпа як цвіце.
Дабрэй зямля ў часы цвіцення,
каш чакаць, чаш хацець,
якія клікаць летуценні?

Пакутны ямб, святы харэй —
дыханне пругкае работы,
з якой на свет гляджу мудрэй
над дробным друзам адзіноты.

З кутка ў куток…
За крокам — крок...
Шукае нерв жывой апоры,
а сэрца ўзмоцнены штуршок
вядзе руку да легкай шторы...

Шклатара. Астравок травы…
Няўжо! Адкуль? З якіх вышыняў?
Пад ліпай маладзенькай — вы,
і не адзін, пры вас — шыпшына...

Чакай, душа, яшчэ не час,
залатаць дай патрэбным словам…
А вы? Я выбегу да вас,
цяпер — у сцішана ліловым…

Як ноч сама, як неба шыр,
жыццбвы міг — такі кароткі,
сягоння — з галавою ў вір,
а заўтра нават боль — салодкі...
*1981*

**КРАСАВІК**

Нібы адразу дзве вясны
прыйшлі, як восень на дажынкі:
злятае бэз духмяны ў сны,
а ў дні — апошнія сняжынкі.
*1981*

* * *

Не трэба папракаць у здрадзе,
я рада б крыкнуць сэрцу — не! —
але як соладка ён крадзе
усё, што лепшае ў мяне.

Таму ў кватэры нашай пуста,
таму не так, як у людзей,
маршчынкі згладжваю прад люстрам,
каб перад ім быць маладзей.

Цяжэюць грудзі ад жадання,
засведчы сам усё і згінь,
ужо лунае жар спаткання
у шолахах начных вяргінь.

І голас чуецца вясёлы,
а там, дзе месяц тонкі згас,
аплачуць за мяне анёлы
усё нязбытнае між нас.
*1981*

* * *

На беразе за самаробнай вышкай,
дзе многа раскі, лотаці і глею,
сказаў мне:
                «Я — не алімпійскі мішка
і ў ладкі пляскаць задарма не ўмею».

Мне стала смешна.
                Скуль жа ўзяцца крыўдзе?
Быць гордаю — адноснае паняцце.
...Не для яго спявае Кікабідзе:
«Мае гады — мае багацце».

Таму і пазірае ваўкавата,
як ал янн ў затканы снегам зола к.
А я ў адным бясконца вінавата:
яму — ўсе дваццаць,
                мне — ледзь-ледзь пад сорак.

*1981*

## ПАД ГРУШАЙ У ЧАС ДАЖДЖУ

Ах, гэта восеньская радасць!—
Нібы зрывае дожджык злосць.
А ты ратуешся парадай:
да лепшага ўсё, што ні ёсць!
Шатром збяднелым груша стыне.
Мой грозны верасень, буянь!
Ты толькі рызыкі падкінеш,
як шторм адчаю ў акіян!
Надрыўна б'ецца пазалота
лісця сырога ля рукі.
Пра што вядзьмарaць каля плота
над глебай чорнаю гракі?..
Мне і без іх вядома — восень!
Але не ўсё пайшло агнём...
Сягоння нешта не ўдалося,—
дык трэба жыць наступным днём.
Хай над сваім, жаночым, плачу,
затое ў іншым выіграю,
калі магу чужую ўдачу
прыняць, як лепшую, сваю.
Навее слотны вечар роспач,—
падумаю: не навіна!
Ёсць роспач, значыць, радасць побач,
і хутка з'явіцца яна...
А дожджык, знай сабе, цярушыць,
шуміць халодны вадаспад.
Бягу. Чаго стаяць пад грушай?
І... наўздагонку — лістапад!..
*1981*

* * *

Там рос палын густы і горкі
цяпер там талая вада,
і смех завучаны акцёркі,
і ў доме — чорная нуда...

А я заціснула каменьчык
у кулаку, і, як раней,
іду свавольна на агеньчык,
і думаю: шпурнуць ці не?

І сэрца чуе, што не выйдзе
ніхто на гэты лёгкі стук,
і я дарую, я не ў крыўдзе,
я не хачу ні губ, ні рук.

І прыняла б за ўзнагароду,
каб толькі можна мне было,
за гэта цьмянае святло
аддаць наступныя ўсе годы..
*1981*

## РЫБАЧКА

Нясе цыбулю, хлеба булку.
Пяе — найлепшая з красунь —
пра даўнішняй работы люльку
і капітанскі злы тытунь.

Глыбокі жаль, і боль высокі,
і шкадаванне, і надрыў,—
лятуць за ветразем далскім
і пападаюць пад прыліў...

І зноўку голас з новай сілай
на тонкай ноце на адной,
збягае ўніз пясчаным схілам,
як бы званочак пад дугой.

Мне на пяску гарачым мулка,—
на падваконні за акном
ляжыць старой работы люлька
са злым, тым самым тытунем.

І ад чаго — сама не знаю,
я асцярожна з-за куста
у даль марскую падпяваю,
дзе ветразь беленькі растаў...
*1981*

* * *

У гэты горад прыляцяць гракі,
і схлынуць воды ўперамешку з друзам,
за мной даўно не водзяцца грахі,
у адзіноты іншыя ёсць грузы.

Жыццё — на перавале, і не мед,
яно на кіслым і крутым замесе,
гляджу ў акно, там тыркаецца ў лед
цікаўным позіркам
мне не цікавы месяц.

Снег пачарнеў.
Вясна.
А што з таго?
Дай Бог яе ад снежных дзён адрозніць,
чакаю чалавека аднаго,
а ён, магчыма, нрыйдзе надта позна.

Не будзе ані радасці, ні слез,
ні верасу і ні палян чарнічных,
мажліва, толькі чарада бяроз
прывецідь нас паглядам іранічным.

Дык для чаго спяшаюцца гракі?..
Душа, як сад спустошаны, чакае,
гатова хоць якія ўзяць грахі,
каб ведала, што ён іх адпускае.
*1981*

* * *

...I растрывожыць халадок нізіны.
...I расхвалюе песня за сцяной.
Я не ўжылася некалі з адзіным,
а не адзіны бедаваў са мной.
Цяпер я знаю, чым яго трымала,
калі, як сведку, памяць прызаву.
Няхай бы лепш сама я бедавала,
бо толькі тым, адзіным, і жыву.
*1981*

## ДЗЕСЯЦЬ ВАСЬМІРАДКОЎЯЎ

**1**

А пачыналася будзённа,—
два тыдні падалі дажджы.
І ад работы той сезоннай
ля сцен шалелі капяжы.

Дражніў на шыльдачцы фанернай
«Мяне няма!» — кароткі сказ,
але было акно ў майстэрні
і дазваляла бачыць вас.

**2**

Без парасона, як заўсёды,
бы й не турбуе макрата.
Паэты часта пішуць оды
там, дзе патрэбна прастата.

І вы таксама? Адкажыце,—
звычайна пішаце мадон?
Што ж вы стаіце? Памажыце,—
прамоклы скінуць палітон.

**3**

Задума? Мара? Чыйсьці след? —
Пытаннем паўжыцця мінула.
Дык што ж гняце, калі агулам
сабраць усё ў адзіны свет?

Не ведаю. Той свет — штукар.
Ці мала сцежак абабіла?
Як пачала яго шукаць,—
усё, што мела, разгубіла.

**4**

Да складных думак непрыдатны
вячэрні час — агнёў мігценйе.
Што іншым бачыцца выдатным,
для вас — заўсёднае сумненне.

Бы родны брат сястры зласлівай,—
гатовы кроў мяшаць з чарнілам,
пішыце: «Зрання — ўсё няміла,
заснуць хацелася б — шчаслівым».

**5**

Магчыма, быў усплёск вясла...
А я з дажджу. Там — вецер, лужы.
Не лотаць мілую, а ружы
вам на сукенцы прынясла.

Не ў рукі. Шоўк бяруць рукамі,
да губ падносяць край няроўны,
тым больш што Той, якая ў раме,
відно па позірку — ўсё роўна.

**6**

Вы з тых, хто чарку п'е да дна.
Заве скарынку хлебам пышным.
Прыдумайце ў майстэрні лішніх,
каб засталася я адна.

Вунь палатно — ледзь бачны цень,
сказала б я,— драпежнай зграі,
а гэта Памяць, што з дня ў дзень,
мяне па ўсіх шляхах шукае.

**7**

Увайдзіце ў мае становішча,—
разліваюць хвіліны раку.
Можа мост разгарэцца вогнішчам,
вы — па тым, я — на гэтым баку.

Адзінота мая дасылае нізкі
да зямлі паклон на зарок,—
хай жаданы ён, і адчайна блізкі, —
не хадзіце вы на той бок.

**8**

Аднаму прыродай дадзена,—
хоць раскідвай на дваіх,

і жыве другі абкрадзеным,
у палёгку — ветру ўздых.

Не ўздыхайце. Вы не вецер.
Скарб пры мне — не ўзняць рукі
Вам не трэба,— кіньце ў сеці,
што наткалі павукі.

**9**

Трывожных слоў няяркі бісер
любоўныя ўпрыгожыць сказы,
я вам аддаць хацела б — высі,
якім няма яшчэ і назвы.

Калі адмовіць доля ў хлебе,
ў хвіліны жорсткіх перамен,
каб мне не ўскідваць рукі к небу,
а да вашых цягнуць кален.

**10**

Бедамі дарогі мераць,
у вірах зямных шалець,
і калісьці мне паверыць,—
прад бядой пасуе смерць.

Назавіцеся бядою,—
сёння, заўтра, і пасля...
І не дасць ужо зямля
размінуцца вам са мною!

* * *

Жыццё, жыццё,— начэй і дзён паток!
Вяршу цябе ці ты мой вобраз вершыш?!
Ты стомленым у час даеш глыток
і з ног збіваеш, неашчадна,— першых.

Спасцігла я тваё дабро і зло,
магу адрозніць праўду ад падману,
і, за апору ўзяўшы,— што прайшло,
магу ў сваё наступнае заглянуць.

Ты мне ў адным не можаш памагчы —
загадка тваіх ісцін самых простых:
чаму я ўчора плакала ўначы,
чаму мне сёння сорамна ад слёз тых?!

## ПАЛЯНА

Расхіну багун густы і стану.
...Чый ты, лета звялага грудок?
Можна, я ў спакой твайго туману
упляту свой жоўты паясок?!

Скарыстала дзіўную параду,
што, як шчасце, зваблівай была:
кінь перад сабою,— знойдзеш ззаду,
кінула,— і вось цябе знайшла...

Не пытаю, колкая пакоша,
што і як разблытаць, нібы ніць,
немагчыма быць для ўсіх харошай,
немагчыма свет увесь любіць.

Што ж дражніць ацiхлыя жаданні,
задыхацца ў марнай варажбе,
вунь бярозкі, лёгкія, як здані,
на імхах разбегліся ў жальбе.

А адна ў баку ад іх адстала,
з непакорнай кронаю густой...
Што яна табе не дасказала?
Шэпчацца пра што яна з табой?

Хораша пры гэтай варце белай
і тваёй былінцы, і лаўжу...
Можна, я, што дрэва не паспела,
словамі сваімі дaскажу?..

Рукі апушчу ў твае туманы
і прысяду — тварам на лясок,—
там, дзе за бруснічнік твой ірдзяны
зачапіўся жоўты паясок...

* * *

Шумела Свіслач, парк звінеў
лістотай з верасня апалай,
няма віны ў маёй віне,—
чужой з твайго жадання стала.

З твайго маўчання, за якім
мне адпускаўся позірк строгі,
каб не назвала дарагім,
не збіла з правільнай дарогі.

Дзе гэтак многа праматы,
а я ў гадах зігзагам крочу
па тых слядах, што кінуў ты,
і лес наперад свой прарочу.

Вунь замыкаюцца сляды...
Вакол сябе абводжу кола,
я не ўпушчу цябе сюды,
была твая на гэта воля.
*1981*

## КРАЯВІД З ХВАЛЯЙ

Хвалю ўстрывожыў ветраны ранак,
а размыты і згорблены бераг ракі,
як ужо некаханы каханак,
што пра гэта не знаючы, просіць рукі.
*1981*

* * *

Гэта ж проста восень адшумела.
Ліставеем сэрца апякла.
І растала ў снежнай дымцы белай
астраўком буслінага крыла.

І штодня душу я суцяшаю
у размовах з сябрам дарагім,
што няма прычыны для адчаю,—
гэта ж проста — выпалі снягі.

Рана думаць мне аб незваротным,
ці ж не усё роўна ў час які,
супакойваць думкі небам родным
і цяплом прыветнае рукі.

Многа ў свеце позіркаў варожых,
толькі ж больш пагляда ў веснавых,
вось таму і не кажу,— быць можа,
ўпэўнена,— дабрэе свет ад іх.

І калі я выйду заўтра рана
на квартал, прасветлены ад сну,
хочацца, каб нехта ў вочы глянуў
і пазнаў у іх сваю вясну.

Хочацца руку падаць і смела
падзяліцца думаю сваёй,—
гэта ж проста восень адшумела
раз каторы лісцем над зямлёй.
*1981*

* * *

З адвагай рыцара-гулякі
завеш да кветак, на балкон...
А насупроць гучыць сіртакі
з напаўзавешаных вакон.

І ў гэтым рытме нетутэйшым,
пад дахам зорнага святла,
мы шлях сустрэч былых завершым,
як птушку выпусцім з сіла.

...Адбіты палкіх слоў атакі,—
не стала я тваей зямлёй,
і плача горача сіртакі
ў акне па Грэцыі сваёй.
*1981*

* * *

І ніколі ўжо не паўторыцца,
не падводзіць ні зрок, ні слых.
Адлятае, як быстрая конніца,
шчасце, лёгкае, для дваіх.

Не зусім была і жаданая,
вінаваты шал капяжоў,
а хацелася ж быць каханаю,
а чакалася ж — не ішоў!

Не загойваю, безбаязная,
дый не ўмею душу гаіць,
адпускаючы,— не прывязваю,
неўтаплйнаму,— трэба плыць!

Не гарэць агню ноччу вогкаю,
навучы цяпер, як мне жыць,
каб змагла з рукі тваей лёгкае
незабыўнага ды забыць!
*1981*

## ВЯЧОРКІ

1
Пасмяяліся, і годзе,
не трымайся за рукаў,
ад тваіх размоў на ледзе
нават снег і той растаў.

Упусці такога ў сені,—
будзеш многа шчасця мець,
не іголка — скажа — ў сене,
I адразу знойдзе клець.

Там, без жарту, ад прыпасаў
угінаецца памост...
На кілбасы хлопцы ласы,
а цяпер — вялікі пост.

2
Не ламіся ў хату, вецер,
толькі косаньку памыла,
прытаіўся пад павеццю
найхарошшы, ды нямілы.
Стану косаньку часаці,
з рук грабеньчык выпадае,—
не змагла ў пару сказаці,
сам, чакала,— запытае:
ой, чаму ў садку зялёным
мая сцежка дый пры ружах,
а яго сцяжына ў полі,
і над Сю ліха кружыць.
Ліха чорнае, як ночка,
сам, чакала,— запытае,
хто мне ў косаньку ў садочку
ружу дзікую ўплятае.
Уплятае, рук не коле,
я калючкі пазразала,
да адной са брала з долу,
пад павеццю раскідала.
Каб не ўлез у тое смецце
найхарошшы, ды нямілы,

ты скажы яму, мой вецер,
што я косанькі не мыла.
Шчэ не мыла, не часала
і вадзіцы не насіла,
бо калючкі я зразала,—
ружу дзікую губіла...

3

Як спраўляліся заручыны,—
маладым віном паіў,
палічыў мяне прыручанай,
дый у белы свет пусціў.

Як спраўлялася вяселлейка,
з ціхім гонарам глядзеў:
— Ці ж знайшлося ў свеце зеллейка,
за віно што саладзей?!

І знайшлося і пілося, як атручана,
а паслалі да таге, кім прыручана.
*1981*

* * *

Непадуладна ні вятрам, ні сцюжы,
хоць, знаю, волі — горкая цана,
але часцей пад ногі сцеле ружы
жыццё таму, хто волю п'е спаўна...

А ён прыйшоў і загадаў: «Даволі!
Вось стол, калыска і... букецік руж,
а калі сэрца зноў запросіць волі,
дык воля — я, твой уладар і муж».

Прымала ружы дрогкаю рукою,
як навасёл кватэрныя ключы...
Раней было — раўнялася з ракою,
цяпер — па строгім мужавым плячы.

А ён смяецца: «Ну, адкуль няволя?
Глядзі, як светла выбелена столь!..
Было чаго з агнём табе сваволіць?!.
Душа мая, ты зараз — пасваволь...»
*1982*

* * *

Праз навісь лёгкае імжы,
дзе палявыя крэпнуць кветкі,
мільгне зялёны ўскрай мяжы
і знікне ў дымцы за палеткам...

Вось гэтак жа з глыбінь гадоў,
пад пераліў залётнай пташкі,
між дрэў бялюткаю рубашкай
азвецца першая любоў.

І, калі нават аднаўлю...
Жыццё не верыць дням мінулым,
я слаўлю ўсё, што прамінула,
але з жывога дня пяю!

На перавале сталых год
між тых жа дрэў мільгне рубашка,
і здагадацца мне няцяжка,
хто просіцца у мой заход.

Як легка мройнаму растаць...
А ён адкрыў гасцінна дзверы,
і дай жа Бог яму паверыць,
што рада я пра гэта знаць.
*1982*

* * *

Не сустрэўшы,— таропка праводзім.
Не спазніўшыся,— позна прыйшлі...
А вакол нецярплівыя воды
снегавыя змываюць камлі.

На вярбе каташкі зажаўцелі,
у астатнім прырода — без змен,
і зямлі набрынялае цела
толькі важыцца лашчыць прамень.

Мы ва ўзросце, калі на пытанні
ёсць у кожнага хуткі адказ.
Як пытальнік над намі — спатканне
і чакае адказу ад нас.

Прагне ласкі, пяшчоты гарачай,
як калісьці, у часе другім,
скуль юнацтва з запалам юначым
за свае адштурхнула кругі.

Хоча слёз, і пакут, і прызнанняў,
нават права няма на папрок,
як няма асаблівых жаданняў
паўтарыць гэты пройдзены ўрок.

У вясны абяцанняў нямала,
што нам дасць гэты ветраны госць?..
Я тады ўжо цябе не кахала,
кал і ты і не знаў, што я ёсць.
*1982*

**ЦЫКЛАМЕНЫ**

У нейкі час асенні ды праменны,
калі душу загойвае азон,
я пад настрой купіла цыкламены,—
далёкі ад турбот маіх вазон.

І лёгенька ўздыхнулі ў доме сцены,
і ўсё часцей пры шркіх неладах
я ў слове цыкламены — чула змены,
бы нешта йшло за мною па слядах.

Дыханнем кожны лісцік сагравала,
дык хто ж мяне ў наступным папракне,
зіма такой кудасай прасгіявала,
нібы прайшло стагоддзе праз мяне.

І з недаўменнем стойкага салдата,
што нёс з вайны дамоў пусты рукаў,
я думала,— хіба ж я вінавата,—
не ўгледзела, калі вазон прапаў.

Больш не цвітуць у доме цыкламены,
я чую: вецер вые між антэн,
і ўздрыгваюць аглушаныя сцены,—
о, нам не трэба больш ніякіх змен.

## ЧУЕЦЕ, ЗНОЎ НАПЛЫВАЕ ЯНА..

Чуеце, зноў наплывае яна...
Нехта смуткуе, а некаму — радасць.
Чуеце, зноў ад відна да відна
раніць душу і сячэ зарападам.

Музыка смутку, а сэрца пяе,
музыка смеху, а сэрца заплача...
Можа, камусьці цяпер не стае
самай маленькай, нязначнай удачы.

Дапамажы!
Расхіні свой чаромхавы сад,
гронак духмяных бялюткія схованы,
і падары безнадзейнаму свой гукапад,
хай наварожыць надзею Бетховен.

Музыка ласкі, а май без цяпла.
Музыка снежня, а грэе завея,
быццам у першых снягах расцвіла
роднага возера кветка лілея.

Дапамажы!
Хай як молена даўжэй пацвіце,
сілы сваей не шкадуй белапеннай,
ну, а таму, хто й сініцы не мае ў руцэ,
дай жураўля з аблачынкі Шапэна.

Музыка птушак і ранку ў бары,—
смейцеся, плачце, жадайце, тужыце,—
звонкія гуслі бяруць гусляры
і васілёк апяваюць у жыцце...
Чуеце, зноў наплывае яна.
*1982*

* * *

Адспявалі вясёлыя шыны
на развілках імшастых дарог,
абляцелі пялёсткі шыпшыны,
іх шыпшыннік густы не збярог.

Неба зоркаю ранняй прывеціць,
і яна будзе доўга сачыць,
як бадзяжлівы восеньскі вецер
свішча ў полі глухім уначы.

Што мне вецер!— Іду маладая,
лёгка пругкае цела нясу,
ноч над быстрыя ногі ўскладае
маладую такую ж расу.

Для кагосьці жыццё адбуяла,
мне тага чалавека шкада,
можа быць, на сцяжыне прывялай
і за мною цікуе бяда.

Можа быць...
Я нічым не прыкрыта,
за спіною шыпшыннік пусты;
каб навек заставацца забытай,—
перад некім спаліла маеты.

Ён наўрад ці цяпер абароніць,
я аховы ў яго не прашу,
дастаткова, што памяць аброніць
з прамінулага песню ў душу.

Каб аднойчы з будзённай дакукі,
ад напасцяў усіх і трывог,
павялі мяне ціхія гукі
на развілку імшастых дарог...

*1981*

* * *

Парушце звычкі,— пазваніце!
Тады, кал і й няма патрэбы,
хоць раз у нечым падманіце,—
я зразумею так, як трэба!..

*1981*

* * *

А ты, лісток, зусім як сэрца...
Зялёненькіды малады
і днем, і ноччу над азерцам
дрыжыш, нібыта ў халады.

Да халадоў яшчэ далека,
ды хто што ведае ў жыцці,
быць можа, пад буслінь клёкат
ты ў бездань сінюю зляціш.

І думкі, смешныя, бывала,
ўміг стануць быццам не свае:
куды цябе адкіне хваля,
да берагоў чыіх прыб'е?!

Дрыжы, дрыжы, лісток, ды помні
звінела між галін пчала,
будзіў на ранку гул паромны
і калыхаў усплёск вясла.

І вецер шкадаваў шалёны,
і пыл абмахваў матылёк,
мо ад тага такі зялёны
ты вока радуеш здалёк.

Калі ж сарвацца давядзецца,
адно заўсёды памятай,
што ты, бы ўспуджанае сэрца,
над быстрай хваляй трапятаў...
*1982*

* * *

У лёгкіх рухах чуе здраду
і заклінае: ты развaж...
Хіба не бачыш па пагляду —
манюка ен і звадыяш.
А мне ад гэтых слоў салодка,
бо я яшчэ жыву ў тым дні,
дзе кружаць чаіцы над лодкай
і б'юцца у сецях акуні.
Дзе рыбакі пра ўловы мараць
і пра харошы першы ўкос;
дзе пахне ветрам і загарам
той, што цяпер сядзіць наўскос...
І быць мне трэба нешчаслівай,
бо ён між вытанчаных фраз
глядзіць на стан мой палахліва,
як на гадзюку,— першы раз!
*1982*

* * *

І без адліг душа адтала,—
быццам госць самы жаданы запрошаны
з адзіноты начнога квартала,
са сцяжын снегам лютаўскім
запарошаных.

Бы сядзіць той госць,—
хай дарує ен,
што палын-сляза па ім высахла,
што нікому яшчэ маладосць
два разы на век ды не выпала...

А сягоння пастукалася.
Як калісьці ў дзяцінстве
казачнік з мехам...
Я да сэрца свайго прыслухалася
і пачула ў ім маладосці рэха.

Цяслярыкі: стук-стук,—
маладому ладзяць зруб.
Рукі — да рук.
Губы — да губ.
Дзевачка запітая.
Чарачка распітая.
І адна разбітая...

За тваё здароўе, госцю!
*1982*

* * *

Не схацела паклікаць у госці.
І, як толькі дайшлі да вугла,
развіталася рэзка, са злосцю —
абнадзеіць нічым не магла.

А па горадзе дзіўная чутка
з хаты ў хату з той ночы плыве
быццам ён непрадбачана хутка
перад Богам сваёй назаве.

Снег злятае з карніза бялюткі,
да ўсяго стаў абвостраным слых
я смяюся над дзёрзкаю чуткай
і чамусьці сцялю на дваіх.
*1982*

* * *

Сырое неба. Каляіны.
І ні адной жывой душы.
Ляцяць лісткі ў бур'ян з каліны,
як з рук апошнія грашы.

Адвернешся, і ў тым жа плане,
на тры бакі — пейзаж адзін,
алешына з нізінкі гляне,—
хоць на калені упадзі.

І беражок узмежка ліпкі.
За кожнай купінай — туга,
нібы трывожны голас скрыпкі
хавае ў прыцемку смуга.

Нібыта жаліцца латруга
у парудзелым бур'яне,
што ні вугла няма, ні друга,
ні ўсмешкі яснае ў акне.

А мне разважыць трэба строга,
са спадзяваннем на цяпло,
калі лягла між коп да рога,
дык, значыць, блізка ёсць сяло.

Таму зусім не адзінока
ў асеннім поцемку глушы —
святлець надзеяю далёкай
спакон дазволена душы...
*1982*

* * *

Не трэба мне надакучаць.
Душа казенных слоў не хоча.
...Як сонечна лясны ручай
між валуноў старых булькоча.

Хутчэй вярніцеся да спраў,
калі ж і гэтым не злячыцца,—
лавіце вецер. Ён украў,
што паміж нас магло адбыцца.
*1982*

**МАКАВЕЙ**

У баразну прыляжа макавей
тады, кал і ў гародах густа-густа,
пасля яго пялёсткавых завей
у качаны завяжацца капуста.

А покуль з дзецюкамі — ой, хіцёр!
Бы мёд для хлопцаў — макавая квецень,
пытаюцца ў мяне пра макацёр
і хваляць хмель разгалы над павеццю.

Ды аднаго не знае макавей,
і хлопцы не былі б такому рады,—
у хмелю тым штоночы салавей
пяе — выходзь, ды не па іх загаду!..
*1982*

## EUGENIO[1]

**1**

І вось ужо ніяк не сцерці,
а хочацца хутчэй забыць,
і, можа быць, да самай смерці —
не знаць, не помніць, а любіць.

Самой сабе — пустая здрада,
у днях маіх было ўсяго,
а тут няйнакш ад канакрада
ёсць нешта ў позірках яго.

Звядзе табун і траў не вымне,
на нож рванецца без нажа,
і хоча адазвацца гімнам
на гэтае імя душа.

Прыцішваю, збіваю гукі,—
не знаць, не помніць, а любіць,
распасціраць насустрач рукі,
і прагнуць, і хацець забыць.

**2**

Кружылі ўчора ластаўкі высока.
Сягоння дождж — насуперак прыкмеце.
Маўклівы парк. Ракі трывожны рокат,
і кропелькі дажджу па парапеце.

Суладна думкам дыхае прырода,
мне добра ў цішыні яе і ў гуле...
Пачэсна жыць дзеля ўсяго народа
і цяжка для таго, хто ў прамінулым.

Я знала радасць таннае спакусы,
і тым мацней адна наліла вера:
на паўжыццця развіўся локан русы,
і... сум на волю мой ірваўся зверам.

---

[1] Высакародны (лац.).

Сляды паводкай шумнаю размыты,
а ночы тояць даўнішнія сны:
вакзал, дзе рэйкі, жалем перавіты,
і вецер дзьме, бы з бездані, скразны...

**3**

Жартуючы, сказаў: «Стратэг!»,
і жарту я не зразумела.
Глядзела весела на снег,
сябе ўяўляла ў шоўку белым...

І не хацела заўважаць,
як ён тужліва з-за галіны,
зірнуў удаль, нібы важак,
што страціў клін свой жураўліны.

Галіну выгінаў дугой,
мне гаварыў: «Маўчы!» — са смехам,
нібы тады ўжо слухаў рэха
слоў, што зляталі з губ другой...

**4**

Калі таполю вецер раскалыша
і над галлём ударыць гулкі гром,
далёкі друг самотны ліст папіша
пра свой бліскучы і гасцінны дом...

І я прыпомню пах салодкай дыні,
і як гарэў пад пальцамі паркаль...
Не ўмелі вочы юнай гаспадыні
пад вейкамі схаваць разладу жаль.

І раздражнёна, ад яе бяссілля,
ад слоў, што вымаўляліся ледзь-ледзь...
Я ад імя забытых папрасіла:
«Вось адрас мой. Успомніш, дык прыедзь».

**5**

Пакажу табе лугоў абрысы,
завяду ў туман глухіх нізін,
у цябе, ў каго такія рысы,

быццам бы на свет увесь — адзін?!

У жыцці нялёгка жыць без мары,
дальні луг, як складзены шацёр,
тут даўно напісаны сцэнарый,
толькі патрабуецца акцёр.

Захіну рукой пагляд гаручы,
слабасць — зброя! Уступаю ў бой...
Абрываю камень з дзікай кручы,
а сачу чамусьці за сабой.

Вытрымка на поўнае дыханне,
ні ваганняў сёння, ні жуды,
я ішла на гэтае спатканне
без малога трыццаць тры гады.

**6**

Вараны, белагрывы ці гнеды,
атрасаючы попел з падкоў,
нёс пакутнае цела Рагнеды
у жалобную памяць вякоў?!

Не звіняць бранзалеты грэкіні,
і наложніц вакол не чутно,
можа стацца,— таксама пакіне,—
манастырскае ў поле акно.
І сумуецца мне да абеду,
а з абеду — сяджу пры акне
і паверыць хачу, што Рагнеда
ўжо адплакала і за мяне.

**7**

Яму б тапіць ільды ў лядоўні,
прыйшоў, пабачыў, перамог!
Цвіце разлапісты бульбоўнік
каля прапыленых дарог...

Дзе завяззю, а дзе цвіценнем
жыццё,— нібы глыбокі ўздых,
я на зямлю прыйшла не ценем,

прыйшла жывой — сярод жывых...

Быць урадліваму ўраджаю,
умее глеба ў нас радзіць...
Таму, хто заўтра прыязджае,
ці змогуць рукі дагадзіць?!

**8**
Чужая сабе і вакзалу,
бязмежнай хачу цішыні...
Ўпіваюцца ў скуру, бы джалы,
шырокае плошчы агні.

Як страшна, адчайна і часта,
сэрца маё — фантазёр,
наводшыбе гравій крупчасты
прымае за россыпы зор.

Праходзь, не спыняйся, прыезджы,
я ў горадзе родным сваім
сама змагу вызначыць межы
між будучым і былым...

Якое смяшлівае гора
за горкай дамоў растае,—
там лепшыя далі аддораць
усе несустрэчы мае...

Астудзіць, бы выветрыць, поўня,
пацешаць два цені ў акне...
Прысні, не сустрэты сягоння,
на плошчы шырокай мяне.

**9**
...А вясна набяжыць, нібы кара,
і апошні забудзе сумёт.
І пчала з дзьмухаўцовых абшараў
прынясе самы першы свой мёд.

Запрашаю сяброў на застолле,
выстаўляю віно і харчы,

і чагосьці ніяк не адолець,
першым мёдам вячэра гарчыць.

І не выльеш, не скажаш нікому,—
аддала б, каб ніколі не мець,
гэту горкую, нудную стому
за таго, хто ўжо далей за смерць.

Хто ні ўздыху, ні крыку не варты,
я сказала б жанчыне другой,
і сурвэтка, як бітая карта,
паслухмяна ляжыць пад рукой.

Ні сумненняў, ні жалю, ні веры,
а над нечае ціхае «ах!»
паднясла б галаву пад сякеру
з імем гэтым адным па губах.

**ЗАГЕДАН**

... А Загеданка падпявала словам.
Плыў у нізіну сіні дым з Пхеі.
Пчаляр стары ў малінніку за ровам,
нібыта пас пчаліныя раі.

Забудзь. А калі хочацца — пасмейся
з таго, як меркавалі да зары
мы выйсці ў ліпень наш па эдэльвейсы,
які ён Каўказу падарыў.

Ноч Загеданку, нас — пераспявала,
бы рухнуў нечакана свет увесь...
Я толькі аднаго тады не знала:
не зацвіце ў даліне эдэльвейс.
*1982*

* * *

Ля азерца шапоча аер,
мыюць бераг натомлена хвалі,
столькі дзён, столькі год не твае
губы номы мае саграваді.

Тым цяплом, што дагэтуль пячэ,
толькі як бы яно ні смыліла,
я магу без нацяжкі яшчэ
для цябе пасміхацца шчасліва.

Нібы нехта мяне абярог,
нібы ўспомніла доля пра літасць
і з усіх небяспечных да рог
непраходная стала адкрытай.

Я прайду.
Я змагу.
Я хачу.
Праз выбоіны, яміны, кручы,
толькі б верыць твайму мне плячу,
быць слабою цяжэй, чым жывучай.

Можа быць, не ў дакор тым гадам,
што ні ў якіх не знойдуцца спісах,—
што гублялася з лёгкасцю там,
у тваіх адшукаецца рысах.

Час прыйшоў,— і жыццё аддае,
ўсё вяртае, як берагу хвалі...
Столькі дзён, столькі год не твае
губы ночы мае саграваді.
*1982*

* * *

Ішлі на ясны і вялізны
шар поўні прама над вадой,
сказаў, што мне было б карысна
хоць раз адмучыцца нудой.

І скарыстала я параду,
і папрасіла: адпусці...
Ён там цяпер — за даляглядам,
мне веку мала, каб дайсці.
*1982*

* * *

І сняжынка шукае прытулку —
вунь, як роўна іскрыцца сняжок!
Ты даруй, што ў завейным завулку
папрасілася пад кажушок.

Што загадвала: «Будзь маім братам!»,
што хацела, каб рукі — да рук,
што цяпер толькі я вінавата,—
пад табою хістаецца брук.

Што ў такую ж іскрыстую поўнач
ты ідзеш, бы вядзе цябе кат...
Я прыбегла б скуль хочаш на помач,
каб не знала, што ты мне не брат!
*1982*

* * *

Вось і заві бяседу мілай.
Да слова слова не лягло.
Адно ў імгненне акрыліла,
другое — крылы абсякло.

Патрэбна птушцы быць крылатай,
а лгодзям людскі знаць закон,—
па ім вазьміце памагатай
пускаць няўдачы пад адхон.
*1983*

* * *

Пра якія такія любошчы
загаворвае вецер са мной,
і танюткае голле палошча,
і ўзбівае сумёт пад сцяной.

Днее інеем мяккім світанне,
пад ільдамі вада, як іртуць,
і герані, герані, герані,
як відно, снегавыя цвітуць.

І пры гэтым бялюткім цвіценні
(мо віною таму халады?)
адазваўся ты вогненным ценем,
і завея прыкрыла сляды.

І ніхто разабрацца не ў сілах,
што і як наўздагон я кляла,
і я кую надзею насіла,
і якім спадзяваннем жыла.

І якая адкрылася рана —
журавіна ці кропля крыві,
на іскрыстыя ўпала герані,
а душа закрычала: жыві!

І жыву, і іду асцярожна,
развіднелай гару віднатой:
«Невозможное было возможно,
но возможное — было мечтой»[2].
*1983*

[2] Аляксандр Блок.

## ПАЭЗІЯ

Радок — спадман, ён толькі рамяство,
штуршок да неспакою і сумнення.
Уяўным развярэдзіць харaствам,
няспраўджаным апаліць летуценнем.

Я шмат разоў пытала, што ёсць Ты,
ў сяброў сваіх, у птушак, у сумлення...
Ты дадаеш бяздумным пустаты,
разумнікам не дадаеш гарэння.

Ты ў снах маіх гаротніцай крычыш
і дзіўна спакушаеш паднябессем,
арліцаю здаешся на плячы
і б'еш наводмаш салаўінай песняй.

Бываю часта рознаю ў жыцці:
і сейбіткай, і часам пабірахай...
Што ж Ты такое?— зноў пытаю ў птаха,
птах у прастору гулкую ляціць.
*1981*

## У ЧАКАННІ ВЯСНЫ

Шуміць вясёлаю дзяўчынкай
сасна — дрыготкі мройны свет,
і на далонь ляціць сняжынка —
святлістай раніцы прывет...

Шумі, сасна, пад ветрам рэзкім,
твой шум — жыццё чужой душы.
Ты толькі першую пралеску
іглiцай не запарушы.
*1983*

## КАЛЫХАНКА ДЛЯ АЛЕНЫ

Хутчэй засні, даносіць вецер весні
пачатак слоў, якія я сама
дала калісьці для шчымлівай песні,
і песню тую замяла зіма...

Галлё бяроз марозны студзень гушкаў,
і ў снежны дзень, з работы ідучы,
табе чужы — купіў лясную птушку
і песні той шчымлівай навучыў.

І часта людзі ў наваколлі чулі,
сярод начной прамерзлай нематы,
як на адчаі, горка і прачула
вёў птах лясны самотны свой матыў...

Нібы ў агонь, я ў сцюжу выбягала,
туды, дзе ў ночы білася крыло,
але адразу птушка замаўкала,
як быццам яе ў свеце не было.

Дзіцятка, спі, у доме будзе ціха,
каб жа папрок твой потым не ўкалоў,
пайду спытаю, на якое ліха
ён даў паслухаць мне пачатак слоў...
*1983*

* * *

З пяшчоты слеты зноўку ткуцца.
Залее пад дажджом зямля.
Не зможаш назусім вярнуцца,
прыйдзі спагадаю здаля.

Душа даўно не ў тым узросце,
каб нараджаў варожасць боль,
маўчаць мы будзем на пагосце,
здзіві прыветным слоўкам золь,

Пад небам роднае прыроды
вясну абвесціць крыгалом,
а вобраз твой асвеціць годы
нязгасным, дарагім святлом.

Блукае смутак каля хаты.
У полі звянуў васілёк...
Няма ў расстаннях вінаватых,—
ты пасміхайся мне здалек.
*1981*

**ПАРАЛЕЛЬ**

Няма ні камара, ні мошкі ў спёку,
тады пачне развражлівасць даймаць:
юнацтва ўжо ўсміхаецца здалёку,
а старасці пакуль што не відаць...
І ўецца камарэча, бы малькі,
калі на ўзмежак стаць перад заходам:
па бок адзін — смяюцца васількі,
па бок другі — пайшлі ў калоссе ўсходы...
*1983*

## ЛІПЕНЬ НЕ ДОМА

Ліпень знае ўтому грабель
ліпень бульбу абгарэ...
А на хуткаплыннай Лабе
касяком ідзе фарэль.

У глухую шапку хмары
лезе свердзелам гара...
І ад спёкі на чынары
міражом блішчыць кара.

Легка ўецца пыл гарачы,
за тынамі — алыча,
і сінее даль, як сачык,
што на маміных плячах.
*1982*

**ВА ЎРОЧЫШЧЫ МАЛІННІК**

1
У камінку гудзе вятрыска,
і аканіца — стук ды стук…
З падполля шоргатам і піскам
на шэпт адказвае пацук.

Сюды ўцяклі ад снегападаў,
ад маразоў і ад адліг…
Маладзічок, бы цень лампады,
і пыл на стосе тоўстых кніг.

І прыдаецца краем свету
за вокнамі шумлівы бор,
і на сцяне, засохлы з лета,
як памяць аб зямлі,— чабор.

І можа быць, цяпер другая,
на тым, другім, зямным краі,
цябе з тугою прыгадае
і назаве яшчэ сваім…

І можа быць, усяк бывае,
там, дзе цяпер мяне няма,
таксама нехта ўспамінае
маё спякотнае імя…

У камінку гудзе вятрыска,
і бор за вокнамі шуміць…
І шчасце зараз гэтак блізка,
што страшна мне шчаслівай быць.

2
Сюды б яшчэ ды куст маліны.
На плечы — мройны сарафан.
І лёгка бегчы за яліны,
дзе совы сцерагуць туман…

Зрываць і ягады,
і голас

і азірацца ўсе радзей...
І там,
дзе лес глухі наўкола,
сумненні выплакаць з грудзей.

... Табе я ўдзячна за вяртанне,
чаму ж так горка ў цішыні
перацінаецца дыханне,
калі былыя ўспомню дні?

3
Ты паглядзі, якія вуды!
Тут жыў калісьці рыбалоў —
вясёлы, бесклапотны, руды,
дзе ён, там і цяпельца слоў...

Ён нам пакінуў свой гармонік
губны, трафейны і стары,
і на стале гумовы слонік
усе танцуе з той пары...

А гаспадар пайшоў ва ўцскі,
і мы з табой — уцекачы...
І недзе бераг наш далекі,
халодны і пусты ўначы.

І ты гаворыш: час спрацуе,
і я кажу: ах, не пара...
І слонік на стале танцуе,
чакаючы гаспадара.
*1983*

* * *

Ўсё, што ўчора было яшчэ марай,
заўтра сном непаўторным міне...
Пад паглядам стаю, як пад карай,
хочаш чуць ад мяне пра мяне?
Што я маю? Ні многа, ні мала...
Ты смяешся, я плачу скрозь смех,
ўсё слязамі табе расказала...
Ўчора снег...
                    Сёння снег...
                                        Заўтра снег...

*1983*

**ДЗЕНЬ. ВЕЧАР. РАНІЦА**

*

Застыў вясёлым роспісам алей.
Спалох закалыхала слоў калыска.
Стаў пэндзлік непатрэбным...
Як Вы блізка!
Тушуе густа дзень наша далей...
(Аддаю ў запісную кніжку юнай
паэтэсе, думаючы аб сваім...)

*

У вокнах вечар гаманлівы згас,
і паглыбела над паглядам неба.
Папера, стол...
Душа пяе пра Вас,
ды Вам пра гэта
знаць зусім не трэба.

*

А раніца прарвала ліўнем лета,
і на паляне ў рост пайшла трава.
За хмарай шызай неба сінява...
*Я* і такім начаткам дня сагрэта.

Жыццё — тартак,
пілуе нервы час,
ад чай, мана і здрада — пілавінне...
Я не зайздрошчу Вашай налавіне —
жанчыне, што пры Вас не знае Вас.

Затканы ліўнем сцежкі і дамы,
перасляваць прыроду я не ў сіле,
хоць і ў слабога вырастае крылле
ад думак, што зліліся лёгка ў «Мы»...

Здалося, што па Вашаму загаду
зляцелкя да вокнаў галубы
і, нібы кліч прызыўнае трубы,
азваўся спеўна гром з-за далягляду.

І ўпершыню баяцца вусны вуснаў,
«Мы...» — выдыхае трапятліва рот...
Жыццё — тартак,
і ўсе — наадварот,
ды мара не была б такой спакуснай.

Шырэе неба ў вокнах ад святла,
і гром, і дождж —
бы й не было! —
далёка...
Прачнуўся муж, пытае: «Дзе была?»,
адказваю: «Вярнулася з аблокаў».
*1983*

## РАМАНТЫЧНЫ ВЕРШ

Цяпер я знаю — шчасце злая ноша,
акно ў нядзелю, за якім імгла...
Туман і дождж, гарачы лісця пошум
і вецер з-пад птушынага крыла.

Праб'ецца вечнасць зоркай з паднябесся,
душу агорне дзіўных дум агонь,
і доўга ўночы будзе сніцца песня
пра мурагі, дзе ходзіць сівы конь.

Растане ў золку прывід трапятлівы,
пакіну радасць у трывожным сне,
а ранне бліснне пасмай белай грывы,
ах, гэта конь, напэўна, па мяне...

Сплыве дасвецце хусткай паркалёвай,
рассеюць промні дзіўных дум агонь...
Няпраўда ўсё — адкуль у Мінску конь?!
Хіба што збег з палотнаў Шчамялёва...
*1983*

* * *

Адорыць глеба рупны клопат злакам,
чаканых верне мараю шаша,
дзе лёс вучыў пакутаваць і плакаць,
смяяцца навучылася душа.

А чэрвень па цяплу прайшоўся градам,
а жнівень спапяліў пяшчоту граў,
як можна зараз захапляцца садам,
што завязі ніводнае не даў?

Ды ёсць жа, есць жа ісціна на свеце:
ва ўласнай долі — кожны садавод,
я на слязе ізноў гадую квецень,
пакутую: ці дасць жаданы плод?!
*1983*

## КУЛЁМА

Была вятрам бязлітасным знаёмай.
Ніхто не ведаў — хто яна? Адкуль?
Ішла сялом, шапталі ўслед: «Кулёма!
Не дзеўка, а саломы мокрай куль».

На тое й слова —
                                        ўсцешыць і параніць,
калі ж клявалі зябліва гракі,
у сажалцы знайшлі яе пад ранне
скупыя на размовы рыбакі...

Хавалі,— сонца выбліснула ясна
на дрэвы, на зрудзелую траву,
і нехта з цётак у далоні пляснуў:
«Ба-а, людцы, як жа, бедную, завуць?»

З часоў тых, кажуць,
                                                    ля жытоў нязжатых,
дзе дзікае шалее васаўё,
Кулёма супыняе нежанатых,
пытаецца: «Дзе прозвішча мае?»
*1983*

* * *

А дзень на сад святлом пральецца,
сцяжынка згубіцца між траў...
Я ведаю: ён адгукнецца,
ён з'явіцца, кал і кахаў...

Бо ці змагла б злятаць так лёгка
язміну квецень на зямлю
і я сярод природы вогкай,
як і раней, шаптаць: «Люблю...»
*1983*

## ЛЮБОЎ

З лета стог, абкладзены кляёнкай.
На штыкетах — жоўтыя глякі...
Недзе мама бразгае даёнкай,
недзе тата носіць смалякі...

Там заўжды здаецца ўсё нязменным,
дворыкі, прыязнасць і давер,
а за хмару дзень ляціць праменны
і сухое лісце — за каўнер.

Ды не сумна змучанай прыродзе,—
дзеля дзён нязнаных адгарыць...
Неўпрыкметку з будучым стагоддзем
клопат мой спрабуе гаварыць.

З кім жа там спусцелы лес гамоніць?
Хаты люд склікаюць пакрысе...
Праца рукі рупныя натоміць,
але дух няскораны ўзнясе.

Як агніста долю выкрасала
не адну ў лясістай той глушы...
Я пра гэта мала так пісала —
ўся любоў засталася ў душы.
*1983*

* * *

Хмелю расцвіўшага гронка,
пах звечарэлых садоў,
як у дзяцінстве, з даёнкі
з мамаю п'ём сырадой.

Хата нібыта прашыта
ценямі тонкіх бяроз,
маме кажу, што ў пражытым
не абышлося без слез.

Хочацца ціхай спагады,
чуецца мамін уздых,—
бы расцвілі пад паглядам
кроны садоў маладых.

Мама пайшла за вароты,
вецер да слыху данес:
— Добра, калі ў незваротным
шкода пакуль толькі слёз...

*1983*

* * *

Колькі казак сама расказала,
на лістах прытупіла пяро,
а паверыць у казку вакзала
не дае апусцелы перон.

Дачакаліся першых праталін,—
многа чорнай халоднай зямлі,
нашы скорыя ўсе праімчалі,
насажырскія не падышлі.

Тут, здалося б, і кончыцца дзеі,
недзе свеціць агеньчык для нас,
як гарачае вока надзеі,
праз нявыбраны ў вечнасці час.

Абнадзеіцца — гэта няцяжка,
хоць памры, а ніяк не ўтаю,—
кожны крок да цябе, як прамашка,
набліжаюся і... адстаю.

Адстаю нават там, калі ложак
скарачае да ўздыху шляхі,
ты пры мне, а завеш і трывожыш,
як шпачок на паўшар'і другім.

Пацалунак нясу, як даніну
той начы, што аднойчы звяла,
я ніколі цябе не пакіну,
я ніколі з табой не была.

Проста я з таге роду шчаслівых,
што валодаюць шчасцем адным,—
каб над ім не дрыжаць палахліва,—
ходзяць рознымі сцежкамі з ім.
*1983*

* * *

Прыеду я у той куток зялёны,
аддам па клон сунічнай старане,
дзе на сядзібах маладыя клёны
шумяць аб нечым дарагім і мне.

Чым аплаціць змагу сустрэчу тую? —
і горача,
                і сорамна да слёз,
што покуль я па днях сваіх
                                        вандрую,
яны не раз аплакалі мой лёс.

Яны не раз узносілі высока
густыя кроны пышна над зямлёй
ад самае нязначнай і далёкай,
ад нечаканай радасці маёй.

І голас голля заміраў пад ветрам
у вечаровым цёплым тумане,
калі гарэлі зорна кіламетры
агнём любві,
                        што ўспыхвала ўва мне.
І доўга потым у асеннім ззянні
не я,—
                яны апалена цвілі;
злятаў убор на сум маіх расстанняў
жывым вянком па звычаю зямлі.

Найлепшым прыдаецца ўсё, што ззаду,
найдаражэйшым тое,
                                што баліць,
а тыя клёны бачацца мне садам,
я каму — красавэць,
                            шумець,
                                        радзіць...
Прыеду, увайду пад тыя сховы
душой, ужо гатовай адцвісці...
І страшна не зыайсці такога слова,
што толькі раз гаворыцца ў жыцці.
*1983*

* * *

Калі нехта пяшчоту забраў
і нічога ўзамен не пакінуў,—
адшукаю крупіцу дабра
у сабе, каб святлець з успаміну.

Назбіраю на ўзлеску званцоў,
дзе салоўкі ў ляшчынніку свішчуць,
і пасля — па дарозе дамоў
іх пакіну на ціхім кладзішчы.

Дзе другая сказаць не змагла,
там пасею ласкавае слова,
каб сатлелая плоць зберагла,
як прызнанне ў заўседнай любові.

І прыдасца за ўсё даражэй,—
цішыні чабаровае лапік,
што сініца з кустоў сцеражэ,
каб апець, а найболей — аплакаць.

А як буду ісці па сцязе,
дзе ні помнікаў, ні агароджы,
дам гарачую волю слязе —
твар журботны сабой упрыгожыць.

За хмялістае лета званца
на кладзішчы над шрасным лёсам,
а найбольш — за гарэзу-хлапца,
што па выгане бегае босы.
*1983*

* * *

Усё забыць — імгненна і адразу.
— Дзень добры, асцярожна...
Там газон,—
і высмеяць заблытаную фразу,
паднясць на смех не модны парасон.
Адвесці вочы ў гаманкім партэры,
між іншым, пры размове пазяхнуць,
прайсці —
на ўздых —
ад Вашае кватэры,
але на вокны так і не зірнуць...

Калі ж гарачым шалам успаміну
абдасць шыпшыны трапятлівай пах,
не важным стане, хто каго пакінуў,
з гаркотай ці з надзеяй на губах.
Дазвольце мне вярнуцца з лістападу,
з завеі ці з дажджу ў будзённы час,
каб доўг аддаць у глыбіню пагляду,—
замоўчанае:
«Я КАХАЮ ВАС...»
*1984*

* * *

Не кожны мае ўладу, як халіф,
не кожны грошы гэтаксама мае,
ды кожны носіць пры сабе свой міф,
спярша стварае, потым разбурае.

Вось ты… яшчэ прыходзіш гаманлівы,
і словы часта кружаць галаву,
а ўжо не помню дзйн сваіх шчаслівых,
у прадчуванні шчасця зноў жыву.
*1984*

* * *

Бывала, ў ціхае начы
маю пяшчоту разгаворыць,
сам замыкаецца, маўчыць,
нібы канала сэрца ў горы.

Захутвалася ў лёгкі плашч,
а на сцяжынах іней слаўся,
і мне здавалася, што плач
з губ непакорлівых зрываўся.

Вярталіся ў халодны дом,
там сцены дыхалі спакоем,
але пякучай крыўды ком
пужаў прыгнечаным настроем.

Да тых начэй цяпер прыкута
дасюль нязнаным пачуццём,
ён быў тады маёй пакутай,
ён стаў шчаслівым забыццём.
*1984*

* * *

Здзіўляемся загадцы Баальбека
і некалі загадкай станем самі,
час замяце крылатымі вякамі
імгненне,
　　　　　　што завецца нашым векам.

Парушацца глыбокіх нетраў дахі,
тысячагоддзяў расхінецца полаг,
адкрые нас дасужы археолаг,
адкрыўшы нашых збудаванняў гмахі.

І будзе зачароўваць рамяство
майстроў, чые пагубяцца імёны,
і вершы нашы будуць, як пісьмёны,
што тояць дум высокіх хараство.

Стварэння прага ў будучыню кліча,
мой найхарошшы, сэрцам не грашы,
хачу заўсёды бачыць за аблíччам
мне любым — прыгажосць тваёй душы.
*1984*

* * *

Казаў мудрэц: яно — і нараканне,
і сонца, і пякучай цемры сплаў...
«Якія вочы мне дало каханне!»,
але... спярша душу яму аддаў.
Гляджу на ўсе вачамі маладымі,
і гнеўнымі, і добрымі ўдвая...
Каханне і прынізіць, і... узніме,
пакуль у ім жыве душа мая.
*1984*

## ДОЛЯ

Не шкадавала ціхага святла,
якім цвіце палеская каліна,
зыначыла дарогу да сяла,
дзе ботам і мясілі бабы гліну.

Запомніўся ламачча зябкі хруст,
калі мой дзед унукам для ўспаміну
садзіў ля той дарогі кволы куст
загадкавага пахкага язміну.

Цяпер той куст здаецца дварняком,
што некалі ляцеў усім пад ногі,
ён за любым бяжыць таварняком,
бяжыць... і застаецца ля дарогі.
*1984*

## НАЗІРАННЕ

Хтось пад гару ідзе, дзе зоркі,
кагосьці з той жа самай горкі,
бы зліжа, змые часу вал...
Жыццё — то ўзвышша, то правал.
*1984*

* * *

Успеньвае стаялую ваду
вяслом
                    той, хто маўчыць ізноў упарта...
Не крыўджуся, бо знаю, не знайду
з ім шчасця, без якога жыць не варта.

Даверу думкі сумныя вадзе
і сцежкам, што ўзбягаюць на пагорак,
можа, яго адна з іх прывядзе
у дзень, пад позірк недасяжных зорак.

Бо зоркі знаюць толькі вышыню
і могуць бачыць рознаю гадзінай,
як будзе пераконваць цішыню,
што я была ў яго душы адзінай.
*1984*

## ЗІМА.
## ДАРОГА Ў ЦЯХЦІН

Пяюцца гучна оды часу,
ды з кожным днем цяжэй Пегасу
сярод бетону і машын.
Мінецца ўсе...
                    Адно нятленна,
што разварушвае нязменна
турботы горкія душы...

Па снезе мама йдзе да студні,
пейзаж адзін малююць будні,
і гоіць думкі светам гэтым,—
аплаканым
                                  і зноў апетым,
а ноччу размаўляе з тым...—
халодным,
                    змрочным,
                                            нежывым,—

куды сыходзіць ўсё жывое,
далёкае
                    і дарагое,
скуль не вяртаецца ніхто...
Яму раскажа пра кароўку,
пра Вольку —
                                  хворую залоўку,
з пытаннем:
                    а паробіш што?..

Сплеў кош для бульбы
                                            брат стрыечны,
ёсць луста хлеба да яечні,
хоць даглядае Вольку сват...
Ад студні мама йдзе няспешна,
свет для яе, святы і грэшны,
сышоўся на акенцах хат,
дзе не рыпяць бадзёра ганкі,
дзе ўнукам не майструе санкі
маўклівы дзед, а круціць вус...

Мятуць імклівыя завеі,
бы рассыпае хтось лілеі
на сцежкі роднае абрус...
*1984*

* * *

Кароткіх сустрэч на прыпынку не будзе
і доўгіх размоў пры святле ліхтара...
Ад жалю ўратуюць сардэчныя людзі,
ад плйткі — ўсёбачнае вока двара.

Над светам глыбока ўздыхне завіруха,
і ў белай, бы з цвету каліны, начы
заплача няшчасны — пякельная скруха,
шчаслівы падумае — песня гучыць.

Да кофты дзіцячай прыладжваю
брыжык,
вучуся ў развexamжлівай строгасці жыць...
А кот Бургамістр, бесталковы і рыжы,
самлелаю вартай на сходах ляжыць.
*1984*

## ШЫПШЫНА ПРЫ ДАЛІНЕ

І ўсе ж я не сказала: «Прэч!»,
хоць знала, што душой астынеш...
Дарма ў знак будучых сустрэч
садзіў шыпшыну пры даліне.

Не мне душу тваю караць,
будзь ласкавейшым з той,
што зараз
яшчэ не ўмее раўнаваць,
яна — твой суд і твая кара...

А мне разлука студзіць скронь —
не захліпнуцца б ва ўспаміне...
І палымнее, як агонь,
цвіце шыпшына пры даліне.
*1984*

* * *

Халодны вецер дрэў не скалане,
пад імі словы чуюцца другія,
і ўжо спакойна дыхалася мне,
ды раптам Вы —
                                        ўстрывожанай стыхіяй.

Калі б хоць тры гады таму назад,
я зноў перажыла б — абвал, зацьменне,
а тут… такі натхнёны лістапад!
Мне замінае ўпершынго натхненне.

З якога ўздыму — бліснула сляза?!
Твар засвяціўся,
                                        свет рэальны — гіне…
І ў позірку так рызыкоўна-сіне:
там трыста д'яблаў супраць Вас і за!
*1984*

* * *

Не дастаткам, а сэрцам расла.
Я да шчасця сябе рыхтавала...
Ты не помні тых слоў, што сказала
не падумаўшы,— з гневу, са зла...

Гэта слабасці прыкрай начынне,
ты дакорам пустым не ўкалі
і жанчыну пазнай у жанчыне,
бы ў дзяўчынцы дзяўчынку калісь..
*1984*

* * *

Голас мой, не дрыжы.
Вочы... а вы — глядзіце:
парасткі першай ілжы —
бомба ў зеніце!

Што ж ты мне абяцаў?
Любові гаючае поле.
Можна збегчы ад спраў,
ад сэрца — ніколі!

Таму і стаіш цяпер
(сцерліся ўсе паняцці),
як вельмі разумны звер
з бездапаможнасцю
дзіцяняці.
*1984*

* * *

А давай, як у даўнішнім…
                                        Зноўку
мы сустрэнемся ў Доме кіно.
Лісце прыме ў шацёр свой салоўку,
ты далонню прыкрыеш акно.

Ты не мой!..
                    Мы яшчэ незнаемы.
Нас не вяжуць разладам гады.
Толькі там… у аконным праёме
дражняць квеценню белай сады.

І паглядам разгубленым цесна,
і рука неслухмяна дрыжыць,
і астатнім нячутная песня
з губ у губы праз залу бяжыць.

І паркет за калыхвае слізкі,
ну хутчэй, родны мой, падбяжы…
Стань, як цень неадступны мой,
                                                блізкім,
каб сказаць без сумнення —
                                                чужы!

*1984*

**ПЭПКА**

Цвіў лён. Жаўцела дзе-нідзе свірэпка.
І раптам з хмаркі лёгенькае — град...
Я з хаты ў двор, а наўздагон:
«Там Пэпка!
крычаў дзядуля.— Пэпка там... Назад!»

Там Пэпка! — чула ля віхлястай кладкі,
у лесе — Пэпка, ён жа і ў стажку...
Я да лілей цягнулася з аглядкай,
а што, як Пэпка ўхопіць за руку?..

Бывала, цемра... ані зоркі слепкай,
не ноч — а апраметны дэтэктыў,
ды пазіраў з-за шыбак дзіўны Пэпка,
так, як дзіця глядзіць у аб'ектыў...

Ён не лякаў. Я ведала, што стогне
на печы дзед. А Пэпка... ён — дзівак!
Зусім нядаўна залячыў мне вогнік,
смяяўся ж дзед,— ад Пэпкі мёду гляк!

...Зноў лён цвіце, каля мяжы свірэпка,
мой сын бяжыць да кладкі, да вады,
і я крычу: «Назад, сынок... Там Пэпка!..
Хутчэй вярніся... Чуеш, ты?.. Куды?!»

Куды-ы! — плыве па лугавым кіліме.
Там Пэпка-а! — рэха ўецца па траве.
Даўно памёр дзядуля мой Ладзімер,
а Пэпка і дасюль усё жыве...
*1984*

* * *

Чаму? Навошта? — што ні дзень
з пытання.
Вышукваеш нуды маёй прычыны,
а я заўсёды думала, мужчыны
ніколі не ўдаюцца ў сэнс кахання.

Як часам незаўважна ўскрыліць мара,
надзея ўспыхне з аднае усмешкі,
хто знае, на якіх кастрах згараем,
раздзьмухваем якія галавешкі?..

Дзеля чаго? Спрадвечная пакута.
Чакаем ночы, каб не спаць да дня.
Адзін гаворыць — мёд,
другі — атрута,
і кожны выпіць хоча ўсё да дна.

*1984*

**НАПРАДВЕСНІ**

А дожджык быў гарэза-бутафор,
кап-кап,—
                    ледзь пырснуў і пабег наўцёкі,
і толькі капяжы (вясёлы хор)
мелодыяй плывуць па вадасцёку...
Прылёг прамень хітрушчы на грудок
і, знай сабе, свідруе халадэчу,—
сумуе снег, разрумзаўся лядок,
а павадак зайграў накцюрн сустрэчы...
Відно, згадала бульба баразну,
бо з поўнага каша — кувыль —
                                        пад дзверы...
Што ж, паважаю добрыя намеры
і гавару: «Іду гукаць вясну…»
*1984*

* * *

Прывыклі ўнукі да тэлеэкрана,
як іх дзяды да плуга ў маладосці,
як іх бацькі да лесу за туманам,
што звабліва гукаў да дрэў у госці...

Гаворым, што радзеюць нашы пушчы,
мо высах дзесь астатнейшы ручай?..
У лес хачу, пад схову дрэў трывушчых,
дзе прадзед звера ласкай прыручаў.
*1984*

* * *

На сцежку выйду палявую,
дзе адгарае зверабой,
і цень за мною мой палюе,
як я за доляю сваей.

Не ўспамінаю, што забыта,
мае заўжды жыве пры мне,
удаль гукну, і мятлік з жыта
да рук даверліва прымкне.

За даўнасцю не шкодзяць страты,
без груза лішняга лягчэй
глядзець на летні луг стракаты
вясельм полымем вачэй.

І лугавая птушка хліча,
і ад травы салодкі пах
змывае горкі пыл з аблічча
і застывае на губах.

Мне гэты пах даўно вядомы,
і ўжо прыкідвае цану,
як ліха горкае бяздомны,
мой прыцемак з-за бур'яну.

І не грашыма — дробязь грошы!
ен возьме іншым, як бяруць
садоў ружовыя парошы
у салаўіную пару.

За нечаканы міг удачы
і за вячэрнюю зару,
з якой я голасам гарачым
пра дзень шчаслівы гавару.
*1984*

* * *

Калісьці ў зелень апрануцца дрэвы
і свет раслін пяройдзе на мажор,
запросіць салаўя на ўрокі спеваў
начы святлюткай месяц — дырыжор...

Пакуль жа ўсё размалявана ў вохру,
галіны жальбы ўспомнілі свае...
І ўжо сняжок пакінуў свой аўтограф
пад лаўкай, дзе прамень не дастае.

Ды гуд пчаліны, спеў і расцвітанне,—
усё не раз паўторыцца ізноў,
а ты, хто даў сустрэчу і расстанне,
гаворыш: не вяртаецца любоў...
*1984*

* * *

Бязмежнасць жыве ў снегападах,
завейныя мрояцца дні,
а позірк шукае ў паглядах
іскрынку жывой цеплыні...

Абудзяцца досвіткам крыгі,
і недзе ўздыхне Белавеж...
Вясны маладзенькай інтрыгі
ад вашых дзівацтваў не лепш!..

Не добрым спрыяюць удачы,
не злоснік нямее ад звад,.,
Штось кожны ў жыцці перайначыць,
ды толькі на ўласны свой лад.

Мне добра:
                    мяне Вы не зналі...
Мне горка:
            я ўжо не скажу,
як свецяцца чыстыя далі
пасля праліўнога дажджу.

І страшна за Вас беспрычынна,
Вы, мілы, далека не бог!
Дык як жа адчайнейшы ўчынак
памілаваць сёння Вас мог!..

Вось я адыходжу, святая —
такой застануся для Вас,
ды што як не святасць штурхае
у тайны вялікія нас?!
*1984*

## ПРЫ ЗАХОДЗЕ СОНЦА Ў ПАРКУ

Чакай, заход, яшчэ хвіліну,—
на тры бакі жыццё відно,
адводжу ад вачэй галіну,
бы разнавешваю акно...

І мне не страшна быць адкрытай,
мой сталы воблік не абраз...
Іду сцяжынай добра ўбітай
заўжды, нібы ў апошні раз.
*1984*

* * *

Старэюць людзі, дрэвы і кусты,
прыроды рух,— ён і суддзя, і сведка,
ужо да зор пракладзены маеты,
а ў вечнасці не быў ніхто ў адведках...

Па ніцях нерваў мой сыходзіць час
пад дахам, дзе заўжды ў адным парадку
з зімы ды ў лета вечны Валапас
пераганяе зоркавыя статкі.

І ўсе законы — і быцця, і з'яў,
як не праломіць векавая прызма,—
жыццё ў абсягах вечных толькі прысмак,
а што ёсць смак,—
ніхто мне не сказаў.

*1984*

* * *

Пра featurerознае, ды на паўгуках —
спакойна,
стала,
без прыкрас,
і сэрцам чуць, як стынуць рукі
ад непазбежнага між нас.

Я не баюся таямніцы,
якая звязвае ўдвая...
Не дай жа потым усумніцца,
што я каханая твая.

Невыпадковаю гадзінай,
калі сам д'ябал нам радня...
Узведзенай у ранг адзінай
хачу запальваць неба дня.
*1984*

## РАНІЦАЙ НА КАМАРОЎЦЫ

А мне патрэбны сёння толькі кветкі.
Заместа неба — кірмашовы дах,
прылаўкі, што цяжкія ваганеткі,
і ў кожнага свой асаблівы пах...

Як весела гандлюе цётка рэпай,
а ў сетачцы хлапца, што есць халву,
сумуе па гарачым волжскім стэпе
паголены прыродаю кавун.

Мне ж сум — не сум...
Я сэрцам акрыяла,
а ўспомнящца нядаўняй ласкі ранкі,
ўсплыве радок, што напісаў Купала,
яны, «як сон нязбытай абяцанкі».

* * *

Клопаты звязалі нас адны,
і ўсе той жа цьмяны ў небе ветах,
што ж гаворыш, блізкі і зямны,
што жывём на розных мы планетах?

Верыла і ў цемру я, і ў бель,
верыла ў шчаслівую прыкмету,
зараз веру ў дзіўны карабель,
што аднойчы прыляціць з Сусвету.

Дзеці скажуць: «Мамка, толькі глянь!
Як тлумачыць таткаву гаворку?!»
Ціха!.. Прадстаўніцай ад зямлян
ен мяне бярэ на сваю зорку.

Сяду пры сцяжыне на камель,
між галін плыве бусліны клСкат...
Дзе ж прапаў чаканы карабель,
у якой Галактыцы далекай?!
*1984*

* * *

За прыціхлымі дварамі
халадок схаваўся ў лог,
дзе ты бачыў, каб у драмы
быў шчаслівы эпілог?

Новая патрэбна дзея,
палу новага павеў,
і.,, стаю з адной надзеяй:
хоць бы ты хлусіць умеў.

Без цябе нашто мне неба?
З кім я долю падзялю?..
Не адводзь вачэй, не трэба,
я й такім цябе люблю.
*1984*

**ДЗЯДЫ**

Звычайна ўсё, вячэра як вячэра,
чамусьці толькі бацька мой не есць,
і мама кажа: «Выйду і яшчэ раз
зірну, ці добра прычыніла клець».

Брат просіць сына: «Клямкаю не ляскай.
Вялікі дзень, хіба не аццурэў?..»
Багаты стол... Над ім у рамцы дзядзька,
у танку ён пад Вязьмаю згарэў.

...Гусцее ноч. За сценкай бразнуў
рыдзель,
у гнёздах сціхла птушак валтузня.
Спі, мама,— аніхто да нас не прыйдзе.
Спі, тата,— ў сенцах бавіцца скразняк.
*1984*

**ТЫ ГАВОРЫШ...**

*

Ты гаворыш, лепшае ў былым...
Дні был і напраўду дарагімі,
ды ці трэба жыць далёкім тым —
мроямі і радасцямі тымі.

Ты гаворыш, светлае ў былым...
Божа мілы, многага не вернеш,
але глянь, здаецца залатым
колас, поўны наліўнога зерня.

Пэўна, сёння ўспомніць ты схацеў,
як страсала летні ўбор чарэшня,
а лісток адзіны ацалеў,—
што ён сніў пад калыханкі снежня?

Многа снежняў зведае зямля,
ды цяпер мне мілы яе колас...
Ты прыцішвай раздражнёны голас,
каб не шкадаваць чаго пасля.

*

Чуеш,
побач будзіць былку чмель.
Бачыш,
разгуляліся стракозы...
Не ўяўляла колісь, каб бружмель
адцвітаў і... наплывалі слёзы.

І не чула,
каб рака раней
на крутых парогах ледзь шумела
і каб я,
ледзь позірк твой кране,
замаўляць надоўга жаль умела.

*

Пасля імглістай хмурнае пары,
калі нарэшце сцішыцца залева,

спакойна спіць змяя ў траве ля дрэва,
ты ж пеначку ў галлі пазнай па спевах
і, нібы з ей, са мной пагавары.

Пра навальніцы і пра збажыну,
пра новы дзень і невыноснасць тлуму,
яшчэ пра тое, што мяне адну
ты прывучыў, як да сябе,— да суму,..

І, сумнай, сніцца рук тваіх сіло,
а ты гаворыш — лепшае было.
*1984*

## НА ВАЙСКОВЫХ МОГІЛКАХ

Напэўна, слоў апошніх не сказала.
Цяпер знайшліся словы ля пліты...
Каго бабуля калісь пахавала,
якога сэрца бераг залаты?..

У поўдзень светлы паспяшае ранне,
чапляючы на кожны куст цяпло.
Бабуля спадзяецца на спатканне,—
яно маўклівай кветкаю ўзышло.

А тут жывем...
                                        Спрачаемся без меры,
спрабуй, чужую пыху заглушы,
калі, бывае, добраму не верыш
у самай блізкай, дарагой душы.

Не зробіш дням усім былым агляд,
ды хочацца з харошым пагалскаць,
і шлях у сінь смугі... за далягляд
ўжо не здаецца доўгім і далёкім.

* * *

У спёку чэзнуць ля дарог кусты.
У год скупы — год сніцца ураджайны...
Зімовы бераг голы і пусты,
як чалавек, які пражыў без тайны.

Былі ў яго работа і сям'я,
ён быў руплівым і аддана-шчырым,
але не чуў ніколі салаўя,
які заве душу ў таемны вырай.

Дзе нечакана выбухне аднойчы
і захлісне віхура пачуцця...
І ўсё жыццё пасля чытаюць вочы
ў чужым паглядзе лепшы дар быцця.
*1984*

* * *

Ні славай, ні бясслаўем не дарыў,
спякотных руж улетку не прыносіў,
пакінуў у акне святло зары,
якою пахваліцца можа восень.
І ўсё чамусьці думаў — абакраў,
і ўжо не раз справуляў па мне хаўтуры,
ды весела жыло ў маей натуры
святло, што паварочвала да спраў;
да дзён, дзе вольна ў небе жаўруку,
дзе матылькі над лугам карагодзяць...
Бывай... Мне падае сваю руку
наступнае трывожнае стагоддзе.
Цяхцінскі бэз, дзяцей і ўнукаў смех,
пяшчоту мужа і цяпло матулі,
у родным лесе галасок зязюлі,
а ў родным полі белы-белы снег,
і мары, што з надзённага ляплю,
і брэсцкую калючую шыпшыну,—
усё вазьму, чым жыва, што люблю,
ў той новы век,— толькі цябе пакіну...
А тонкія маршчынкі на ілбе,
што ўжо ніякай радасцю не сцерці,
як знак адтуль, што мне там без цябе
ужо не страшна будзе і памерці.

**АДЧУЖАНАСЦЬ**

Праз тоўшчу хмар
праб'ецца яркі Марс,
надзея снамі лёгкімі ўзбуяе,
есць месца шчасцю,
ды аднойчы фарс
жыццё
на сцэне лёсу разыграе.

Свет патануў у водбліскаx трывог,
а вы крычыце:
«Поўня нам пасвеціць!»
Якая поўня, мілы дэмагог,
пакіньце гэту казку нашым дзецям.

Адчужанасць...
Пад норавам яе
мяняюцца аблічча і характар,
утульнасць бачнасць згоды надае,
ды, ўрэшце,— ненадзейны дэкаратар.

Снег выбеліць укамянелы дол,
свой час цягну, бы тонкі пасак з гумы,
і сэрца суцяшае валідол,
як у юнацтве мройны пах парфумы.

З дзён саскрабаю быту каламуць,
святла зямнога вызначыўшы межы:
есць у мяне на ўсходзе рэчка Друць,
на захадзе — дыханне Белавежы.

За словамі чаканымі — падман,
вы ўвесь ужо ў абсягах незваротных,
а снежань, як зацяты графаман,
пераканаць спрабуе ў адваротным.

## САЛАМЕЯ

«...І па форме, і па зместу яшчэ больш набліжаюцца да прыгодніцкага рамана ўспаміны ўраджэнкі Беларусі Саламеі Пільштыновай...

Да іх цалкам стасуюцца словы, сказаныя з іншай нагоды, аб тым, што часам «сам дакумент можа стаць літаратурай дзякуючы дзівоснай верагоднасці, выключным фактам, выдатнай асобе аўтара., нязвычнаму яго лёсу...»

*Адам Мальдзіс,*
*«Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя». С. 33, 40.*

## ВЕРШ
## НА ЗНАЁМСТВА
## З ЯКУБАМ ГАЛЬПІРАМ

Паляванне... Трубіць зычны рог.
Сэрца б'ецца, бы ўзнялі арэлі...
Думаў, рысь між голля падсцярог,—
пташку лёгкакрылую падстрэліў.

Пасадзіў на гнедага каня,
конік мой, не дай у пыл упасці!
Яснага прасіла ў неба дня,
выпрасіла неўспадзеўкі — шчасце.

Конік — быстры, ясені — сцяной,
а даліна — ўсмешкаю Айчыны,
будуць потым слёзы над труной,
высахлае голле біручыны[3]...

*

Спеліць, спеліць сонца
ягаду-ажыну,
сонда — не ў аконца,
еду на чужыну.
Ягаду-ажыну ў набірку не браці,
еду на чужыну,— горка плача маці.

[3] Расліна сямейства маслінавых.

Толькі я не плачу, хоць журуся дужа,
еду на чужыну, еду з любым мужам.

Ля варот старчанка, камізэлька — ў дзірах,
кажа: «Сцеражыся лекара Гальпіра...

Бо не пахнуць мёдам сцежкі
на чужыне,
прыгажосць завяне і Гальпір
пакіне...»
Слухаю старчанку і смяюся шчыра,
я не наракаю за нядобры вырак...

Долю не ўшчуваю, не прашу адхлання,
еду пад аховай вернага кахання...

**ПЕСНЯ**
**ПЕРШЫХ ДЗЁН**
**НА ТУРЭЧЧЫНЕ**

Звініць струною тонкай саз[4],
бы за сцяною нехта плача...
Душа мая кладзецца ў сказ
любові даўняй і гарачай.
Шлю прывітанне ветракам,
узлескам пушчаў гаманлівых
і слухаю, як жабракам
ашык[5] прарочыць лбе шчаслівы.
Каму ж пакінута напасць
туп, што ў дні нядолю ўвяжа,
руку чужына мне падасць
ці каменем на сэрца ляжа?!
Тут пры дарозе не шуміць
сасна галінаю пявучай,
і ўсё мацней душа баліць
ад думкі смутнай і гаручай.

Шлю прывітанне ветракам...

[4] Струнны шчыпковы інструмент.
[5] Ашык — пісняр, народны спявак.

**БЯССОННЕ**

С а л а м е я
*(усхвалявана)*
Яку б, прачніся, сціснула дыханне!
Зноў той жа сон...
і багна, і вада...
Нядобрае трывожыць прадчуванне,
дапраўды, ходзіць блізенька бяда.
Яку б, прачніся...

Г а л ь п і р
Я даўно не сплю...
Ты проста не прывыкла да духоты.
Спакойна спі... Я — побач, я — люблю,
і пра цябе ўсе думкі і турботы.

С а л а м е я
*( разважліва )*
Куды нас гнала?
Добра мне з табой,
здаецца, часам шчасця аж замнога...
Але адны... і трэба быць сляпой,
каб не даймала пухіром трывога.
Я разумею, хочацца раскошы...
Пакуль з табой —
усё ў жыцці знайду,
але, Якуб... Атрута там, дзе грошы,
свет на грашах гадуе злыбяду.

Г а л ь п і р
*(злуецца)*
..? Табе ніколі, жонка, не казалі,
знай свае месца, дурань,— з воза злазь!
Табой, відаць, яшчэ не пагарджалі?..
Нядобра, калі тварам пхнуць у гразь!
Пакутуеш?
Трывога і няўлежнасць?
Спі, жонка!..
Грошы — гэта незалежнасць

С а л а м е я
*( горка)*
Якуб!.. Якуб!..

## ПЕСНЯ ШЧАСЛІВАГА ДНЯ

Жыцце, як лета без спякоты,
жыцце, як восень без дажджоў,
кал і няма ў душы пяшчоты,
калі згасае ў ей любоў.

Завеш нясмелаю дзяўчынкай,
бо пры табе — цішэй вады,
пакінь мяне, і я дажджынкай
ўпаду, каханы, у сляды…

Стань ля чужой сядзібы тынам,
сцяліся ля другой травой,
я не сшалего з успамінаў,
між вас праб'юся крапівой.

Не запужае адзінота,
не ўскружыць галаву фларын[6],
твая любоў, твая пяшчота,
як вол і боскае дары...

## ПЛАЧ НА СМЕРЦЬ ГАЛЬПІРА

То не хмара з неба месячык сагнала,
гэта ўчора жонка мужа пахавала.

Мужа пахавала, долі не зазнала,
хай бы ж наша ліха у зямельцы спала.

Да каго звярнуцца з просьбаю-паклонам,
мо суніме жаль мой лекар з Вавілона?..

[6] Грашовая адзінка, якая была распаўсюджана таксама і ў Турцыі.

Пры каханні лекі — бляск вачэй ды вернасць,
роспач і бядоту лечыць — міласэрнасць...

Ад агі пасыльны — хлопчык чарнавокі,
ты, Якуб, не чуеш — сном заснуў глыбокім.

Просіць хлопчык рады позіркам пакутным,
ты, Якуб, не бачыш — сон твой непрабудны.

Пры табе, Якубе, я была дасужай,
лекар з Вавілона раіць: стань за мужа...

Для агі з пасыльным адпішу вакцыны,
вось і Саламея — доктар медыцыны.

## САЛАМЕЯ ЗАПІСВАЕ Ў ДЗЁННІК

Адзінота... плач... работа...—
ўсё маркота!

Засляпіла вочы мука!
І дакука! —

Днюе ў сэрцы і начуе,
можа, досыць?!

О, як доўга боль галосіць!
Хто пачуе?..

## ДВА ВЕРШЫ НА ЗНАЁМСТВА З КНЯЗЕМ РАКАЧЫ

Як развеяць боль гарачы,
добра знае князь Ракачы.
Лоўкія расставіў сеці:
ўчора падарыў гарсэцік.
Сёння праслаў каралі
з воляй княжай, каб чакалі...
Каб дварняк слядоў не нюхаў,
каб сышоў з падворка кухар,

каб была лашднай пані
з князем і ўначы, і ўранні.
Ёсць у князя верны лёкай,
ён ад пані недалёка,
бачыў: пані з суму гіне,
князь Ракачы сум суніме.
Тварык белы абцалуе,
пан і з князем забалюе...
Князь ёй добрых коней купіць,
а падману ён не любіць.
Князь Ракачы — князь удачы

О-о, мы гэта шчэ пабачым!..

*

Князь Ракачы — шал гарачы
хоча ласкі без астачы,
спакусіўся на нядолю,
пакладу бліжэй пістолю...
Гэй, мой кухар, добра слухай!
Будзе князю аплявуха!..
Кухар, позіркам не бліскай,
князь Ракачы недзе блізка...
Вось чадра, а вось спадніца,
выйдзі князю пакланіцца!
Каб салодка князь не марыў,
вядзі князя да чынары,
абдымай яго штосілы
і шапчы на вушка: «Мі-ілы!»,
а калі рукам дасць волю,
я пушчу у ход пістолю...
Грымне стрэл,— канец прыгодзе!
Хапай князя з крыкам: «Злодзей!..»
Што ён князь,— не дух сабачы,
хай даказвае Ракачы
грозным стражнікам і бею...
Князь папомніць Саламею!

## РАЗМОВА З САБОЙ
## ПРЫ СУСТРЭЧЫ З ПАЛОННЫМІ

Было калісьці многа ў іх адвагі,
а запісала доля ў бедалагі...

З цікавасцю ў мой бок глядзіць палонны,
а збоку — тоўсты, ён, відаць, галоўны.

Што ён сказаў таму, што воч не зводзіць
з мяне, чаму рукамі той разводзіць?..

Пабег да гандляра з ажыўшым тварам,
зайду і я, нібыта за таварам.

Вось ен... купляе мыла і паперу,
чаш ж стаю разгубленая ў дзверах?

І болю, і абраз душа зазнала,—
такога б, можа, я і пакахала...

Прыгожы твар, хоць і зарослы шчэццю,
мо гэта лагер іх ля рова за мячэццю?

Няма ў мяне аддanae сяброўкі,
пра лагер распытаць патрэбна ў накаёўкі...

*
Ах, гэта ноч... Як дыхае спякотай!
Праклала поўня сцежку да прысад.
Даруй, мой боль, нязвыклая пяшчота
ўпусціла промнік радасці ў пагляд.

Раяцца словы, ім у сэрцы цесна,
а над мячэццю зорка, што ліхтар,
гуды плыве мяцежнай мроі песня,
яна душы ўстрывожанае дар...

О, я з жаданнем палкім не сваволю,
бо згуба там, дзе палыхне агонь,
хачу вярнуць зняволенаму волю

і чую: сэрца трапіла ў палон.

**НОЧ.**
**СУСТРЭЧА З ПІЛЬШТЫНАМ**

П а к а ё ў к а
*(радасна)*
Сюды... Сюды!.. Здаецца, бачу лаз!

С а л а м е я
*( раздражнёна)*
Ды пачакай!.. Тут дрот! Не адшчапіцца!
А што, калі пачуе варта нас,
не ў лесе мы, крычыш чаго, дурніца?!

П а к а ё ў к а
*( вінавата)*
Зраднела я... Усё-ткі, пані, лаз!
Вой-вой! Хто тут?! Дальбог, дыханне чую...

С а л а м е я
*(злоена)*
Чаго ж стаіш, як лялька, напаказ?
Хто ж крадзецца слупом у ноч глухую?
Прысядзь!

Г о л а с з ц е м р ы
Хапай!.. Лаві!.. Ха-ха-а!..
Каб мне не ўстаць, ля лагера — жанчыны!

С а л а м е я
*(з хітрынкай, лагодна)*
А ты, як бачу, рады пабрахаць,
лепш запытай, з якой мы тут прычыны?
Вясёлы голас, слухай, памажы,
напэўна б, варта так не гаварыла!..
З палонных ты, дык бедным падкажы,
хто з вас купляў сягоння ў краме мыла?

Г о л а с з ц е м р ы
*(з непрыхаванай цікавасцю)*

А вам нашто?..

С а л а м е я
*(ціха, ласкава)*
Ці ж лезці нам за тын?
Скажы, ласкавы...

Г о л а с з ц е м р ы
*( памарудзіўшы)*
.,? Добра!.. Гэй, Пільштын!..

С а л а м е я
*(разгублена)*
Ён тут! Ён зараз прыйдзе… Як раптоўна
Адкрыць душу адразу — рызыкоўна!
Вось ён ідзе...

П і л ь ш т ы н
*(як быццам і не здзіўлены)*
Пытаўся хто мяне?

С а л а м е я
*(паспешліва, трошкі збянтэжана)*
Усе пасля... А зараз лепш без крыку!
Я за цябе дам заўтра бею выкуп...

П і л ь ш т ы н
Хто ты?

С а л а м е я
Пасля... Ад сэрца, не з раскошы
лаві кашэль, не ў клопат будуць грошы!
*(Кідае Пільштыну кашэль з грашыма.)*

П а к а ё ў к а
*(ад нечаканасці)*
Ах, пані!..

## СУМНЕННІ САЛАМЕІ
## ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ПІЛЬШТЫН
## СТАЎ ЯЕ МУЖАМ

Аццвіў даўно ў садах міндаль.
Пабляклі ўзвышшы
і нізіны,
але чужой прыроды жаль
мне не ў маркоту,
мой адзіны.

Жартуй з другой
і гавары,
што ў валасах яе камеі,
як жар паўднёвае зары,
а вер заўсёды
Саламеі...

Я — тая,
што жыве з агню,
чужая выхадцы манернай,
і калі позіркам зманю,
дык застануся
сэрцам вернай.

Шапчы:
«Мая!» не мне ў адказ,
ды спамяні ў гарачай стоме
ноч,
што злучыла палам нас
у гэтым выстуджаным доме.

Цябе папрок мой не кальне,
заўжды сустрэну,
як на крылах,
каб сэрца білася вальней,
я вочы радасцю прыкрыла...

Стаў весялейшым краявід,
ў пясках міраж размыты скача,
і я ўсміхаюся наўзрыд,

а ты гаворыш —
мучу плачам.

*

Радасць мая, на далоні пахукай...
Доля карае і помсціць за грэх,
а я без віны пакарана разлукай
з чародкай бяроз ля зажураных стрэх.

Да лугу не выведуць сцежкі чужыны,
багатая я, ды багаццем не тым...
У лета май не ўварвуцца рабіны
з жа рынка мі гронак у голлі густым.

Пранізлівы позірк маркотнай сялянкі,
ды бачыш за ім не чужую душу,
гасцінцы,
балотцы,
лясныя дзялянкі
даўнютка па мне адспявалі імшу.

Няпраўда!
Я — вольная... Чуеш, каханы,
абжытая хата яшчэ не жытло!
Да дрэў не вярнуцца лісткам адарваным,
мы ж — людзі...
Нам трэба радзімы святло.

## ПАСЛЯ ВЯРТАННЯ НА РАДЗІМУ.
## У НЯСВІЖЫ

Я падрасла ці неба паднялося?
Дзе сажалкі, там блізка хутары...
Адвечны гімн зямлі пяе калоссе,
і пахнуць кменам хмурыя двары.

Ўсе роднае!..
А сэрца не ў гуморы,—
да скону дабрачыннасці служы,
а ўсе адно жыве паўсюдна ў горы
той, хто ярма яго не заслужыў.

Сляпы ідзе з павадыром-дзяўчынкай,
пад спеў яго ўздыхае грамада,
ды ці пракорміць сем ратоў катрынка,
ды ці ад іх адступіцца бяда?..

Ўзвяло багацце моцныя парканы,—
там сытая не ўскаланецца ціш!
Айчына! —
                    бераг, лотаццю затканы,
ты вольнасць залатую толькі сніш.

**ВЕРШ**
**ДА ПІЛЬШТЫНА**

Сказала б я, напэўна, пазаўчора,
што ты жыцця пачатак і працяг...
Цяпер маўчу, бы перад бурай мора...
Як мала ў шчасця пабыла ў гасцях!

Што трэба ад цябе — ужо не знаю,
а ты зірнеш, і я затрапячу,
і ў палкасці уласнае згараю,
і за пакуты гонарам плачу.

Прынізіць можаш...
                                  Я цярплю абразы
і ведаю: нічым не дагаджу,
і сіл няма адсекчы ўсё адразу,
ты — неба без святла
                                         і без дажджу.

Навошта ж мне імкнуцца ў твае высі?
Зямная я — са смеху і са слез.
Я — жонка — лёс упрошваю: скарыся!
І мне ў адказ: «Паўстань!» —
                                         крычыць мой лёс.

Паўстань!
Адрынь той шлях, дзе паабапал
адна насмешка, што ні крок — то ўкол!
Ці ж то жыццё, дзе сэрца смокча д'ябал,

а ў вочы зазірае, як анёл...

Купі атруты — раіш штохвілінна,
ці знікні, як мага далей хаця б...
Каханне, ты — прывабная быліна,
дзе з двух герояў нехта вечны раб.

## САЛАМЕЯ ВЫРАШАЕ ПАДАРОЖНІЧАЦЬ

Ой ды за акенцам ні бур'ян, ні ружа,
за маім акенцам узнялася сцюжа...

Сцюжа узнялася, сцелецца вятрыскам,
то сіпіць здалёку, то смяецца зблізку.

Хто яе суніме, хто яе ўгамоніць
і чые ля ганка вараныя коні?

Коні вараныя, песні балагола,
сяду і паеду па раўніне голай.

Па раўніне голай, дзе гуляе сцюжа,
улагоджваць ветры, забываці мужа...

## САЛАМЕЯ, МІЖ ІНШЫМ, ЗАПІСВАЕ Ў ДЗЁННІК

Бывае час, калі замрэ дыханне
ад змовы думак строгіх з пачуццём,
якое выліваецца ў блуканне
жаданняў...
І не можа ўжо жыццё
спыніць той гон пякучай, прагнай змовы.
Шапчу імя тваё, мой юны бог!
Прыйдзі...
Спакуса апранецца ў словы,
і я скажу табе — ты перамог!
Цяпер я ўся толькі ў тваёй уладзе...
Ці ж можна мудра, стала разважаць
і ўсёй істотай гінуць у паглядзе

вачэй тваіх?..
                Як цяжка мне маўчаць,
бо ты прыходзіш не адзін, з сябрамі!
Таюся я, раскладваю пасьянс
і ўся гару...
                Анёл кахання з намі,
ён цвеліць, ён штурхае ў бездань нас.

**ЯШЧЭ АДЗІН ЗАПІС
У ДЗЁННІКУ**

Жыцце жанчыны — зараснік шыпшыны.
О бойся, недарэчы, заблукаць,
калі пасля вясёлае сябрыны
спатрэбіцца ласкавая рука...

Ўзаемнасці ні ў чым не абяцалі,
ды на парозе нашага расстання
тры тыдні зоркі ценямі пісалі
на курганах трывожны знак кахання.

Цяпер — бывай! — няпрошанай часінай,
ахвяра неўтаймоўнага гарэння,
ты, можа, станет лепшым успамінам
у радасцях другога захаплення.

**ВЯРТАННЕ Ў НЯСВІЖ**

Як дарагой тканіны мяккі пруг,
край неба над палеткамі імгліцца,
ўжо толькі ў снах здзіўляе Пецярбург,
паўночная шыкоўная сталіца.

Там да мяне прыязна «мой дружок»
звярталася пры ўсіх царыца Ганна...
Каплічка пахілёная... Стажок...
Ды балагол вядзе свой спеў старанна.

Ды лес асенні высіцца, як храм,
ствол да ствала суседняга хінецца...
Парадуйся спаўна чужым дарам,

а ўкленчы там, дзе сэрца скаланецца

ад дотыку ўтрапёнага да тых
прыціхлых дрэў, што лета адспявалі,
выпальвалі і высякалі іх,
яны ж лясамі новымі ўставалі.

Лясы, як людзі... Людзі, як лясы
пад зоркавай таемнаю страхою,
дужэюць, калі звязаны адною
і верай, і любоўю на часы...

## РАЗРЫЎ З ПІЛЬШТЫНАМ

С а л а м е я
*(горка, з дакорам)*
...Агрутай разлічыўся ты са мной
за ўсе турботы і за ўсё цяпло!
Не думаў, што стаяць мог над труной.

П і л ь ш т ы н
*(з'едліва)*
Трагедыі б вялікай не было!
Калі не для сябе жывеш — для свету,
дык хай суцешыць зараз цябе свет!..

С а л а м е я
*(амаль з адчаем)*
Шльштын, я ўсё абдумала як след
і волю для сябе ўзяла за мэту.
Круг не замкнены, я шукаю выйсця...

П і л ь ш т ы н
Угу, купіўшы злагаду маю...

С а л а м е я
Купіўшы?.. Для сваей хіба карысці?
Сябе ў люстэрку ўжо не пазнаю!
Абрабаваў, перад людзьмі зняважыў,
ды я дарую... Хочаш, з'еш мяне,
ты толькі знай, дзе шчасця не даважыў,

там дабрынёю лёс не абміне!

П і л ь ш т ы н
*(з насмешкай)*
Што ж, спадзявайся!..
Лесу вер!..
Чакай!..
Ці ж мне тапіцца? Буду толькі рады!
Але мяне пры гэтым не чапай.

С а л а м е я
*(нібыта нечага шкадуе)*
Пра што мы? Ад нянавісці, ад здрады
зноў у нянавісць...

П і л ь ш т ы н
*(з выклікам)*
А куды яшчэ?

С а л а м е я
*( задумліва )*
З'явіўшыся, нянавісць не ўцячэ...

П і л ь ш т ы н
*(злосна)*
Дык, можа, кінеш зноў кашэль, дурніца,
каб ад цябе ж мне зараз адкупіцца?!

С а л а м е я
Вар'ят!.. Які вар'ят!..

* * *

Не адхварэла, лепей адспявала,
бо ўжо не носіць сэрца тых пакут,
я шклінкаю халоднай адтавала,
адагравала воляй кожны кут...

Прарочыца,
распусніца,
вясталка —

усё ў адно, каб раптам зразумець:
душа, тугой працятая,
як джалкам,
не можа анічога адагрэць.

Туга ў вачах...
Я ж верай, не малебнам
вяртала ўсім гаротным ясны зрок
і вось сама ад слёз пякучых слепну,
ад шчасця да няшчасця —
толькі крок!

Сляза —
радня і роспачы, і кратам.
Куды ступіць? Адчай, як вастрыё...
І ўпала я, шукаючы свае,
а Ён падняў,—
Ён, з сэрцам амарата[7].

**ЛІСТ ДА АМАРАТА**

Чым найцяжэй да рога пад гару,
тым радасней бывае на вяршыні,
з якою асалодай гавару,—
ты — як цяпельца пасля доўгай стыні.

Я думаць пачынала, што турма —
ўсе дні мае, адкуль ужо не выйсці...
Святых і грэшных ганіла дарма,
твая душа мне падказала выйсце.

Не прыгнятае страт былых цяжар,
бо тыя страты, як сатлелы клунак,
цяпер мае жыцце — раздзьмуты жар,
твой кожны доты к — першы пацалунак.

Зноў стан мой паслухмяны, як струна,
што кожным гукам радуе музыку,
і дзень, і ноч з табою — не ў пазыку,

[7] Каханак.

усе, што не падман, не мае дна...

## РАСЧАРАВАННЕ

Няхай ад ласкі ўчора млела,
ды не спасціг ніхто душы!
Пакуты выкрасліць хацела,
ты — даўні боль разварушыў.

Што не збылося — адасніцца,
за даллю не сцяна, а даль...
Пачуццям лёгка паўтарыцца:
ізноў каханне — зноў і жаль.

Хацела б горыч я аспрэчыць,
ды ці не раз са мной было,—
кляліся, цалавалі плечы,
а позіркі былі як шкло...

Танюткай шторкі трапятанне,
за шыбай — снежаньскі лядок...
Парыў астуджвае прызнанне —
«Твая!» — ты сэрца на замок!

## РОЗНЫЯ ДУМКІ
## Ў РОЗНЫ ЧАС

*
Надрыў, адчай — усё глыбей...
Замест літасці — папрокі...
Старэю. Пачаліся ўцёкі,
куды найдалей... ад сябе.

*
Ты сваю радасць не ўпасеш,
але ў адчаі ці на ўздыме
заўсёды лепшае нясеш
нябозе,
дзецям
і радзіме.

*

Ёсць месца ўдачы і бядзе,
а шлях зямны, ён не бясконцы,
і покуль жывы ўсе ідзем
з начы насустрач свайму сонцу.

*

Ізноў Турэччына... Мяжа...
Камечу ў одуме пальчатку.
Дзе пачала хварэць душа,
пачну адтуль усё спачатку...

**САЛАМЕЯ**
**ЗАПІСВАЕ Ў ДЗЁННІК**

Быццё — прастора тлуму,—
не графа,
дзе ні адзнакі добрай, ні памаркі,
гарэм твой — неба ночы, Мустафа,
дзе заміж зорак — цьмяныя агаркі...

Ды ёсць адна, бы вечар без цямна,
яна — твае шалёнае гарэнне,
і боль, і асалода, і натхненне,
жыццё тваё і смерць твая яна.

Я — лекарка, сляпым нясу святло,
была пры ім і богам, і ахвярай,
твой пацалунак для яе, як кара,
абдымак твой, як ластаўцы сіло.

Пад сонцам грэшным можна жыць з ілжы,
пад сонцам ясным — толькі з думак
чыстых,
і я сказала: «Родная, бяжы —
няможна ў свет,— да хваляў
серабрыстых...»

А чым яшчэ магла я памагчы?
Хоць знаю, ятаган няўмольна гостры,
з вачэй яе зняла радно начы,
цяпер, султан, чакаю тваёй пометы...

**СОН САЛАМЕІ**

С а л а м е я
Як дзіўна, я — ў былым забытым доме.
Вунь столік мой, вунь крэсла...
ў сэрцы — мір.
*(Замірае.)*
Падман?! Ды не!.. Стаіць нехта ў праёме
дзвярэй... І ўжо ідзе...
*(Вельмі спалохана.)*
Сюды ідзе Гальпір!
Паўза.
Схавацца? Збегчы? Па мяне, няйначай,
ідзе... Не падыходзь, Якуб, ты — страх!

Г а л ь п і р
Няпраўда, я даўно цябе не бачыў
і вось прыйшоў пад наш старэнькі дах.
Я знаў — ты тут, я не з благім намерам,
не бойся... Лепш прысядзем да стала...
Зноў пахнуць валасы твае аерам,
ракою... Ты такая ж, як была.

С а л а м е я
*( здзіўляецца )*
Была?.. Я — ёсць...

Г а л ь п і р
*(з сумам)*
Ты — ёсць і доўга будзеш...
У гэтым доме госць часовы — я!
Прачнешся і начное ўсё забудзеш,
спакойнай стане зноў душа твая.

С а л а м е я
Спакойнай?.. Ты гаворыш з дзён былых,
ім аніколі ўжо не паўтарыцца,
ці знаеш ты, як можна на крутых
шляхах на камянях душой разбіцца?
Г а л ь п і р

*( праніклівa )*
Я знаю ўсё... Таму я сёння тут...
Сам чалавек — віна сваіх пакут,
табе патрэбна сэрцам адагрэцца.
Спынілася б... Адкрыла б лазарэт...

С а л а м е я
Якуб, я лазарэтам бачу свет,—
хто хворы на сумленне, хто на сэрца...

Г а л ь п і р
Няпраўда, ты не думает пра час...
Свет — міг жыцця, і гэты міг салодкі,
я колісь многа горычы адпас,
яе не помню, знаю — век кароткі...
Задумайся.

С а л а м е я
Хвалюешся дарма.
Жыву былым, цяперашнім і дальнім,
і анідзе няяснасці няма,
мо толькі над каханнем ёсць пытальнік.

Г а л ь п і р
Каханне... На яго яшчэ ляціш
і кожны раз ратуешся ва ўсхліпе!
Якой жа думкай зараз ты гарыш?

С а л а м е я
Я думаю паехаць у Егіпет,
пасля... дамоў, дзе паляваў на звера
калісьці ты, а выгледзеў мяне,
ты помніш, ля ракі на валуне...

Г а л ь п і р
І пахлі валасы твае аерам...

## АПОШНІ ЗАПІС
## У ДЗЁННІКУ

Душу сваю не выкупаўшы ў зле,
жыццё мае чытайце, як паданне,
дзе ўсё ў адным звязалася вузле —
любоў...
                    Айчына...
                                        Горыч і каханне.

*1985*

**РАЗВІТАННЕ**

Што задумвалася — не збылося.
Год прайшоў, як праплыў па сцяне,
і ўсміхаецца блізкая восень
гронкай горкай рабіны ў акне.

І над полем будзённай работы
невясёлае мары туман,
ні чакання, ні слёз, ні пяшчоты,
толькі злога бяссоння дурман.

І пакуль маладзік не патоне
ў прыбярэжных зялёных вірах,
стану ярасна мыць падваконне,
пыл з пакрэсленых стосаў сціраць.

Каб жа выжыла дужае сэрца,
стану піць дзівасіл з гладыша,
а няўцямны сусед рассмяецца:
«Бач, пяе ў маладзіцы душа».
*1985*

* * *

Спадзе раса, і адшуміць калоссе:
раса пад сондам, колас пад сярпом...
Усяго даўжэй —
                    з абложнай скрухі восень,
ўсяго цяжэй — згінацца пад гарбом
надзей, чакання ці расчаравання...
То ўніз, то ўгору хваля пачуцця,—
і гэта ёсць пачатак шчыравання
душы ў будзённым рэчышчы быцця.
*1985*

## СУСТРЭЧА

Час для Вас не лекар, не грымёр...
Дзверы насцеж,—
Вам, як ветру, рада,
толькі клён за шыбкаю замёр,
бы рысак
пад пугай канакрада.

Памяць наша — бездані сувой...
Дзе ж сасна,
што слухала, як плачам
разрывала крокаў Вашых шво
ў спадзяванні,
што змагу зыначыць
Ваш прысуд:
ад сэрца адарваць...
Адарвала.
Дзякую.
Не помню
ні сасны, ні спробы даравать...
Засталіся толькі словы-промні
у радках збалелых сумаваць.

Словы — промні...
І туга — радзей...
Смутак губ і адзінота локцяў
прытулілі лета да грудзей,
вернутае гронкай белых флёксаў.
Іх прынёс...
Ці варта, хто прынёс?
Выпілі бабулі нашы гора,
і ўсміхнуцца вырашыў мне лес,
ды пра гэта гучна не гавораць.
Што маё?.. Пра Вас хачу найперш
чуць цяпер, далёкі мой і светлы...
Ціха як...
Я ж рада Вам, як ветру...
Боль той даўні —
мой найлепшы верш.

*1985*

**КАЛІ НЕ ПІШАЦЦА..**

Навошта думаць, што няма хвіліны
больш чыстай, чым сустрэча нашых гу
у зараснік, дзе друз і грудкі гліны
прынёс пах лесу ў пёрках крыжадзюб.

І просіцца душа на тое ўзлессе,
дзе гэткі ж самы — норавам круты —
заместа шчасця даў у лёс мне песню,
з якое сёння пасмяяўся ты.

Пчала звініць. Ручай лясны бруіцца.
Ім, можа, ў нечым песня прайграе,
ды здзівіцца галодная ваўчыца,—
ёсць гук між дрэў, а голас не яе.
*1985*

* * *

Жыву з жыцця, і можна было б лепей,
мудрэй, святлей, але вазьму дачку,
і, як дыхнуць, у два старанні злепім
снегавіка на снежным пятачку.

Парадуемся, сядзем, памяркуем,
фантазіі дае крыло — запал,
і вось ужо не лепім, а будуем,
бы на аблоках, з аблачын квартал.

Мы садзім лес,
вяртаем рэчкам воды,
мы думкамі імкнём за небакрай
і ў свет далёкі пад сцягамі згоды
пускаем поўны шчырасці трамвай.

Хтось прыадкрые звыклай позы маску
(адкрыты твар мільгае ўсё радзей),—
а мы хутчэй!.. А мы ствараем казку:
свет новы і не новы для людзей.

Балотца, гай і журавель над гаем,—
чутно, як трызніць казкаю зіма...
І мы яе вясёлаю ствараем,
а сумная народзіцца сама.
*1985*

**НЕ ТРЭБА СЛОЎ**

Як лёгка спудзіць касякі малькоў
на сініх пашах бацюхны Нептуна...
Не трэба слоў узвышаных, хвалько,
калі пясм свой лёс на розных струнах.

Мая туга амаль і не гучыць,
трывожны гук, а сэрца адспявала...
Завуць да згоды рукі на плячы,
іх жар — агонь бенгальскі карнавала.

Тады навошта ж быць такой цярплівай,
што ні світанак — сонечны настрой,
каб ты дасюль лічыў мяне шчаслівай
і адпаведна гаварыў са мной?!
*1985*

* * *

Разважаеш пра штормы і мелі
у кутку спакон веку лясным
і гаворыш, што гора займелі,
бы й не чулі дыхання вясны.

Я адказваю:
                    — Дзе ж тое гора?
Сцены светлыя, чыстая столь...
Незгаворліваю непакорай
неапраўданы сцішваю боль.

Не завітваю ў дом мураваны,
дзе звычайна гаіла адчай...
Хай ілжэ: «Прападай з некаханым»,
голас злы ля другога пляча.
*1985*

## У ПРАДЧУВАННІ БЛІЗКАЕ РАЗЛУКІ

Ніхто не скажа сёння мне, чаму
ледзь не чапаюць голле яблынь хмары
і вецер, быццам весела яму,
распырсквае ручай на тратуары.

Як пастушок, што ў поле выйшаў без
звычайнае і ёмістае кайстры,
уздрыгну раптам, бо чамусьці бэз
нагадвае пах восеньскае астры.

Я буду помніць да апошніх зорак,
якія згаснуць на канцы жыцця,
няхітры сэнс ажыўленых гаворак,
што цешылі, як цешыць спеў дзіцця.

Хвалююць зоркі тайнамі спрадвеку,
і быў заўжды вясёлым месяц май,
чаму ж так горка, быццам чалавеку
сказала вельмі блізкаму: «Бывай...»
*1985*

**СТАРЫ САД**

Ёсць сад стары за сіняй азярынай,
там па адным не ходзяць, толькі ўдвух,
там аблачыны сцелюцца пярынай,
калі туман, дык гэта з неба пух...

Чакаю адвячорка, каб хутчэй
між дрэў грывастых і раслін калючых
сустрэць святло зажураных вачэй,—
бы раптам лес расступіцца дрымучы.

Прыручаны, як дрэвамі шпакі,
даверлівы... з ім лёгка і трывожна,
бы матылька падносіць да шчакі —
так душна стане, прадыхнуць няможна.

Гуркі ў разоры. Корчык ля грады.
Край неба над шпакоўняй заімглёны...
А сад такі ўрачысты і зялёны,
што сэрцу ўжо не хочацца туды.
*1985*

* * *

Яшчэ ў вачах насіць жыцця святло
і мерацца з прыродай часта сілай,
а дрэва, што ў юнацтве пасадзіла,
ужо даўно мяне перарасло...

Жыве нязменнай ісцінай на свеце,
што калісь справай дум і рук было,
з зародка пераходзіць хутка ў квецень,
а дрэва долі нашай... адцвіло.
*1985*

* * *

Перажыла адліжны тыдзень,
як быў увесь — да драбязы...
Хто не прыйшоў — ужо не прыйдзе,
яму не згрозяць маразы.

Ільды ізноў бяруць у ковы
вады рачное акаём,
і хтось чужы і выпадковы
на мэце мой трымае дом.

А ў гэтым доме без астачы
усё аддадзена, як ёсць,—
мой горкі плён, мае няўдачы,
журба, пяшчота, весялосць...

Усё аддадзена дарэшты,
нязвыкла пуста стала ў ім,
і недаказанае нешта,
як лёгкі дым, як лёгкі дым...
*1985*

## ПТУШАЧКА

Бабіна дарога ад печы да парога.
*Прымаўка*

Патопчацца на досвітку ў двары,
свяцілу ўстаць з-за лесу дапаможа...
«Ты, сонейка, дзень добры сатвары»,—
ўздыхне яна дый сядзе на парожак.

І будзе доўга, ціхая, глядзець
у неба з яснатою галубінай,
і да сябе падцягне ночвы з глінай,
і стане над падатлівай карпець...

Нязвыкла пуста ў полі і ў гаях,
бяроза без лісця дрыжыць над склепам,
мінаюць дні, а цётачка ўсё лепіць:
«Хутчэй ляпіся, птушачка мая...»

Ужо напіўся ўволю луг дажджу,
акраўкі хмар з ляшчын здымае вецер...
— Што робіш, баба? — пасмяюцца дзеці.
— Ды на па рожку, мілыя, сяджу...

Збанкі і чыгункі тырчаць на плоце,
прыблудны цуцык трэцца каля ног,
ды знаў бы хто,— жыццё прайшло
ў палёце,
хоць і было ў ім — печка ды парог.
*1985*

* * *

Любі траву, і першы гром, і гай,
суніцу, што на промніку пячэцца,
а сэрца і трывогі ўсе аддай
радку, што пачуццем на нервах
тчэцца.

Сакратам будзь ці закаснелым снобам,
насі пячатку ўдачы на ілбе,—
задума застанецца толькі спробай,
калі ей цалкам не аддаць сябе.
*1985*

* * *

Не абядаюць, калі ўсё — цацанка.
Таксама я... Што даць табе магла?
Шчыруе ў днях гарэзлівых каханка,
а я табе каханаю была.

Няхай мне доля мужнасць выкладае,
жанчыне слёзы дадаюць гадоў...
Стаю на раздарожжы маладая,
а ў маладое — шмат заўжды шляхоў.

Пражытае на дне вачэй хаваю,
жыву з цяпельда даўняга святла...
Забытая! Няхай. Затое знаю,
што я табе каханаю была.
*1985*

* * *

Вясёлка пёркамі паўліна
над лёгкім марывам гарыць...
У яр страсае цвет каліна,
і, мне здаецца, без пары.

Прыроды веснавой выдвары
ці адцвітанню самы час,—
перад яе самотным тварам
яшчэ зажурымся не раз.

Рванецца птушка, як з палону,
увысь, і зноў замруць кусты,
і голас мой ляціць з адхону:
«Ў ласкавым дні пабудзь хоць ты!»

Ты — справядлівы, мудры, дужы,
хто і апраўдваў, і караў...
Вучыў: хай знаюць роднасць душы,
а сэрца сэрцу не аддаў!
*1985*

* * *

Век дзівакоў захопленых прайшоў...
Прадметнасць любіць час і мову рухаў.
А я хачу палону мноства слоў,—
слоў, як залева,
                                        слоў, як завіруха...

Не трэба адназначнага: «Маўчы...»
У немаце — губ не адчуюць губы.
Хай доўга ловіць чуйны слых начы:
— Каханая... Жаданая...
— Мой любы...
*1985*

* * *

Адшуміць і ясень мой, і клен...
Стылым ранкам не тужыце, далі,
што яшчэ нядаўна апякалі
палахлівай марай юных дзён.

А цяпер вы клічаце з прысад
пудкіх птушак у чужое лета
ад платоў, дзе мой жаўцее сад,
да садоў больш цёплай часткі свету.

Пах асенняй прэласці ў гаях,
клёкат пералётны над вадою...
Некалі з птушынай чарадою
адыду ў свой незваротны шлях.

Ды хачу я,
каб у тую сінь,
што цяпла не сцеле над травою,
з годнасцю правёў дарослы сын,
а найлепш — з сівою галавою...

Хустачку нацягваю на скронь,
стала раптам холадна і горка...
Ці не з той дарогі на далонь
кінуў вецер лёгенькае пёрка?
*1985*

* * *

Калі ў лясах зялёных птах пяе
у час начны, халодны і трывожны,
я знаю, ты прыходзіш ад Яе
і зноў са мною сумны, як астрожнік.

На ноч расстанне наша адцягну,
калі ж з усходу сонца адзавецца,
ты пасміхнешся зманліва акну,
бы Той, што прымушае біцца сэрца.

О гэта ўсмешка — горычы ганец,
напэўна, вельмі доўга я кахала,
што нават часу ўспомніць не ставала
усб на свеце мае свой канец...
*1985*

* * *

Ледзь толькі промень жвавы
гляну ў
на дах гасцініды іржавы,
мы з'ехалі цішком з Варшавы
ў адчайна бэзавы Віляну ў.

І повязь гронак тых павіслых
духмянай сыпала парошай,
нас прывячала ціха Вісла
санлівым шэптам: «Bardzo proszę».

Такім агнём палілі промні,
так бэз шумеў раскалыханы,
што весела было не помніць
тага, хто быў маім каханым.

Збягалі з юнага па горка,—
цішэлі словы нечакана,
алс пра што была гаворка,
дазвольце ведаць мне ды пану.

Ужо гады нашы прывялі,
а ў пору бэзавай парошы
працяглым рэхам «Bardzo proszę»
камусьці адгукнуцца хвалі...
*1985*

* * *

На жаль, Амур мяне трывожыць зноў.
*Ф. Петрарка*

Пад шум ракі, пад шолахі бярозы,
пад веснавую шчырасць жаўрука
ў маіх радках ты прачытаеш слёзы,
ад іх не ўздрыгне ўпартая рука.

Усюды ты...
і хай даруе творца
прыроды пышнай, сёння не яна
захопленасць мая, мой дол і сонца,
неперажыты дзень і даўніна.

Куды мне бегчы?
На тваім аблiччы
былога жару цень лаўлю яшчэ,
ты не пярэч, мне зноў здаецца, клічаш
і позіркам сваім мяне пячэш.

Я потым знікну, як і ўсё жывое,
адлегласць без сустрэч —
яна што смерць...
Але скажы мне слова дарагое,
жаданае,— як доўга мне гарэць?

І любавацца кожнай тваей рыскай,
і невядома ўжо каго маліць...
Ты чуў? —
Амур смяяўся недзе блізка,
маўчы... маўчы...
Яго страла ляціць.

*1985*

## ЗІМОВЫ ВЕЧАР

Дзіця маё, з галіны не змахні
пушысты снег,—
ён горад упрыгожыў...
Санлівых вуліц рыцары-агні
мігцяць,
бы пішуць казкі для прахожых.

Пабольшалі і дрэвы, і кіёск
у бляску электрычнае вясёлкі,
калматых аблачын касмічны воск
на небе адлівае цень ад ёлкі...

Захопіць пераплецены віток,
пакінуты канькамі віртуоза,
да ночы не ўгамоніцца каток —
узлёты і падзенні,
смех і слёзы...

А ветру мімалётнага парыў
так лёгка над сумётамі шугае,
бы першы раз са мной загаварыў
той,
з кім сустрэч сама цяпер шукаю.
*1985*

## ДАЎНЯЯ МЕЛОДЫЯ

Жаліцца скрыпка зусім як калісьці,
навошта было называць дарагім?..
Шэпча арэшніку тонкае лісце
пра тайнае нешта... у леце другім.

Выблісне ўся ў незабудках лагчына,
і бераг агучыць усплескам рака,
гляджу на акно, там смяецца жанчына,
бы на карціне Селешчука.

Узнесены к небу будынак на кручы,
жаласна-жаласна скрыпка гучыць...
Хай плача, бо, можа, жанчыну навучыць,
як тут небяспечна смяяцца ўначы.
*1985*

* * *

У дваццаць нуль-нуль на развілцы...
І крокі я чую здалёк.
Заблытаўся ў сонечнай грыўцы
пакутнай вясны матылек.

Ён верны сямейнаму дому,
ён ходзіць з дачкою ў музей,
але не раскажа нікому
пра ўздых, што ірвецца з грудзей.

Пра мой сарафан адмысловы,
пра сціпленькі белы букет,
пра самыя тайныя словы,
з якіх пачынаецца свет.
*1985*

* * *

Ізноў вяртацца ў сталасць з маладосці,
нядоўгаю была цяпер яна.
Здаецца, лісце начыняе злосцю
сцюдзеная і позняя вясна.

Не зразумеюць і асудзяць людзі,
прыму любое ў сэрца пакаранне,
але нішто на свеце не астудзіць
пунсовых шчок, запаленых каханнем.

У думках і ў пачуццях — куламеса,
замест болю — радасць б'е з грудзей,
такая дробязь: круг зары над лесам,
і... сэрца зноўку поўнае надзей.
*1985*

* * *

Як часта ў свеце, бы ў бязладнай хаце,
перад якою госцяю стаю,
бяссрэбранік гаворыць пра багацце,
а хцівы пра нішчымніцу сваю.

Пакрыўджаны глыбей хавае слёзы,
бяздушны — непрыязі пачуццё...
Няма фальшывых, што жывуць без
позы..
ёсць свет
і розны погляд на жыццё.

*1985*

* * *

Зачэпіцца сонца за снежную горку,
і хлыне ў даліну патокам вада...
Забуду апошнюю нашу гаворку,
а ўсё-такі... нечага трошкі шкада.

Ніколі не выспее яблык дачасна,
за радасцю часта прыходзіць нуда,
сказаць не магу, каб была я няшчаснай,
ды ўсё-такі... нечага трошкі шкада.

Бывае, заўважу ў аконным праёме,
пытаюцца, хто ты — такая бяда! —
спакойна адказваю — проста знаёмы,
і ўсё-такі... нечага трошкі шкада.
*1985*

* * *

Гэтай начы неспакойнае назва —
спрэчка разгневаных дзвюх навальніц,
тайны жанчыны другой — не расказвай, 4
цесна ў душы ад сваіх таямніц. І

Грымнула громам густым з бліскавіцай
хмара адчаем падстрэленых фраз,
дзіўны, ці ж трэба душы таямніца
тая, што лішняю будзе якраз.
*1985*

## ВЕРШЫ
## БЕЗ АПОШНЯГА РАДКА

*Маім чытачам*

Шукайце сцежку па карчах,
калі прыйшла пара паводцы...
Шануйце шчырасць у вачах,
душы адкрытае ў гаворцы.
Не адчужайцеся па тым,
хто колькі вам пакінуў болю,
і не спяшайцеся на волю,
калі былое — горкі дым...

1

Цяпер сачы... ў сяброў маіх
распытвай.
Здавалася,—
лес назаўжды адсек
твой позірк у гады мае, як брытвай,
і знікла я...
і думала — навек! —

У той зіме сумётнай і шумлівай,
нібы жанчына, што сказала:
«Мой!»,
спытайся, ці была пасля шчаслівай,
я адкажу: той самаю зімой.

Знаходзіць шчасце ў сытай асалодзе
здаволены, о, ён не мой герой...
Душа заўжды малілася прыродзе
душы, што носіць спадзяванняў рой.

Хай спадзяецца варты спадзявання.
Хай тужыць, каму дадзена тужыць.
Я страчвала зімою той каханне,
на справе —
толькі пачынала жыць...

2

Фантазіі ў жыцці няма мяжы,
любы мастак тады б мне пазайздросціў...

З насмешак,
з непрытульнасці,
з ілжы —
надоўга трапіць да адчаю ў госці.

Я потым зразумела: не адчай!
Звінелі нечым даўнім сцены ўпотай,
і раненька будзіла адзінота,
спярша яна...
пасля птушыны грай.

Ёй многім абавязана цяпер,
пакінуўшы яе шкляныя дзверы,—
да іх з жыцця таму вядзе знявер,
што ўмее адзінота ўзняць да веры.

Перш у сябе...
У здольнасць палюбіць
травінку,
дрэва,
постаць чалавека,
што цягне дзён немітуслівых ніць
з хмурынкай стомы на цяжкіх павеках.

У адзіноты нораў не круты,
яна для сэрца,
як для зерня глеба,
хоць ратавала ў скрусе частай неба,
жылося тым,
што мне пакінуў ты...

3
Пчала, пачуўшы сонца, размярэжыць
туманаў прыдарожную кайму,
хацела верыць голасу твайму,
як верыць у адлівы прыбярэжжы.

Слоў не было...
Ўсе гаварылі вочы,
не знаю, дзе канец майму жыццю,
ды знала:

немагчыма пачуццю
вярнуцца,
скуль пайшло яно аднойчы.

Схацелася б пустыні мець бярозу,
сказаў бы мудры мудрае:
«Дарма!» —
і дыктаваў штодня цвярозы розум:
туды не трэба,
дзе цябе няма.

Так перажыўшы лютую зіму,
з палёгкаю ўздыхнуць спрабуе вешчае:
не тое сонца,
што праменна свеціць,
а тое,
што цяпло дае ўсяму...

4

Дзень у жыццё ідзе з начы
і ў ноч ўпадае,
патроху ўсім раздаючы,
што выпадае.
Пяшчота — вам,
а вам — бяда,
а вам — дакука...
І дню нічога не шкада —
будзь смех, будзь мука.
Ноч звязвае два розных дні
сабой адною,
яна — праслойка цішыні
між мітуснёю.
Без дня яна — без дрэва цень;
рака — без броду...
І што вышэй за ўзнагароду —
з дня ў ноч, з начы ізноў у дзень?..

5

Раней было і зараз яно ёсць,
хоць часта пагражае развітаннем...
Нас маладосць адорвае каханнем,

каханне нас вяртае ў маладосць.

Будзь юным ці зняможаным старцом,
тады адкрыеш тайну захаплення,
калі сябе адчуеш пад вянцом,
падоранага вечнасцю натхнення.

А без яго дзень поўны пустаты.
Пайшоў... з вянцом,
                                    бы пад аховай ззяння,
і ля чыіх калень яго здымаеш ты
пасля майго адданага кахання.

Цяпер знайшла прытулак ноч у сценах,
дзе мне чакаць тваёй павечна ласкі,
бо, можа быць, жыцце ўсе наша сцэна,
і толькі смерць здымае з твараў маскі.

А голас ветру,
                          дзікі і хрыпаты,
нібы шумеў з далёкіх мне вякоў:
знаходзіць той,
                          хто знаў няволю страты,
хто знаў каханне,—
                          пакахае зноў...

6
Уся яна як дзьмухавец,
далёкая ад засмучэння,
і дрэў зялёная павець
яе азорана свячэннем.

Разгублена ўздыхаю я
(старонні скажа: «Ах... дзівачка!»),
хай бы была яна — жняя,
настаўніца ці, скажам, швачка.

Змагла б і палюбіць яе,
бо жнеек шлях усім вядомы,
як рэдка хтосьці з іх пяе,—
часцей зажураны ад стомы.

А швачка...
                Шво бяжыць з-пад рук,
і твар яе мне быў бы мілы,—
хай паспрабуе хто без мук
укласці ў працу час і сілы.

Настаўніца...
                            Паспачуваць
ей можна ў нашым спрэчным свеце,
яе змагла б я апяваць,
бо знаю,
                што такое дзеці.

А тут...
                Хоць узнясі, хоць плюнь,
бы й невядома ей кручына,
з табой ідзе адно Жанчына,
ды... з наравістасцю красунь.

7
Навошта...
                навошта...
                                        навошта?!
Гавораць жа, свет — з дабрыні.
Не хоча прыслухацца пошта,
што сталі пакутнымі дні.

Мінае мой дом лістаноша,
хвіліны плывуць, як вякі,
і сніцца мне доўга пароша,
вяртайцеся ў вырай, шпакі!..

Азвецца зялёная засень,
увяжа свой шолах у сны,—
то ў нейкім нявызнаным часе
ты шэпчаш мне казкі вясны.

У месяцы збегліся ночы,
а сны — у чародку гадоў,
дзе сінія-сінія вочы
смяюцца з маіх халадоў.

8
Багаты ўзор на лядзе выстрач
ці поўню з ліхтаром стачы,
было адно: мароз і Свіслач,
пакойчык быў,
бы ўсмех начы.

Нібыта твар дрымотны нечы
сачыў з-пад навесі галін,
а ўжо хацелі ласкі плечы
пад мяккай сховаю тканін.

Яшчэ далёкія ад здрады
ішлі, як на святло крыніц,
свае ўліваючы пагляды
у таямніцу з таямніц...

Не знаць снягам,
як сэрца б'ецца,
дрэў не ўстрывожваць маладых,
хай у нашчадках адзавецца
дакорам той гарачы ўздых,

калі, як мары, свечкі тухлі
і ўздрыгваў зоркі паплавок,
нага шукала доўга туфлік,
бы сярод багны астравок.

9
Не збылося. Тая ноч забыта.
Ты не помніш. Дзе яе святло?!
Фортка ці душа мая адкрыта
ўсім дажджам, што стукаюцца ў шкло.

«Мілы!» — не скажу табе ніколі.
«Родны!» — навучуся забываць.
Многа кветак у айчынным полі,—
не спяшайся поле рабаваць...

Думала, гляджу замілавана,
вочы — два вугольчыкі ўначы,

страшна прачынацца некаханай
на душой прыдуманым плячы.

Акіян далёкі буркатлівы,
блізкая, разгублена шапчу,—
бедным будзь, але заўжды шчаслівым
бачыць цябе звоццаля хачу...

10
Спатыкнуцца, пахіснуцца, ды не ўпасці.
Будзень скрозь, а свята ходзіць госцем.
Свет сярдзіты рэдка песціць шчасцем,
а знябыты ў ім не бачыць злосці.

Кожны міг расстаўлены да кропкі,
сёння, як і заўтра, як заўжды…
Спраўны майстар Час такі таропкі! —
і ляцяць, ляцяць мае гады.

Поўня, як астылая фаерка,
вечар летні, вечаровы сум,
і не трэба раіцца з люстэркам,
а шчацэ гарэць ад скрытных дум.

З зайздрасці не зойдзецца зайздросны
з тых, што бачаць ноч, як кажаны...
Свет, бы тайна, гэтым і дзівосны,—
што ў ім праўда?.. Што сіло маны?..

Летні сон і душны, і дрыготкі,
бы дыміцца блізенька абрыў...
Сню цябе. Спаткання час кароткі.
А жыцце пытае ўжо: «Ці быў?»

11

Теперь, когда мне звезды ближе.
*Аляксандр Блок*

Шумяць дажджы... а ліпень з ружай прыйдзе.
Кап-кап з лістка, бы снежка растае.
Дачка шчэ не глядзела ў вочы крыўдзе,
смяшліва мые боцікі свае.

Ёй даспадобы сцежак раздарожжа,
каменьчыкаў памытых лёгкі хруст.
Дачушка, мы працягнем падарожжа,
то проста хустка чэпіцца за куст...

То проста дожджык падае напеўна
на тратуар, дзе стыла шкло ільдзін.
Прахожы азіраецца няпэўна,
а сэрца мае б'ецца: «Не глядзі!..»

Ты! — а вочы шчэ не вераць —
праўда ці гульня ілжы?
Ты! — рыпяць паблізу дзверы.
Ты! — з галін ляцяць стрыжы...
Ты! — забілі кроплі гулка.
Той жа голас... крок... я шчэ...
Ты! — і стала цеснай вулка.
Хустка падае з плячэй...
Ты! — глядзіць дачка здзіўлёна.
Як шчыток яе ўзніму...
Дожджык цёплы, дол зялёны...
Ты! — навошта мне ў зіму?

12
Зіма... зіма... з паводкай адыходзіш.
З лістком апалым надыходзіш зноў...
Ты квецені ніколі не народзіш,
і ўсё ж люблю абшар тваіх снягоў.

Твой ледзяшок, прымерзлы да карніза,
як дар у лёс з багатае казны,
і першы твой капеж, нібыта віза,
у подых немінучае вясны.

Люблю тваё сцюдзёнае дыханне,
яно пры стратах самы лепшы фон...
...Як нецярпліва звоніць тэлефон! —
Ў радок апошні просіцца —
КАХАННЕ.
*1985*

## ВЕРА

Прычароўваў словам і пяшчотай,
з творчае выкрадваў цішьгаі,
а пасля назваў усе дурнотай
і застаўся ў прамінулым дні.

Дзен шчаслівых многа тоіць будзень
цешыў сэрца просценькі матыў...
Ах, яно ізноўку верыць: будзе
гэткі дзень,
забыўшыся, што быў.
*1985*

* * *

Сумна між сухіх кустоў карынкі
помніць лета ягаднага пах.
Горыччу апаленай скарынкі
разлілася ўсмешка па губах.

Смех аддам за кветку іпамею,
звабліва сць — за пышныя лугі...
Як жа сэрца сумаваць умее
голасам пяшчоты і тугі.

Палыхне трывожна сінь кітайкі,
жар з плячэй саб'е халодны шоўк...
Гэй, мастак на трапяткія байкі,
што ж ты рана ў прошласць адышоў?

Я сама прыгожа ўмею баяць,
слова дарагога не займаць,
мара адбалелая, што заяц,
шаснула ў аўсяны шум за гаць.

Байкаю апошняю хваліся,
слоў не знойдзеш,— я дапамагу! —
любай сёння ў ногі пакланіся
за маю салодкую тугу.
*1985*

* * *

О, я не ў сон глухі закута,
сумота сэрца не скрабе,
было турмою і атрутай
усё, дзе не было цябе.

Апошні снег...
                                        Ён, як збавенне
ад спраў, што марнымі былі.
Ты мне вярнуў ізноў натхненне,
бязмежнасць неба і зямлі.

Як многа стала летуценняў,
бы ўночы зорак залатых,
і як чароўны міг цвіцення,
мне сінява вачэй тваіх.

Капрыз свавольнае прыроды
ці дня настылага адчай? —
Чуць не хачу, з якой нагоды
гукнуў ледзь чутна: «Прывячай...

Ёсць тлум жыццёвай крутаверці,
ёсць ачышчальнае святло,
і не закрэсліць нават смерці
таго, што радасцю было.

Так хораша ўсяму здзіўляцца,
бы рэчка ў пустку зацякла,
а пацеркі ў халодных пальцах
усё дрыжаць, нібы са шкла...
*1985*

## РАБІНАВАЯ ГРОНКА

Рабіна гронкай распаліла
світанак там, дзе лес радзее,
я сёння зноўку паўтарыла
урок няспраўджанай надзеі.

Ты не адзін, а я зірнула
так, як глядзяць на закаханых,
нібыта ўпершыню адчула
ласкавасць рук, навек адданых.

Паўночны вецер быў лагодны,
і турбавала толькі тое,
што мой світэрак старамодны
залішне змрочным быў са строяў.

Шчаслівы міг чакаць кагосьці,
хацела засмяяцца звонка,
а ты не ўспомніў маладосці...
Бывай, рабінавая гронка!
*1985*

* * *

Нічагусенькі не зменіцца...
Глеба будзе адтаваць.
Будзе месячык над Сенніцай
шклінкай зыркаю ўставаць.

Не віхор з-за небакраю
грозна голас падае,
то з мяне мяне вымаюць
вочы чорныя твае.

Гаварыла: «Не пільную...
А забудзеш — не бяда...»
Думала, цябе шкадую,
выйшла, што сябе шкада.
*1985*

## МАЗУРКА

Адкуль тут мазурка Шапэна?
Галіны да шклін падплылі.
Я вам абяцаю напэўна
вярнуцца сюды хоць калі...

У кожным садку Беларусі
сягоння пазсмка ў гасцях,
раскладваць гады не бяруся,
ды ў нейкім — шчаслівы працяг

начы, дзе блукае Снягурка...
Я думала, гукі з-пад ліп,
а гэта дыхнула мазурка,—
то смех,
              то шаптанне,
                                  то ўсхліп...

Як дзіўна жадаць летуценна
таго, што яшчэ не прайшло,
я знікну надоўга, а ў сценах
запыніцца сэрца цяпло...

Апрануты ў белыя буркі
ўсе дрэвы, і кружыцца снег,
падхоплены шалам мазуркі,—
то ўсхліп,
              то шаптанне,
                                  то смех...

*1985*

* * *

Дзіўлюся, нібы рэдкай навіне,
зноў голас твой
ці ветру свіст за схілам:
«Хачу, каб ты журылася па мне
і белы свет заўсёды быў нямілым».

Нямілым свет? —
і лотаці, і дрэў,
дзе ўсе цвіло, то раптам адцвітала,
бо я цябе яшчэ тады кахала,
калі пра гэта думаць ты не смеў.

Танюткай вольхі выгінасты ствол
гайдаецца, бы сто ражкоў зайграла...
Толькі тады і бачна хараство,
калі душа адценні ўсе ўвабрала.
*1985*

**ПРЫСВЯЧЭННЕ**

Злагада — яна не рамяство,
з полюсам не сутыкнецца полюс...
Дык з чаго б такое хараство:
з Вашых рук — бялюткі гладыслус?

Знак увагі — не пчала з рая,
што неасцярожных можа ўджаліць,
ды душа падказвае мая:
будзе зараз многа ў сэрцы жалю.

А на ўсходзе зараснік карынкі
выплеўся ў агністую кайму,
нібы ў стружкі кінулі жарынкі
і тушыць агню няма каму.

## АД ІМЯ АДЗІНОКАЙ

Даруйце, я вельмі занята.
Не трэба пра летнюю сінь.
Няўмелае ціхае: «Тата»,—
сказаў памылкова мой сын.

Прабачце, што ён вінавата
у плачы крывіў свой раток,
што потым за гэтае «тата»
паставіла сына ў куток.

Мне горача. Вешайце трубку,
я знаю дакладна з ліста:
ляснічы аддаў пад парубку
наш гай ля старога маета.

Бывайце, зрабіце нам ласку
і больш не званіце да нас,
я зараз цудоўную казку
даказваю сыну пра Вас.
*1986*

## ПОЗНЯЯ ВОСЕНЬ

Які пейзаж... як страшна восень плача.
Хоць шчодры, хоць бязбожны эгаіст
у днях сырых нічога не зьначаць,—
апошнім прывітаннем б'ецца ліст...

А мне дык добра праз выццё і стогны
ісці ў імжаку — свету не відно...
Мігцяць слатой захуканыя вокны,
як кадры шматсерыйнага кіно.

Сцяну дажджу і ветру завыванне
наматвае на мокры ствол імгла,
і столькі ў голлі стылым шкадавання...
Я гэта ўсе раней перажыла.

* * *

Вазьмі і зразумей, дзе шчырасць,
а дзе прывычнае ныцце:
абкрадзены — пяе пра вырай,
пра боль — аблашчаны жыццём.

І ты, каму я ўслед глядзела,
як Богу...
                    Дыхаць не магла.
Заняўся мітуснёй здрабнелай
з пыхлівым выглядам арла...
*1986*

## ЗА ДЗЕНЬ ДА СНЕЖНЯ

Ужо на тры замкі закрыўся жмінда
і недзе перад ложкам ловіць моль,
а па садах згалелых ходзіць крыўда,
я чую — дрэвы скардзяцца на золь.

Слата, слата… а ў позірку чаканне,
бы феерверкам выбухне зіма…
Прымроіцца, як ясны дзень, каханне,
цьфу на яго! Яно заўжды чума.

Гартае свет турбот будзённых кнігу,
нямала ў ей старонак для мяне,
і круціць лбе, нібы разводдзе крыгу,
не сплю… Чакаю сонейка ў акне.

**АДНОЙЧЫ Ў ДАВЫД-ГАРАДКУ**

Рассцеле жнівень на дарогах стынь,
загусне ноч пад пылам далягляду,
пад ногі пенай кінецца Гарынь,
дзе над вярбой кудлатаю прысяду...

Цень ад яе па хвалі прабяжыць,
нібы таропкі коннік з доўгай дзідай,
і ўявіцца за рэчкай на мяжы
ледзь бачны прывід грознага Давыда.

І там, дзе ў змроку знічка растае,
палёўка след заблытае да норкі...
Ўздыхне Давыд: «Хто смеў рассыпаць
Зоркі?» -
а я згадаю позіркі твае.

* * *

Не адцвітала доўга бульба ў полі,
хоць на шякоту шчодрым жнівень
быў,
ты абяцаў не забываць ніколі
спаткакняў нашых,
дык чаму ж забыў?

Парушу сон палянкі недалёкай,
і заварожыць пошапак ляшчын,
сябе я адчувала б адзінокай,
каб не было ні дрэў, ні аблачын...

Не хоча сэрца прымірыцца з жалем,
ды ўсё гусцей паўзмрок сырога дня,
нібыта ўчора на лясным прагале
згубіла казку лета ласяня...
*1986*

* * *

Пры горкіх днях усе добразычліўцы.
Калі ж удача?.. Колькі вас, сябры?
Змяркаецца, а ў шклянцы чарнабрыўцы,
як россып промняў з далані зары.

Настрой мой адпаведны інтэр'еру,
а на тваім абліччы жалю цень...
Прыйшоў. Глядзіш вачамі недаверу,
нібы ў суседа ўкрала гэты дзень.

Да цемрадзі — ахвочая макрыца,
а сэрцам шчырых любіць адзінота...
У кутку таршэр, як прывід Дон-Кіхота,
і ен адзіны сёння ў доме рыцар.
*1986*

* * *

У сэрцы затрымцеў няясны гук
мелодыі, душой неразгаданай,
ды не звяду ў абдымку верных рук,
не ўмею быць назойліва-адданай.
Заўжды ёсць боязь паглядзець здаля
на ўсё, што ёсць у свеце нашым цесным;
туман з вачэй сыходзіць спакваля,—
мелодыя... шкада, яшчэ не песня.

*1986*

## ЗАЗІМАК

Ну як табе пад інеем, вяргіня,
ты нібы радасць позняга кахання,
а вось жа кажа: святамі пакіне,
бы абяцае раніцы змяркanne.

Ды ўжо было: не раз мяне кідалі,
прывязваючы да надзеі юркай,
адны, што караблі, з вачэй знікалі,
другія — нібы мышы ў сваіх норках...

Як заўтра быць?
Не трапячы, вяргіня,
яшчэ растопіць іней твой заранка...
Падумаць толькі — святамі пакіне!
Стаіць жа вунь і без бусла буслянка.
*1986*

## ПАСТУКАЙСЯ Ў АКНО МАЁ ГАЛІНАЙ

*Памяці Алы Кабаковіч*

1
Каму з'яўляцца, а каму старэць.
Што сеецца, няхай расце са спорам...
У свеце шчасця можна не займець,
затое ўім адчайнай скрухі мора.

Наш побыт звёў нішчымную куццю,
няма патрэбы ў казачных жаронцах,
часцей за роскаш дзякуем жыццю,
а трэба яму дзякаваць за сонца.

За ласку непакошанай травы,
дзе ў росах мые крылцы чмель
бухматы...
Жадаю дня наступнага жывым
з адным багаццем —
сонца ў вашу хату.

2
Пад сонцам легка шчодрым
і скупым,
пад ім жыве і радасць,
і трывога,
а свет стаіць спрадвеку на адным:
пазнай у бліжнім друга дарагога.

Ўсе вырастае з ісцін прапісных,
як з-пад страхі трывушчых дрэў —
падлесак,
чым больш лясных праталін у вясны,
тым больш у лесе веснавым пралесак.
Раслін бясплодных хілыя камлі
рассунуць прад калоссем свае краты,
і чым мацней буянне на зямлі,
тым адчувальней горыч кожнай страты...

3
Старэнькі свет...

Але не стаць адчаю
музейнаю старызнаю пад шклом,
шчэ снепрка прывыкла прывячаю,
а ўжо трашчыць на рэчках крыгалом.
І там, дзе зімавалі трыснягі,
вярба галінкай крыгу надламала,
мароз на шапкі разабраў снягі...
Вясна прыйшла другім дыханнем, Ала.

4
Далёкі ад турбот зямных Харон,
а Сцікс не зазвініць лясной крыніцай...
Як рана ты спасцігла таямніцу,
што ад жывых хавае повязь дзён.

Жаданых дзен,
прастрочаных святлом
пад купалам дрыготкае сінечы,
дзе слова развітання ў нас было,
яно пачатак сцежкі да сустрэчы...

Не твар да твару, не рука ў руку,
што да чаго —
пакуль мне невядома,
як павадак вяртаецца ў раку,
прыходзіш сном у сцены майго дома...

5
Ты сном прыйшла,
прарваўшы небыццё.
Што там?.. Што там?..—
пакутуе пытанне,
ты на яго адказваеш маўчаннем,
вяртаючы свой вобраз у жыццё.

Вымерваем працягласцю гадоў
жыццё, не беручы ў разлік хвіліны...
Пастукайся ў акно мае галінай,
сцяжэлаю пад завяззю пладоў.

Багаты на цяплю зямны абсяг...

Паўторыцца ў жывым з нас кожны генам...
Ты адышла...
Прыйдзі ж пад сонца ценем,
жыві ўспамінам там, дзе твой працяг...

6
Вясну пачула ў шчытных нетрах мыш,
лягчэй пад талай наледдзю пагорку...
Ты рэхам непрыкаяным ляціш
на самую аддаленую зорку.

Яна ўзышла, яна ужо гарыць...
Праменне ліць і ўлетку ей, і ўвосень,
мігцець штоноч надзеяй угары,
каб дадалося там, дзе аднялося...

Каб нехта з тых,
што шлях свой не прайшлі,
асвечаны яе святлом высокім,
зірнуў увысь і пагукаў з зямлі:
«Ты есць...
Ты свеціш...
Я — не адзінокі».

7
Зямля мая — калінавы куток,
дзе смаляком распаліць мама грубку,
дзе да гасцей памыецца каток,
а госць — не ў хату,
госцяю — галубка...
Крылом бялюткім мільгане між дрэў
і на любімым самым забуркоча,
як быццам плач ці ласкі ціхай спеў
звязаць яна з маей душою хоча...
І ў думках зноў паўторыцца усё:
палескія паляны з пахкіх кветак,
і татава самлелае кассе,
і матчын добра ўроблены палетак...
І салаўіны бэзавы дурман,
зямля мая, усе, што саграваля,
і радасць, і натхненне, хай... падман,—

што ўзносіла і смуткам адгарала...
Што інеем, што сонейкам цвіло,
ўсе спадзяванні, пошук і знаходкі,
і горыч, і надзейнае цяпло,
і халадок абуджанай паводкі...
Зямля мая — рабінавы спакой,
лаўлю ў нябесах цень галубкі шчырай.
Куды ж яна?
                    Ўсе птушкі чарадой...
Усе дамоў...
                    Навошта ж ей у вырай?

*1986*

* * *

Выбліснуў дзень,— якпрыроды адвольнасць,
з яснага неба на пашу зялёную гром...
Упершыню адчуваю бяздомнасць,
маючы светлы памерамі дом.

Трэба куточак маленькі — не пута,
з радасцю трэба, дзе ў лішніх трывога...
Зараз сустрэць бы таго баламута,
што даць мог усе,
ды не даў мне нічога.

*1986*

* * *

Прыйдзі, прыйдзі...
Я вольная ад спраў.
Спявае ноч, і больш такой не будзе.
Сляды тваe прыкрыюць пікі траў,
а ў доме — спяць натомленыя людзі.
Што нам да іх,
                    а ім тым больш —
                                        да нас?
Я — добрая суседка,
ты — прахожы,
я ложак свой лілеямі ўпрыгожу,—
прыйдзі! —
Сплывае ў прорву ночы час.
Шукаюць рукі ласкі блізкіх рук,
якую ж радасць дзень пры дні насіла,
што ад тваіх,—
                    усё даўжэй,—
                                        разлук
гатова месяц здзьмухнуць з небасхілу.
Каб стала цёмна, хоць ідзі наўгад
і бойся напароць на нешта вока,
каб ты заплакаў горка між прысад,
успомніўшы, як зараз я далёка.

Прыйдзі й тады... Я пасвячу агнём,
святлом вачэй, і людзі мне... прабачаць,-
прачніцеся, пачуйце, як ён плача,
дапамажыце адшукаць мой дом.
*1986*

* * *

Ты, магчыма, словы пераблытаў
і сказаў балючыя таму,
што спатканне першае забыта,—
прывіталі снепры зіму.

На дварэ даўно пахаладнела,
можа, табе ў сэрца удыхнуў
яры снежань свіст кудасы белай,
каб ты ціхай ласкі не пачуў.

Наша лета доўга адцвітала,
аж пакуль зусім не адцвіло...
Снег ляжыць на вуліцах квартала,
сыдзе ён, І... вернецца цяпло.

У душы народзіцца здзіўленне,
ну няўжо — адлёгея снегапад?..
Дай пабыць тваім крылатым ценем,
словы тыя забяры назад.
*1986*

* * *

Папялушка! — ўздрыгваюць кусты.
Мілая! — бы шкельца заіскрыцца...
Словы, як з мінулага лісты,
Папялушцы ўжо даўно за трыццаць.

Быццам бы праз дымчастае шкло,
гоняць скоры ў адвячорак рэйкі,
хоць яшчэ прасейваюць святло
ўспуджаныя пацалункам вейкі.

Словамі не пэндзлем маляваць,
тут свае адценні, свае гамы...
І цікава мне, як будзеш зваць,
калі прыйдзе ўзрост віновай дамы.
*1986*

* * *

Імклівы лыжнік сцежку перабег,
дзе прыгарад лыжня злучае з гаем...
Ідзе такі ціхуткі лсгкі снег,
нібы прырода зараз пазяхае.

Хоць ведаю — не з'явіцца сюды,
хто ўчора абяцаў паўсвету ўсмешкай,
баюся, што засыпле снег сляды
і хутка стане чыстым полем сцежка.

Не звязваюць ні клопаты, ні дах.
Нас міг звязаў...
                    І трэба быць дурніцай,
каб несці столькі шчасця на губах,
што можна сбння ў бедах усумніцца.

Не ўсе ў гадах праяснена і гладка,
ды марным быў бы тыдняў карагод,
каб для мяне было цяпер загадкай
імгненне, што сказала больш, чым год.

Загадкай застаецца рух планет,
загадка — з прамінулага паданне...
Я слаўлю міг і знаю, што паэт
той, хто ў радок мой удыхнуў дыханне.
*1986*

* * *

А ён ляціць, ляціць, як ашалелы,
той ліст, што ападае ў чуйным сне,
дзе ж позірк твой і ясны, і нясмелы,
што сніўся так нядаўна яшчэ мне.

Магчыма, толькі юная цнатліўка
жыве ў ружовым мроіве святла,
а потым і святло з адных урыўкаў,—
я знаю, бо ўлюбёнаю была...
*1986*

* * *

Мільёны дзён мяне кахаў,
мільёны дзен ішоў з нябыту,
з'явіўся ўрэшце і сказаў:
«Як дзіўна, мною ты забыта».

Пачнуць на горцы наракаць
на ўрокі юныя мінчане,
што ж, я змагла б ім выкладаць
прадмет пад назваю «маўчанне».

Маўчу... Ні клопатаў, ні спраў,
прайшоў праз сэрца, выйдзе ў дзверы
той, хто мільёны дзён кахаў
і... ў гэта сам не змог паверыць.
*1986*

## ДЗВЕ ГАДЗІНЫ НАВАГОДНЯЙ НОЧЫ

Не д'яблік з чараўнічай табакеркі,
а вечар шчодры ўсім раздаў дары...
Дзяўчынкам — лялькі,
хлопчыкам — цукеркі,
а мне — твая пяшчота да зары.

Сукенак жар, усмешкі, як пагоня...
Сярод знаёмых твараў ты адзін,
хто расказаў маёй душы сягоння
ўсю радасць святу дадзеных гадзін.

Магу смяяцца, лёгенька кружыцца
пад позіркам, што ўзнёс мяне да зор...
Ці поўні бляск, ці цацка заіскрыцца,
ў паглядзе — пал,
адчайнасць
і дакор...

«Люблю цябе...» — выводжу на
сурвэтках,
люблю цяпер... Хацелася б — заўжды.
І твар хаваю ў папяровых кветках,
і чую пах духмянай рэзеды.
*1986*

## УСПАМІН

О як з пяшчотаю знявер
змагаўся мужна,
пялёсткі ціха за каўнер
зляталі дружна.

Нібы над кропелькай віна,
пчала кружыла...
І згадка даўняя адна
да слез смяшыла.

Крысо намоклае плашча,
і плюшч на вежы,
і дотык Вашага пляча
мяне бянтэжыў.

Плот захінаў густы бружмель,
і над верандай
цяжкою сеткай віўся хмель,
звісаў прляндай.

У знерухомелай красе
драмала вецце
і патанала пакрысе
ў гарачым шэпце...
*1986*

* * *

Пераплятуцца гукі «дж» і «дз»
дзівоснай нашай мовы ў песнях лета,
і страказе свавольнай на вадзе
так схочацца ў адной з іх быць апетай.

Заўваж, дрыжыць рука ў тваёй руцэ,
цень ад вярбы на цёплым парапеце,—
і ў гэтых сказах лёгенькія «ц»,
нібы званочкі ў нашым першым леце.

А ты маўчыш, хто ж навучыць пасмеў
цябе, што мова наша без дыхання,
што, як глухі, застраглы ў горле спеў,
яна даўно на грані вымірання.

О, калі б гэтак... Як дазнаўся б ты,
што тут, дзе пчолы водзяць карагоды,
між гэтай пракаветнай пекнаты
хачу твой голас вабны чуць заўсёды.
*1989*

**ПРЫЗНАННЕ**

Сіла мыслення знаходзіцца па-за целам.
*Геракліт*

Ці была ўжо былінкай гнуткай?..
З грузам у сорак гадоў жыву,
і хто ж гэта знае цяпер, як хутка
згусткам памяці адплыву.

Нам не дадзена знаць, што будзе,
знаем тое, што ўжо было,
і таму, як сляпыя — людзі
бягуць ад святла і шукаюць святло.

І, можа, аднойчы ў нечым нязнаным
(ні аблачынка, ні лёгкі дым)
адным уздыхам шапну: каханы,
ты і тут застаўся каханым маім...

* * *

...І вось сустрэча з колішнім кумірам.
Нязвыкла ціха. Горад наш заснуў.
Натхненне спудзіў? Д'ябал з ею, з Лірай,
мы й без яе прыдумаем вясну.

Не трэба нам палянкі між ствалоў,
дзе мілым птаствам кожны куст апеты.
Я зараз сярод крэслаў і сталоў
не гаспадыня — лёгкі цень Джульеты.

Хай потым муж пытаецца, хто быў,
хай голас будзе раздражнена рэзкім,
мне дастаткова ведаць, што тут цвіў
дурман вясновы ранняе пралескі.

А ты глядзіш, нібыта ўзяўшы оптам
калісьці ўсе, чым дыхаю адважна...
Здароўе жонкі? Гэта вельмі важна,
але, паслухай, ну хіба я доктар?!

І разумею — сэрца слоў не чуе...
А цемра ўсё, заклікаўшы да сну,
так асцярожна, ціхенька тушуе
вясну маю і горад, што заснуў.
*1987*

* * *

Яшчэ зязюлі голас адзавецца...
Не веру ў гэта цвёрдае «ку-ку».
Нібы даўно чужое сэрца б'ецца,
аловак больш не радуе руку.

Я ўсім патрошкі ласкі адпісала,
была такой апутана гульнёй,
што самых важных слоўкаў не сказала
таму, хто быў, як добры дух, са мной.

Знаёмы лес застыў, бы ў паняверцы,
якія ж я надзеі берагу,
калі шукаю словы тыя ў сэрцы
і ўсе ніяк знайсці іх не магу?!
*1987*

* * *

Узмахне рукавом — лебедзі паплывуць.

*З казкі «Царэўна-жабка»*

Дом літаратара ў Маскве.
Ці добра Вам са мной?
Было тры птушкі ў рукаве,
а стала ні адной...

Адна з іх ластаўкай была,
зляцела ў слотны час,
а помню, песні мне вяла,
і ўсё пра Вас, пра Вас...

Другім быў чулы салавей,
ад смутку бараніў,
а сам згарэў у ліставей
на восеньскім агні.

Галубкай трэцяя была
і ў горкія гады,
мне пёрка скінуўшы з крыла,
памерла ад нуды.

Дом літаратара ў Маскве,
ну як жа Вам са мной?
Было тры птушкі ў рукаве,
ды стала ні адной...

*1987*

* * *

У час вясновых шумных вод
ручай шукае ручаіны,
а мы з табой як дзве краіны,
што варагуюць з году ў год.

З палёгкаю ўздыхнуць палі
і скінуць зноў увосень квецень,
што б ні мянялася на свеце,
душа журбой не адбаліць.

Бо не прыкрыешся маной,—
вітаемся, бы яд глытаем,
і самі, бедныя, не знаем,
той яд — ад прыкрасці адной.

І ўжо якое там цяпло!
Як кажуць, наш цягнік праехаў...
Ды, ўпартыя, мы дзелім рэха
таге, што песняй быць магло.
*1989*

* * *

Маладзіка халоднае свячэнне,
і асака між стоеных ляшчын,
і я знарок не стаўлю прысвячэнне,—
дзве літары, бы зоркі дзве ўначы.

Прывыклая здаўна да адзіноты,
я не ірвуся з-пад яе ахоў,
зглыну расу сцюдзёную з ахвоты,
не помнячы ніводнага з грахоў.

Дрыжыць над рэчкай вербалозу повесь,
ёй век над хваляй ціхаю звісаць,
пасля мяне напішацца аповесць,
якую я хацела напісаць.

Няма даўно ні вытрымкі, ні стылю,
ад аднаго, мой Божа, барані,—
я не баюся, што душой астыну,
не дай згарэць дачасна ў тым агні.

Бо на зямлі няма яшчэ прычыны,
з якой бы я без развітальных слоў,
з аблiччам ашуканае жанчыны
ляцела з кручы дзікай стрымгалоў.

А мне было б лягчэй без пакаяння,
між горкіх і прыцішаных ляшчын,
упасці, вырываючы з дыхання
дзве зоркі, што зайшлі за далячынь...
*1987*

## РАМАНТЫЧНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА ШУКАЕ ШЧАСЦЕ

Нарэшце і гара Алімп...
Ружовыя аблокі плылі надёй,
хаваліся ў нізінах,
узносіліся ў ясную сінечу.
Вялікасна глядзеліся прыступкі.
Тах-тах...— звінелі крокі ў вышыні,
і рантам —
лёг лёгкі цень на велічнасць уцёса.
Ён набліжаўся,—
і перад вачамі з'явілася жанчына.
— Хто ты?
— Я — Гера, багіня трывалае сям'і,
цяпла і зшды.
Тут я прад ёю ўкленчыла адразу.
— Ах, Гера! З праменным тварам
і руплівым сэрцам!
Хачу сям'і, хачу цяпла, пяшчоты...
Няхай заўжды пад дахам маёй хаты
пануюць шчырасць,
і спакой, і згода.
Яна мне пасміхнулася ласкава,
прамовіла лагодна і прыязна:
— Дзідя мае! Не бойся! Не турбуйся!
І згода, і спакой, і шчырасць прыйдзе
ў хату! —
Сказала так і знікла...
І музыка аднекуль загучала,
і несліся аблокі ў дзіўным танцы,
упартая,
ішла я да вяршыні.
Вось прыступку апошнюю мінула,
і сэрца птушанём затрапятала...
Цудоўны сад ляжаў
як на далоні.
І хваля недзе білася аб бераг.
А нехта невядомы струны кратаў,
і песня незямная там гучала,
а тут і голас...

Ён пачуўся побач.
— Ты хто? — азвалася я на яго ціхутка.
— Я — Афрадзіта, багіня смеху, ласкі
і кахання.
Тут прыгажуня, нібы з казкі,
з'явілася...
Ах, каб вы бачылі яе дзівосны твар!
Укленчыла я ўміг і перад ёю:
— Ах, Афрадзіта, дзеля прыгажосці!
Дай мне каханне.
— Я не даю! Яно само прыходзіць,—
самотна так яна мне адказала.
— Дык не ідзе!
— Шукай, яго знаходзяць.
— Знайшла, ды не кахае...
Тады яна мне яблык паказала.
— Бяры і спакушай. У ім — спакуса.
Руку сваю я толькі працягнула,
але той яблык так і не ўхапіла.
Уніз са звонам, з громам пакаціўся...
Тады я і прачнулася.
*1987*

**КАЛЯНДАР**

Стары гартаю каляндар —
там дні і даты.
Адзін з тых дзён былых —
бунтар,
другі — араты...
А трэці, як і пражыла,
бы ў дамавіну
дачасна доля прывяла —
няма ўспаміну!
*1987*

## НАВАГОДНЯЯ НОЧ

*В. Т.*

У снежня за душою ні капейкі,
ён кожнаму сказаў свай: «Бывай!»,
ані завеі... Легка стылі рэйкі,
і дзесь чакаў сваіх гадзін трамвай.

Прыязнасць слоў
і любасць мілых твараў,
узрушанасць чаканае начы,
але каму не хочацца да мары,
да мроі хоць на момант уцячы.

Збягала я...
Настрой — як бэз у маі,
у розных думак горкіх — поўны шок...
І нечакана ў бэз той уплывае
вачам даўно знаёмы кажушок.

Вось Вы…
Я пазнаю Вас той парою,
і дзіўна, пры сустрэчы кожны раз
саўдзельнікам далёкага настрою
праз час цяпер я часта бачу Вас.

О памяці рашучая адвага,
што перад ею наш і зрок, і слых!—
дзесяцігоддзі можа скінуць з вагаў,
хаваючы ў сабе кароткі міг.
*1987*

* * *

Разлічваць на які яшчэ прыём?
За шчырасць — нечаканая адплата.
Ён ува мне пабачыў дыпламата
і ганарыцца гэтым адкрыццём.

А як жа тое,— што было спярша,—
разгубленасць і позіркаў, і рухаў…
Ці трэба строгасць, дзе пяе душа,
ды каб жа ен душу маю паслухаў!

Нібыта за шкляной стаіць сцяной,—
ад пільных спраў то ўзрушаны, то грубы...
У сны аддаў пяшчоту рук і губы,
як люба ён гаворыць там са мной.

І хоць жывём пад небам мы адным,
яму ўжо аніяк не здагадацца,—
я знаю столькі тайнага аб ім,
што нам ніколі лепш не сустракацца.
*1987*

* * *

Забывай мяне, калі поруч —
шчасце, як галінка з плодам,
прыгадай мяне, калі горыч
размінаецца з асалодай.

Спамяні мяне, калі гора
паглядзіць табе ў вочы праўдай,
не прынёс святла свайго ўчора,
прынясі бяду сваю заўтра.

Не разблытвай мае няўвязкі
спачуваннем сваім ніколі,
не схацеў тады маёй ласкі,
адкасніся цяпер ад болю.

Я не крыкну, прапаў мой голас,
развітальна ўзмахну рукамі,
пагляджу на мядзяны колас
і прыкрыю твар васількамі.

Паглядзі, хараство якое,
утрапёна застынь прад імі,
не была табе дарагою,—
назаві васількі дарагімі.

Хай душа на гаркавым уздыме
птушанём лугавым закігіча,
ад любові заплач над імі,
мне слязой апаліўшы аблічча.

*1987*

## ВЕРШ БЕЗ НАЗВЫ

«Надакучыла цацкацца, верыш?» —
і па снезе пайшоў за лаўжы,
і вярнуўся, астыўшы, пад дзверы,—
засмяяўся, падняў, закружыў...

І казаў, сення снег злёгку сіні,
я не бачыла ў ім сінявы,
ды на міг уявіўся іней
пад рукой язычком агнявым.

Гэтак думка мяне апякала,—
з ім не будзе дарогі ў жыцці!
І тады я да слова прыпала,
аднаго толькі слова: «Пусці!»

Твар успыхне, як колісь, знянацку
пры сустрэчы — дзівацтве быцця...
Ах, якую свет страціў бы цацку
без любоўнага пачуцця!
*1987*

**СНЕГ**

Навошта снег, калі яшчэ сасне
так радасна ў траву страсацьігліцу...
І золаку заспанаму ў паўсне
карціць абвеяць водарам сталіцу.

А снег ідзе... Развейваючы ў дым
усе, што мецьхацела пажыццева,
як непазбежны напамін аб тым,—
у змене дзен,
да змены будзь гатовай.

І я гатова. Спраўна хлусіць хлус,
душа ў руціне, слова — ў пазалоце,
а снегу што? Ён ляжа, як абрус,
ен не дарадчык звадзе і самоце.

І пойдзе ўсе спачатку...
На другім
узлёце і аўторак, і нядзеля,
і нешта, што здалося дарагім,
завершыцца ізноў абвальнай дзеяй.

А снег ідзе... Яго і часу збег,
як перамена звыклых дэкарацый.
Тэатр дваіх! Ні рэплік, ні авацый!
І ўсе ж...
І ўсё ж... Навошта гэты снег?
*1987*

## ПАЧУЦЦЁ

Што ў пачуцці,
што нам даецца жарам,
абуджаным каханнем да жыцця...
У ім няма спрадвеку адкрыцця,
прырода адарыла гэтым дарам.

Ёсць іншае...
і што даверыць сказу —
замілаванасць, роспач ці спакой?
Яго ў сабе пачуеш не адразу,
а з'явіцца — ўжо назаўжды з табой.

Калі ў асенняй дымцы неба стыне,
калі рабіны горкія гарáць,
нагорнецца, навернецца, нахлыне,
і ты не знаеш, як яго назваць.
*1987*

* * *

Разраслiся шумлiвыя кроны
стройных дрэў, што растуць на мяжы,
а паблiзу гушчэўнiк зялены,
там начуюць ручныя вужы.

Нечаканая казка прыроды...
I, здалося, стагоддзе назад
тут прайшлi нашы лепшыя годы,—
рукi ў рукi, пагляд у пагляд.

Зараслi муравою дарогi,
тут спакой пасялiўся навек,
але колькi пякучай трывогi
можа ўзняць у душы чалавек!

Словам дзёрзкiм пакрыўдзiць
не смею
i пяшчотай ужо не прайму...
Што ж ты, мiлы, прайшоўся завеяй
па гарачаму лету майму?!
*1989*

## КАЛІ ЗНІКАЕ КАХАННЕ

Устаць, і слухаць ранні крык шпачыны,
і радавацца свежасці світання,
і ведаць, што ў вачах тваёй жанчыны
жыву істотай, вартай шкадавання.

О, гэты позірк, кінуты крадком!
А я, як калісь, выбегу на крокі,
ты — гаспадар, вяртаешся ў свой дом
на досвітку... Якія ж тут папрокі?

У васемнаццаць можна б і расстацца,
а мы даўно жывем, як спарышы...
Мне страшна: знаю, трэба ўзбунтавацца,
аце нішто не ўздрыгвае ў душы.
*1987*

* * *

Напэўна, мне не прыдалося.
З далёкай нейкай даўніны
вяртаешся, як дождж —
у восень,
не помніш колішняй віны.

Я многа дзён жыла ў спадмане,
не ўмела ўмомант забываць,
ды ў страсці, як і ў урагане,
нічога нельга прадказаць.

Спакойна ў сэрцы, як на вежы,
дзе зноў любому рада дню,
ёсць і ў пачуццях нашых межы,—
свой час згасання і агню.

Ужо ні соладка, ні горка,
ні шкадавання, ні нуды,
як у дзяўчынкі, што з пагорка
ляціць, не знаючы куды...
*1987*

* * *

На ўзгорку дуб.
                                   Яму даўно за сто...
І ні на міг не з'явіцца здзіўленне,
як моцна, як упэўнена карэнне
ўздымае над зямлёю дужы ствол.

А людзі...
                    Годнасць страчана ў адных,
бунтуе ў іншых гордая парода,
па-рознаму ў нас дыхае прырода,
адну загадку даўшы нам на ўсіх.

Наблізімся мы да яе аднойчы.
Без выбару адчуем гэта ўсе:
кранула мудрасць розум наш і вочы,
а сілы пакідаюць пакрысе.
*1987*

* * *

Страчанае, забытае,
з цяперашнім упрыкус,
за маіх 42 здабытае,
ці заўсёды патрэбны груз?

А калі б яшчэ тое бярэмя,
што, выслізнуўшы з папруг,
разбухае, як вымя ад прэмій,
лагодных нечых паслуг?

Не знойдзенае, не расшуканае
СЛОВА, як доля ў жыцці,
як шчасце мае ашуканае,—
салоўкам плача ў лісці...

Але па-ранейшаму ўмелая,
бяжыш да стала найперш...
Ды моўкне душа скалелая,
і для каго той верш?
*1987*

* * *

Чабору пах. Пякучасць крапівы.
Ля плота, як падстрэлены, сланечнік.
Я сёння ўсе прыдумала, канечне,
мяне ніколі не займалі Вы.

Паверылі!..
                    О гэты страшны час,
дзе кожны еам з сабой, але хвілінай
такая раптам хваля ўздыме нас,
што словы расцякаюцца былінай.

І як тут знаць,
                    дзе праўда, дзе падман,
у калаўроце гэтым нашым вечным?!
Герой... Герой!
                                  Прыдумала, канечне!
Чаго ж тады гляджу як праз туман?
*1987*

## ІРАНІЧНЫ ВЕРШ

Назвалі неразумным вы кагось.
Каму ж ен, неразумны, замінае?
Ён спадзяецца толькі на авось
І ў яблычка, як кажуць, пападае.

І вы крычаць гатовы: «Людцы, гляньце,
шанцуе неразумным, о-о пракляцце!»

Разумнікі... Што ж, розум немалы.
Гадаюць, дзе асот, дзе лаўр, дзе блекат?!
Каму ялею, а каму смалы...
Пакуль разважаць —
шанц ужо далека!
*1987*

* * *

Былі нядаўна дрэвы ўсе ў журбе...
Тут мой партрэт снягамі снежань піша.
Яму не дагадзіла ў нечым ціша,
і побач ен намаляваў цябе.

І ўзнеслася, як трапятлівы гук,
твае імя адразу ў тыя высі,
дзе серафімы лічаць зорак бісер,
а мы баяцца сталі сваіх рук...

Што прачытае ў позірках зіма,
калі так знемагае кожны дотык!
Мне падказаць спрабуе снежань, хто ты!
Не дыхаю. Я знаю ўсе сама.

Не зразумела толькі, што пасля?
Ты многа курыш. Я маўчу зацята.
Двары пустыя... У кожным доме свята.
І святам нам здаецца ўся Зямля.
*1987*

## І ЎСЁ Ж...

Груганом праляцеў «кукурузнік».
Пыл салёны ляціць на зямлю.
Ты ж, здаецца, зусім не распуснік,
я цябе не такога люблю.

Хоць і знаю, замкнуліся дзверы,
за якімі шчаслівыя мы,
а вярнуцца б, наіўнай без меры,
ў снежань першае нашай зімы.

Быць дурнічкай,
                    няўклюдай,
                                  любою...
З нечым тайным сваім на губах.
І бязбожна ўяўляць прад сабою
ўсё жыццё, бы ўтрапёнае а-х!..
*1987*

## САРАМ ЛІВАСЦЬ ЮНАЙ

Кружыла замець птушкай белакрылай
і падала ў сумёты ля варот...
Я пад цікаўным позіркам прыкрыла
нязвыкла ўперад выткнуты жывот.

Ад постаці да лёгкага дыхання,
усё нібы крычала ў момант той,
што ноч была пяшчоты і кахання,
я перад светам не была святой.

Адумалася: ну які ж тут сорам?
Каханне — шчасце і працяг быцця.
Хіба са светам я дзялюся горам,
я ў свет нясу жыццё — свае дзіця...
*1987*

* * *

Ці не пупышкі хіляць голле ўніз?
Напэўна, быць квітнеючаму маю!
Здалося ўсё... канец... я адгараю,
а ты пачаў зноў сніцца, як калісь.

І гэтак добра ранкам уставаць,
у кожнай жылцы дрэмле асалода, —
і дзе ж так навучылася прырода
згасаць,
успыхваць,
зноўку бунтаваць?

Караблік папяровы на вадзе,
дзіцячы смех з паветрам уварвецца,
і сэрца стук... Я знаю, яно б'ецца
так у вялікім шчасці ці ў бядзе.
*1987*

## НА ПАЧАТКУ ВОСЕНІ

Промні сеюцца праз рыжыя
сосны на далёкі луг...
Хай саромеюцца хіжыя
валацугі з валацуг

сну салодкага абранніцы,
бы ў жар-птушкі на крыле!
Хай яны баяцца раніцы —
вочы ў вочы пры святле.

Хай для іх імгненне радасці
выпадковасцю мільгне,
колькі ў лузе дальнім святасці,
столькі любасці ўва мне.

Недзе студня ціха рыпае,
шэпт ляціць аж да галля...
Там цяплом астатнім дыхае,
як вясновым днбм, зямля.
*1987*

* * *

Разлуку ў хуткім часе напрароч,
да самазабыцця любі кагосьці,
ды гэта на ўспамін аб маладосці,
скажы, якая бэзавая ноч?

Пад лопухам хаваецца матыль,
у ценях адмысловых шыр квартала,
я ўсе табе ў мінулым даравала
і позіркам пытаюся: а ты?

Зноў прывыкаю да твайго імя.
Навошта?
Твой уздых цяжкі і горкі.
Мы, як працяг зацягнутай гаворкі,
ска зал і ўсё, а яснасці няма.

Ды і якой жадаем яснаты?
І я ж не абяцаю быць адданай...
Схацелася прачнуцца закаханай, —
світанне,
бэз
і як калісьці... ты!

*1987*

* * *

Не мудры той, хто сэрцам на агонь
кідаецца ў бяссільным намаганні,
ці доўга свеціць сонца на змярканні,
калі кранае срэбра тваю скронь?!

Шаленец, прад сабою не грашы:
хоць жар салодкі ў позняга спаткання,
свая прывабнасць есць і ў адцвітання:
спакой парываў, цела і душы.

І хоць спакуса плоць тваю скрабе,
жыві адзінай ісціне сугучна:
шукай не ласкі ветранай, а Вучня,
тады ты скажаш, што знайшоў сябе.
*1987*

* * *

Хлуслівы не прызнаецца ў хлусні,
ен, можа, і не знае, што хлуслівы.
Ён да сваёй дабраўся вышыні
і вышынвю гэтаю шчаслівы.

Ён бачыць тых, хто лье яму ялей,
ен вершыць суд і вызначае лёсы.
І аднаго не знае, што нябесы
тым часам ад яго далей... далей...
*1987*

* * *

Схапіць... Купіць... І кожны ўжо
бы п'яны!
Дыван... Адзежа... Заўтра ўсё! Патоп!
І хтось адзін, як іншапланецянін,
уражліва аглядвае натоўп.

Хачу купіць ружовенькае шкельца,
каб не згубіць апошняе «люблю»,
я і сама з няўцямнасцю прышэльца
даўно гляджу на бедную Зямлю.

О як усё расклалася няпроста...
Няма ў душы ні радасці, ні слёз,
а толькі шум з далёкага пагоста
красы айчыннай — векавых бяроз.

Яны спачатку зналі толькі волю,
зямля дала ім дужасць і спакой.
І хочацца, згараючы ад болю,
да іх пайсці з працягнутай рукой...
*1987*

* * *

Не можа быць кахання без цяпла...
Жыву на свеце не адзін дзесятак.
Ты халадком прываблівай дзяўчатак
і вернасцю мяне, каб не ўцякла, —

сказаць хацела так амаль страфой...
Ах, вернасць, вернасць, — прага
самаўладдзя,
ды хто з нас знае, у каго што крадзе,
тым больш што страсць раджаецца сляпой.
*1988*

## У СТАРЫМ ПАРКУ

Распагоджана з раніцы неба,
па-юначы каменьчык падкінь...
Ад цябе мне нічога не трэба,
проста — цветам бярэцца язмін.

Там — направа — азерца і лебедзь,
а налева — чародка асін,
напрамкі... па сцяжыне — угледзіць
нас адразу віхрасты мой сын.

Быў заўседы ты шчодрым на ласку,
да сябе прыгарні хлапчука,
раскажы яму рускую казку
пра Алену-красу і ваўка.

Сам аповесці той не збаіся,
каб на нейкім паўслове не змоўк, —
я ад роду завуся — Раісай,
і ў дрымучых лясах шэры воўк.
*1987*

## ГОРАД ПЕРШАГА КАХАННЯ

Забытай ніколі не скажуць: «Забыта!»
Размовай такой не бянтэжаць душу.
Тым больш не глядзяць запытальна,
нібыта
за пазухай сонца, як камень, нашу.

Прыкінуцца можна адчужана-строгім...
Навошта? Ніяк зразумець не магу.
Калі размінуцца чыесьці дарогі,
прычын не тлумачаць...
Маўчок. Ні гу-гу!

Як радасна ведаць, што горад наш вырас.
Як сумна ў ім бачыць туману кайму...
Няўжо маё сэрца пакінула шчырасць
і гордасць твая падыграла яму?
*1987*

* * *

З кроплі не разліцца акіяну.
З холаду не высечы агню.
Дзіўная, у свет празяблы гляну,
бы сябе у зямлі сырой сасню...
*1988*

* * *

Голле ліпаў глядзіцца кволым,
сонца яго не кране...
Тут словам дасціпным, вясёлым
цешыў некалі мілы мяне.

І хочаш чагосьці адданага,
і кажаш, што любіш зіму,
а неба, як плашч каханага,
што здрадзіў каханню твайму.

І як яно ціснe на плечы
цяжарам усім сваім...
Ад неба нялёгка збегчы,
калі хістка стаіш пад ім.

Усё ў цябе добра нібыта,
а вось жа ўсплыў успамін...
І ты не зямлёю ўжо —
небам прыбіта
да гэтых кволых галін.

*1988*

## СІЛО

Турбуешся, што я адна...
Зноў кожны крок мой пад наглядам.
Як мне знайма, і здаўна,
сіло дакучлівай улады.

Дзе першай ласкі прагны жар
такім абернецца сумбурам,
што выдыхнеш: «Няхай бы бура
лепш апякла здзіўлёны твар».

Дык для чаго табе правы?
Хай нас развaжлівасць ратуе...
Вунь слуп стаіць, як вартавы,
і... невядома, што вартуе.
*1988*

* * *

Якая ж ты простая, дума...
Высока ўзнясіся ці нізка,
сябе немагчыма прыдумаць,
як, бывае, прыдумваем блізкіх.

І радасць,
                    і боль свой,
                                        і ўтому,
што песціць душу і скрабе,
аддаць немагчыма другому...
Твае ўсё — жыве пры табе.
*1988*

* * *

У свет зірнуць —
                    не ў дворык з-за фіранкі.
Я хутка запішуся ў гумарысты:
раней — бадзягі, рыцары, каханкі,
пазней — балбатуны і кар'ерысты.

Яму б гарэць...
                Шукаць,
                        прасіць парады
у дум, наскрозь працятых палам юным,
а ён пасля чарговае нарады
увесь, нібы вось-вось сышоў з трыбуны.

Гадае так і сяк: хто аднадумцы,
што можа абярнуцца зноў застоем?!
А на балконе галубок галубцы
буркоча ўсё пра нешта маладое...
*1988*

## У ЧАС АДНАГО ШПАЦЫРУ

Птушка забілася ў сонных хмызах,
навошта яе трывожым?..
Няўжо ты не бачыш, голле ў слязах,
яно сумуе таксама, можа...

Па ветры цёплым, па промнях зары,
па нечым вельмі звычайным...
А тут жа толькі адны камары
ўюцца ў танцы адчайным.

Там, дзе берага выгнуўся кант,
словы гучалі другія,
і сэрца дасюль мае, як эмігрант,
поўнае настальгіі...

І не з табою я зараз, з ім...
Ён — твор для мяне, ты — прадмова,
таму і вечар наш гэты, як дым,
як без літар галосных мова.

І не скажу я табе: «Даруй...»
за падман вачэй выпадковы,
бо які толькі сказ у душы ні збяру,—
рассыпаюцца словы.

І мулка пад позіркам мне тваім,
як ты ні глядзеў бы прыгожа...
Дык павср у гэтага вечара дым,
развеяць які не зможаш.
*1988*

* * *

Слязой не вымаліш святла,
пашыд жаданых губ не верне,
дае ўзыходы шчодра зерне,
калі яму стае цяпла.

Можа,
                    таму дзіця прагрэсу,
адкрыўшы мноства таямніц,
хінуся ўсе бліжэй да лесу,
да купін, рэчак і крыніц.
*1988*

## ЛІСТАПАДАЎСКІ ПЕЙЗАЖ

Начным дажджом асфальт наўкол амыты.
Скразняк свідруе дворык прахадны.
Свядомыя пайшлі ізноў на мітынг,
а ў несвядомых сёння — выхадны.
Ларок за домам... Прадаецца піва.
Бяздомны кот на сметніку, як здань.
Кудысь плыве мелодыяй тужлівай
нябёсаў ускалмачаная твань.
У вадасцёк ручай сцякае брудны,
за плотам грыб драўляны, нібы гном...
Як маўзалей дыктатара, бязлюдны,
палохае пустэчай «Гастраном»...
Усё сцяла няясная трывога,
і вецер спеў зацягвае глухі...
Пайду ў царкву. Хачу спытаць у Бога,
як хутка адпускае Ён грахі?
*1987*

* * *

Выходзь да люду пры парадзе
ці выстаўляй каптан з рыззя,
ў аднойчы сказанай няпраўдзе
калісь патоне праўда ўся...

Кляніся ўзвышаным памкненнем,
змагайся з гніллю ці іржой, —
ўсе атрымаецца глумленнем
над праўдай, словам і душой.
*1988*

**НА ЗАРЫ**

На зары толькі дрэў трапятанне,
а начамі — завеі выццё...
І не знаю, ці то развітанне,
ці на новым дыханні жыццё.

Плён бяссонняў пакутных і страсці
больш пустыя... ўсё, як ні разваж,
адлятае няўпэўненым шчасцем
і ў мінулым плыве, як міраж.

І заместа пытанняў — адказы...
Ах, цяпер пасмяяцца б да слёз
са шматзначнасці лёгкае фразы,
што калісьці даймала ўсур'ёз.

З усяго, што было беспрычынным
ды нясло, як вагонны састаў,
і з нявіннае пометы мужчыны,
што жаданым чамусьці не стаў.

Што хвілінным было і мізэрным,
а складалася ў тлумнасць і спех...
Што ніхто і ніколі не верне, —
юны пал,
юны шал,
юны грэх...

Дык па чым жа цяпер шкадаванне,
скуль пякучасць, нібы ад ляза...
На зары ж толькі дрэў трапятанне
і скупая, на рэдкасць, сляза.

**НАДЗЕЯ**

Вяртаць былое — справа дрэнь!
Адно: сябе ў канец замучыш...
Былы каханы — не алень,
яго пяшчотай не прыручыш.
Што ні раблю — не так раблю!
Жыве надзея ў сэрцы горкім,
святлом даўно патухлай зоркі,
што ўсе ляціць, спяшае на Зямлю.
*1988*

## СЯГОННЯ ДОЖДЖ

Сцерагла,
сачыла непазбежнасць.
Вымаклі да нітачкі —
наскрозь.
Непагадзь рашуча і паспешна
гнала нас кварталамі,
і вось —
мы на ноч залеваю асуджаны, —
кава, цыгарэта і пагляд,
позіркам тваім да дна асушаны…
Хочаш, адчыню… —
ідзі назад?!

Думаеш.
Прыкідваеш.
Марудзіш.
Там — шуміць вясновая вада,
тут — абжыты ціхшынйю будзень,
за якім адно:
нуда, нуда…
Не ідзеш!
Анёльскае прытворства.
Ловіш трапятліва кожны рух,
быццам не пакой, а дзікі востраў
безвыходна свой акрэсліў круг…
Камень — на касу,
каса — на камень,
п'ецца кава, а па целе — ток…
І не дай нам Бог цяпер рукамі
прагнымі сустрэцца неўзнарок.
Позна! —
над падушкаю прымятай
цыгарэтны плавае дымок,
вецер пад акном з душой вар'ята
высах
і па-новаму прамок…
Можаш пераблытаць заўтра адрас,
могуць словы сцерціся ў гадах,
але будзь ласкавы
ведаць зараз, —
што аддаў бы ўсё —
за гэты дах.
*1988*

* * *

Я вечнасць падарыць табе змагла,
узяўшы вобраз твой у музыку работы,
ты ж падары хоць трошачкі пяшчоты,
хоць дзень адзін з усмешак і цяпла.

Спазнае той гармонію быцця,
хто не чужым дарам празмерна рады!
Што поспехі, што адчуванне ўлады
супраць гарачай волі пачуцця?!
*1988*

## **НОЧ. ВОДАР АРХІДЭЙ**

Няўжо непазбежнасць? Згараю з адчаю...
Так лёгка паддацца хвіліннай аблудзе!
Дванаццаты дзень я цябе прывячаю,
Бог бачыць, прашу, хай заўсёды
так будзе!
І тут жа загадваю сэрцу: «Даволі!»
І хочацца мець хоць у рэчах падтрымку,
а цені ад кветак тваіх на сталі
спляліся, як рукі ў спякотным абдымку.
Я знаю, што свет і халодны, і грубы,
ды мае сваіх улюбёнцаў прырода...
Табе столькі жару ўліла яна ў губы!
Мне горача. Жарам тым дыхае водар.
*1987*

* * *

Усё гаворым пра высокі доўг...
У мітусні любой — імя Айчыны.
І як паверыць, што ўладар Міндоўг
не з-за яе прапаў, а з-за жанчыны!

Трагедыі далёкае пажар...
Трапяткое спрахла ўсё пад бытам,
як прыбіты катаржнік да нар,
да яго сама штодня прыбіта.

Полымна забіўся нейкі ген?
Абудзіў няяснае тамленне?
Радуйся, жанчына-манекен,
вечнасць падзялілася імгненнем.

Радуйся, што сэрца — на шматкі
ад няроўных думак і дыхання,
а яшчэ... што здольна на радкі —
дзіўнасці нязбытнага кахання.
*1987*

* * *

Сказаў: «Забудзеш, і я памру!
Не вернется — так і знай,
аднойчы ўзбягу на крутую гару
і... ліхам не памінай».

І што ж сёння ставіць
ён мне ў дакор
Я не помню, як лашчыць ен,
але знаю, ад гэтага не памёр,
і не хоча прызнаць тых дзён,
калі ўсё спявала і ўсё цвіло
і ў лузе, і ў лесе, і ў садзе...
І ўсё гульнёй для яго было,
як і гэты папрок у здрадзе.
*1989*

## ГОД ПЕЎНЯ

Год Пеўня — год сур'езных перамен.
Год — спрэчак, боек, рызыкі і гвалту...
Ты не ляціш у сонечную Ялту,
са мной збіраеш для прыправы кмен.

А насупроць у вокнах нейкі жах:
клянуцца, папракаюць, мітусяцца...
Ды так, што нават птушкі не садзяцца
у навакольных і далей садах.

І ты, між іншым, кажаш: маладосць!
І я ўздыхну: найшла каса на камень.
Спакойна сутыкаемся рукамі,
і ў тым пачатак раўнадушша ёсць.
*1987*

* * *

Ужо нічым не здзівіць век,
ён, каламутны, на зыходзе,
ды як здзіўляе чалавек,
што часам любіць пры нагодзе
сябе Вальтэрам паказаць,
абраннікам высокіх Музаў,
а сам такім набіты друзам,
што здольны
                    хіба што...
                                        здзіўляць!

*1988*

## ДА ВОБРАЗА
## СУЧАСНАЙ ЖАНЧЫНЫ

Жанчына летала ў аблоках,
дыханнем рассякала даль,
і промні лёгкія звысоку
а гнём сцякалі на паркаль...

І быў абшар прад ёю гэткі!
Такімі блікамі міргаў,
што, божа мой, якія сеткі?
Пры чым тут цэны і чарга?

Якія могуць быць на рады?
Бацькоўскі сход, вытворчы план
Па правую руку — Плеяды,
па левую — Альдэбаран.

Як можна спрэс пра дэфіцыты?
Любы з іх зараз — д раб я за!
Вунь Сірыус, святлом заліты,
дрыжыць, як божая сляза.

Здаецца, побач шэпча хтосьці,
як некалі... да віднаты,
аб нясканчонай маладосці
яе жаночай пекнаты.

І апякае свет астральны
нязвыклай блізкасцю планет,
нібыта ёй адзінай тайны
свае даверавае Сусвет.

Палёт вымерваўся імгненнем.
О, сілы незямной іспыт, —
жанчына летала і ценем
сплывала ў распракляты быт.
*1989*

* * *

Не спадзявайся, а жыві, —
спакойна, ўдумліва, як трэба...
і дурасць дурасцю заві,
зямлю — зямлёй,
                                а неба — небам.

І быць праўдзіваю дазволь
душы: ты многа шчасця мела,
а спадзяванне — гэта боль
па тым, што збыцца не пасмела.

*1990*

* * *

Усё цудоўна! Бусліны клёкат...
Спяшае радасць да кожнай з пакут.
А самы-самы любімы далека,
а самы-самы балесны тут.

Бывае, што дзень ад начы не святлейшы,
а верыцца — выслізну неяк з тугі,
ды вось жа маўчыць незваротна — першы,
і цягне ў бездань адчаю другі.

І сочыцца холад па жылах азяблых,
у сэрцы аглухласць адна і жыве,
нібыта штодня зухаваты д'яблік
у бубен ля скроні ўсё б'е і б'е.
*1989*

* * *

Выпусці з сэрца раба,
як матыля са жмені...
А шчасце? Яно, бы цень ад слупа,
з кукішам у кішэні.
Горад ахутае ранняя золь,
жывеш —
                    з адпаведным настроем...
Што ж табе трэба?
                                  Папера... Стол...
Астатняе ўсё пустое!

А тут дачка на калені —
                                               скок!
І не было б то малое...
Як жа выводзіць яе галасок
дзіцячае штосьці такое...
І Шчаслівае! Радаснае да слёз,
ружовае і трапяткое...
Не абдзялі ж яе шчасцем, лёс!
Астатняе ўсё пустое.
*1989*

## ЧАТЫРОХРАДКОЎІ

* * *

Бывае, што па-свойму горды,
у сілу творчага крыла
адзін натоміцца — за ордэн,
другі — за праўду — для стала.

ПРА ДУБ

Не стане, зрэшты, голас труб
дыханнем флейты, як ні пнецца...
Калі ж назвалі дубам дуб,
ён дубам так і застанецца.

НЮАНСЫ

І дзякуй Богу, што не ўсе!
Але той-сёй мастак вялізны.
Так спраўна піша, бы трасе
ў падтэксце брудную бялізну.

ДЗІВОСЫ ЎСХВАЛЕННЯ

Не зблытаць бы азерца з лужай,
з чужымі — ўласныя сляды,
а тут крычаць да ўсхліпу: «Ружа!
паказваючы на дзяды.

* * *

Бяры, як мёд яго, ды маж
ялей — абранаму куміру...
Ідзе густы падхалімаж,
хоць падрабляецца пад Ліру.

ЭПІГРАМА

Ён плеткаром пры Музе быў,
мог быць нярэдка — прайдзісветам,
а для прыстойнасці служыў
па сумяшчальніцтву — паэтам!

*1988*

* * *

Любіць жанчына слыхам…
Стала цемна ў апошнім акне.
Я тады папрасіла ціха:
«Скажы, ты кахаеш мяне?»

І адказваў ен нешта смехам,
і глядзеў зусім не ўлюбена,
і доўга смяшлівае рэха
ўпляталася ў кроны кленаў.

Прайшло пяць гадоў ці болей,
вандроўка тая забыта,
а ен з тага часу ніколі
не глядзіць на мяне адкрыта…

І ўсе позірк такі адчайны,
і дзіўна, што ў ім чытаю
такую празрыстую тайну:
кахаю цябе… кахаю…
*1989*

* * *

Ведаю, твар мой аднойчы прысніцца,
сон, — як раптоўны апек...
Будзе гайдацца маёй завушніцай
поўні ледзь бачны к раёк.

Назад, у нядаўняе неба кульнецца,
шторкай зацягнеш акно...
Раніцай тою зазнаеш, як п'ецца
з ценем уласным віно.

Прывыклы ўладарыць ва ўсім, анямееш,
ляжаш на сцёрты кілім...
Так толькі жанчына параніць умее,
зніякнуўшы назусім.
*1989*

## УЛЬЯНАЎСКАЯ, 4

Выблісне ранняе лісце,
амытае дымкай дяпла...
У гэтым доме калісьці
Жэня Янішчыц жыла.

Як сцежка ўзбягае крута,
і жмурышся ад святла…
З радасцю ці з пакутай
тут Жэня Янішчыц ішла.

Гады адляталі рыскамі,
шчасліваю ці была?
За гэтымі вокнамі нізкімі
журлівую споведзь вяла.

У далях цяпер адгукнецца
радкамі яе імя,
а сэрца ўсё б'ецца і б'ецца:
няўжо гэта Жэні няма?
*1987*

**ЧАМУ?**

Недзе лотас. Недзе важкі колас.
Дзесьці ў пальмах росы зіхацяць..
І ў народа кожнага свой голас,
каб душа душу магла гукаць.

Ды, калі надорыцца сустрэча,
поўная сардэчнай глыбіні,
і на розных мовах стане вечар
ветлым ад прыязнай дабрыні.

Продак карыстаўся мой замовай
пры напасці даўкай у глушы...
Вось напасць, —
адна зямля і мова
а душа далёка ад душы.
*1989*

**НІШТО НЕ ВЕЧНА...**

Мяркуеш, прыкідваеш, скрозь будзе так:
пагодны кастрычнік... Ты рада яму.
А ўжо невядомы нейкі мастак
малюе тваю зіму.

І ты у прадчуванні нязнаных трывог
зрываеш апошнія кветкі ў букеты,
ды нават яны, як пары той прыкметы,
што ўладна на твой пазірае парог.

Апошнія кветкі... Халодны прамень...
Бліжэй і бліжэй снегавая аблога,
і што ж ты баішся зірнуць у той дзень?
Ён — новы
                і прыйдзе, як вынік былога.

* * *

Жыву, і, дзякуй, не ў прасторы голай.
Мая душа — скарбонка пачуцця...
Дык што ж ты плачаш, юны мой астролаг,
што тэрміны кароткія ў быцця?

Хай цела — тлен...
Ад тлену не прыбудзе,
ды вырвецца калісь на волю дух!
І што з душы аддаць паспею людзям,
яно і ёсць быцця адвечны рух.
*1989*

## ПАРТРЭТ ЖОНКІ СТАНІСЛАВА КСАВЕРЫЯ ПРУШЫНСКАГА XVIII СТАГОДДЗЯ[8]

Наканавана жыць у высях...
Уладнасці дадаў ей шлюб.
І вось лаўлю ў застылых рысах
напышлівасць падцятых губ.

Твар асвятляюць шоўк і бісер,
а не ўласцівы ўзросту жар,
і нешта есць у ей ад рысі,
што падпільноўвае ахвяр.

І толькі позірк на партрэце
(як выпісаць змагла рука),
нібыта распісаўся вецер
пялёсткам сінім васілька.

Так зніталіся ў адзіным
паглядзе ўражаных вачэй
і сінь валошкавай радзімы,
і тайны юныя начэй...
*1989*

[8] Невядомы мастак. Касцёл Нараджэння Маці Боскай (1781) у сяле Кемялішкі Гродзенскай вобласці.

* * *

Калі адчай, хоць закрычы,
калі туга па Вас даймае,
тады мне дамавік іграе,
сама не ведаю, на чым.

Бліскучы клавіш ці струна
пад яго пальчыкам старанна
ўсю ноч, ад вечара да рання,
вызвоньвае — адна... адна.

Уторадь гукам ледзяшы,
а холад толькі холад множыць...
Хто ж зараз зможа растрывожыць
агонь разгубленай душы?!

Ёсць два бакі ў адной мяжы,
і тоіць шлях адзін расстанне:
хтось спадзяецца на спатканне,
а хтось — падкрэслена чужы.

Вунь поўні белая ладдзя
святлом у сум мой уплывае,
мне дамавік яшчэ сыграе,
ва ўсім астатнім — Бог суддзя.

*1989*

* * *

Дзеці нашы даўно захапляюцца рокам,
хай удачлівым будзе іх
з новым стагоддзем альянс...
А я з нашага выхаплю момант
натомленым зрокам:
Вы запрашалі мяне на вальс.

І сукенка была ж у мяне не для балю,
без бліскучай аздобы,
без лішніх якіх выкрутас...
Ды глядзела вачамі, гарачага поўнымі жалю:
Вы запрашалі мяне на вальс.

Чарнела на дахах старэнькая мокрая гонта,
і за цюлем у вокнах калючы ўздымаўся альяс,
а ўяўлялася мора
і пахкія ружы Таронта:
Вы запрашалі мяне на вальс.

І паветра цадзіла духмянасць амброзій,
круг за кругам...
на неба...
на боскі Парнас.
Ну, чаму больш ніколі не захліствалі
гэткія слёзы:
Вы запрашалі мяне на вальс.

Як ахвотна нябёсы сваё расхіналі нам ззянне,
там толькі абраных цалуюць анёлы ў свой час...
Я баялася верыць, што будзе
зямное вяртанне:
Вы запрашалі мяне на вальс.
Завяршаецца век катаклізмамі, драмамі,
понтам,
нехта — голы кароль, хтосьці лаўравых
поўны акрас...
Я не мару пра мора
і пра пахкія ружы Таронта:
запрасіце яшчэ раз мяне на вальс.
*1989*

* * *

О колькі крыўды, — ён мой вязень!
Які пагардлівы папрок!
І дом мой для яго — не засень,
а самы-самы санцапёк.

Капрызнік. Блытанік. П'янюга.
Мне гэта бачна і самой,—
я ў ім шукала доўга друга
і стала для яго турмой.
*1990*

**КУПАЛЛЕ**

На беразе стромкім ладзяць кастры
і сцелюцца пасмы туману...
Надзея і вера — вось дзве сястры,
што лёгка вядуць да падману.

З якой жа надзеяй за іскрай сачу,
за дымам над шллем траскучым?
Спатканняў да ранку даўно не хачу,
а сэрца... бы ўперадзе круча.

О як абмірае пры думцы адной,
што я саўладаць з ім не ў сіле...
І той, хто прыйшоў, паміж іншым,
са мной,
як ніколі здаецца мілым.

І ен усё лашчыць і лашчыць далонь,
а позірк халодным застаўся...
І стала страшна скакаць праз агонь,
які толькі што ўзняўся.

## АПОШНІ ШЛЯХ НЕЗНАЁМАЙ

Для самазабойцы і Бог не абаронца.
*Прымаўка*

Ужо раскладвалася доля,
ды як заблытаў д'ябал карты!
Абраннік стаў сілом, — не болей,
ахвяры ен такой не варты.

Зямныя словы ўжо не суддзі,
чым ты жыла — ўсё зараз тайна.
Яе зусім чужыя людзі
спрабуюць разгадаць адчайна.

Цікаўнасць з жалем пераўецца.
Асенні двор пусты і голы.
Даруй, як страшна сэрца б'ецца:
каханак твой — ужо вясблы.
*1990*

* * *

Шалее д'ябал ад сваіх забаў,
не абмінае гэты шал нікога...
Дзе той відушчы, хто б руку падаў,
у ім гатовы свет пабачыць Бога.
Што сеецца, — парою прарасце...
Вось толькі чым? Палеткі скамянелі.
Плыве Зямля, бы стол пасля гасцей,
што ад уласнай жорсткасці схмялелі.
*1990*

* * *

Жыць з пачуцця,
з надзей,
з адвагі...
Бог ведае яшчэ з чаго,
а тут і промні ўжо, як шпагі,
скрыжуюцца: ну хто каго?!

Ды як зямля не стане небам,
так не народзіцца герой
з тых, што жывуць халуйскім хлебам
і за яго ўзнімаюць бой.

Няроўная жыцця дарога...
Бядак, няўдачнік, тут і ён —
халуй! І ў ім жа з асцярогай
жыве маленечкі Нерон.

Шчаслівы — лірык.
Рыфмаў засень...
Але калі на мудры лад:
«Поэт ннсколько не опасен,
пока его не разозлят»[9].

[9] Радкі М. Рубцова.

## СЯБРАМ-ПАЭТАМ

…мы ігралі вам на жалейцы,
і вы не скакалі; мы спявалі вам
самотныя песні, і вы не рыдалі.
*Евангелле ад Матфея, р. 11, в. 18*

Сляза не блісне радасцю з-пад вейкі,
не свеціць нават таннай славы лаўр...
З нас кожны —
ад Купалавай жалейкі,
і кожны — як апошні дыназаўр.

І весялосць,
і боль радкоў — не лекі,
каму патрэбен слоў высокі сэнс?
Як дзіўна ведаць, на зыходзе веку
чаруе не Паэт, а экстрасенс.

А ў нашых душах і пажухлы верас
мог абудзіць такі натхнёны сказ!
Хаця, бывала... згубай дыхаў Эрас
і Бахус добрым сябрам быў не раз.

Ды ўжо і ў гэтым нас не папракаюць...
Няма каму ні слухаць, ні чытаць,
Толькі калісьці, можа, «раскапаюць»
і ў школах нават стануць вывучаць.

І так, як сонца рассявае блікі,
прасее нашу вартасць мудры час, —
хто ўдачлівы на момант, хто вялікі,
і гэта будзе ўжо, на жаль, без нас.
*1987*

* * *

Твая жанчына... Божа мой!
У мілых кудзерках галоўка.
Кранае шчырасцю сваей
і просіць быць яе сяброўкай.

Мне зразумелы гэты крок...
Яна згарае з прадчування
таго, што стала незнарок
прычынаю майго маўчання.
*1988*

* * *

Дыхнула хвояй з-за фіранак,
званцы лясныя стаўлю ў жбан...
Прысніцца колішні каханак,
і ведаю, — жыццё падман!

Я на яго даўно не ў крыўдзе,
што мне далёкае імя?
Але таму, хто сёння прыйдзе,
чамусьці веры ўжо няма.

Ні ў чым не ўмее мне пярэчыць.
Я прыняла б гэта цяпло, —
даводзіць штось, клянецца ў нечым...
Ды так калісьці ўжо было.
*1990*

* * *

Даўно ўжо звысоку гаворыць аб нечым,
а, помніцца, зваў недасяжнаю марай...
Знялюбленай бачыць мяне пры сустрэчы,
сваей безразважнасці стала ахвярай.

Не чую, як холад плыве з-за фіранак,
ва ўласнай кватэры жыву, бы ў атэлі...
І сніцца адно мне: няверны каханак
учора прапаў з-за мяне на дуэлі.

І радасна сэрцу яшчэ раз адкрыцца,
хоць чорнай жалобаю дыхае ранне:
мой бедны,
                    мой любы,
                                        адзіны мой рыцар,
усё апраўдала між намі... каханне!
*1990*

## ДЫХАННЕ ЗДРАДЫ

Вакол сябе зірну разгублена...
Дамы і дрэвы, што вы, што вы?
Яшчэ нічога ў нас не згублена,
парушце выгляд свой суровы!

Шапчу ледзь чутнае: «Да скорага..
і кожны слун мне зараз родны,
а горад, бы заняты ворагам, —
бязлюдны,
                    змрочны
                                        і халодны.

*1989*

* * *

Яшчэ не спушчана заслона.
Знаймай драмы пераплет...
А потым воплескі, паклоны,
змякчае ўсмешка ўладны рот.

Гульня, гульня...
Абліччаў змена.
З фартунай гульні, з пачуццём!
Якая ж гэта Мельпамена
так забаўляецца жыццём?

І ўсё ж зірні ў мой бок
хоць зрэдку,
туману мройнага нашлі...
Мне так шкада, што неўзаметку
гады Афеліі прайшлі.
*1990*

* * *

З ліпамі за кладамі
ясны прамень на «ты»!
Гэта анёл над намі
ці лёгенечкі матыль?

Голас дзяўчынкі русай
звонка ляціць праз луг...
Не знала і я, што спакуса,
як вераломны друг.

Што ў вечаровым ззянні,
чакае які спакой?
Штось назаўсйды звяне,
нешта ўзбуяе красой.

Боязна азірнуцца,
страшней паглядзець удаль.
З радасці мроі ткуцца,
з будзённасці тчэцца жаль.

Што гэта? Сэрцаў удары?
Ціха на грэшнай зямлі.
Знаеш, давай памарым...
Дзеці ў нас падраслі.

## У ГАСЦІННЫМ ДОМЕ

Бярэзнік за горкаю голы,
і луг не зарос асакой,
а вецер шумліва-вясёлы
так лёгка ўварваўся ў пакой.

У ім я імгненна адкрыла
зусім не зімовы настрой,
і нейкая дзіўная сіла
ужо завалодала мной...

І чуецца духу тамленне,
то ў холад укіне, то ў жар,
як хутка малюе ўяўленне
аддалены тыднямі твар.

Прыедзеш. Я знаю пра гэта,
а ў свеце стаць лёгка чужым,
Тут пройдзе шчаслівае лета
і што, невядома, за ім.
*1987*

* * *

Мы з Вамі ў леце тым былі сябрамі,
калі рыжэлі пашы ў пене вод;
яшчэ ўраджай з палеткаў не сабралі,
а гаварылі ўсе пра недарод...

Спакойная, які ўспамін адрыну?
Пячатка строгасці на ветраных губах.
Стаю,
                    нібыта ўплеўся ў куст язміну
з грады суседняй больш тонкі пах.
*1990*

* * *

*Майму земляку, пісьменніку*
*Георгію Марчуку прысвячаецца*

Хто з нас не ўспомніць пладаносны сад,
яшчэ рукой нічыйнай не кранутый,
і захапленне першай той мінуты,
кал і на дрэве спыніцца пагляд...

Якія сокі выспелілі плод?
Пытанне гэта нас і не трывожыць.
Мы бачым, ён даспелы ўжо і гожы,
яго мы рады бачыць з году ў год.

І творца так...
Хто ён у плыні дзён?
Пакутнік нелюдзімы ці гуляка?
Калі нам плён душы яго відзён,
схіляемся з павагай і падзякай.

Уласнае мы цешым пачуццё.
Не знаем, ён якіх быў поўны знакаў,
з чаго смжяўся і над чым ён плакаў...
Ёсць твор!
У ім усё яго жыццё.

*1990*

## ЛІСТАПАД

Тады там яблыні цвілі,
ды непатрэбным стаў садоўнік,
і немаведама калі
сад звёўся, — пусташ ды дзядоўнік.

Што за карысць глядзець назад,
калі душу кранае восень,
і ў новым садзе — лістапад,
а не вясновых высяў просінь!

Пад ветрам разляціцца ён...
Тут жоўты ліст, там цьмяна-рыжы,
бы кінуты да ног мільён,
што дзесь растрачаны ў Парыжы.
*1991*

* * *

Лета дыхала месяц грамамі,
слаўся горыччу мокры быльнёг,
і тады менавіта між намі
промень радасці тайнай пралёг.

Неба хмарнасцю змрочнаю днела.
Мне спрыялі маланак агні.
Бессаромна ўсе дні харашэла
на вачах у прымоўклай радні.

І ніхто ў тым не бачыў рахубы,
што глядзела на ўсё, як праз дым...
Падфарбоўвала сцятыя губы
і ўсміхалася думкам сваім.
*1990*

**ЛЮСТРА**

1
Стане ў пакоі
і ціха, і пуста,
скончыцца ўзняты пяшчотаю баль...
Як жа зірну асцярожна я ў люстра,
і ў ім адаб'ецца,
магчыма, мой жаль.

Навошта загадваць такое павінна?
Агеньчык на свечцы — крыло матылька,
і гэты пакойчык, бы ў ружах даліна,
і ўспыхвае жарам раптоўным шчака.

Як доўга маўчым у гаючым паўзмроку,
сукенка завеяй абкручвае стан,
мне цяжка паверыць,
што быў ты далёкім,
што нас раздзяляла адчужэння паркан.

Бы сонечны зайчык,
свавольны і шустры,
імгненне аслепіць дыханнем тваім...
І профілі нашы сустрэнуцца ў люстры,
І назаўсёды схаваюцца ў ім.

2
За што і хто папрок мне кіне?
Чужыя сцены пахнуць летам...
Прыходжу ў дом свой, — бачу іней
на жоўтых дошчачках паркету.

Мне страшна да яго дакрануцца.
Баюся, — здрадзіць раўнавага...

Між сцен чужых — мая адвага,
і як жа тут не паслізнуцца?!

3
Душы абуджанай парыў,

шчымлівай музыкі ўзнясенне...
І люстра бляск, як паўтарэнне,
прыкмет чароўнае пары.

Здаецца, выбліснуць вось-вось
з яго глыбіняў таямнічых
два ледзь прыкметныя аблічча:
май і дзіўнага кагось...

Міжволі адступлю назад,
а музыка памкнецца ў высі...
Усе бліжэй, выразней рысы —-
з паглядам стрэнецца пагляд.

Паўзмрок і валасоў рака
на плечы лягуць густа-густа...
І доўга будзе рвацца з люстра
агеньчык — крыльца матылька.
*1991*

## ВЕРШ ДА ДЗЯЦЕЙ

Дзень распачаўся раніцай вясёлай.
Хутчэй у двор — да сонца і да траў...
І там запросім да сябе анела,
Ён дзесьці тут і ўсё нам дараваў.

У свеце, поўным д'ябальскае сілы,
што сее ў душах чорны цень жуды,
ён расхіне над намі свае крылы
і ў час ліхі затуліць ад бяды.

І застанецца з намі ранак тожы,
птушыны грай і полымнасць рабін,
і ў сэрцы будзе ліцца голас Божы:
шануй бацькоў,
не ўкрадзь
і не забі!

*1987*

## ВОЛЯ

Пазбавіў сонца, голасу і высяў.
Прасіў, каб паслухмянаю была.
І злая доля сыкала: «Скарыся!
Каханага другая адняла».

Ды цвіў паблізу мройна луг стракаты,
там я ўшчувала доўга злую долю:
«Навошта горка раіш: плач ад страты,
не знаючы, што я займела волю...»
*1991*

**ЛІСТ,**
**НАШАПТАНЫ ДАЖДЖАМІ**

Тыдзень дажджоў. Гром заблытаўся ў вецці. Тысячы сказаў у слове адным... Пяшчотнае «Мой!» у раз'юшаным свеце, і ці сустрэнемся ў свеце тым?.. Дзе ні дамоў, ні слязлівага вока, якім пазірае праз шыбку ліхтар... Учора была непамерна далёкай, сёння — як лёсу ўдар!

Будзе адчужанасць, будзе знямога ад спрэчак, папрокаў, нудных размоў... Гэта пасля! А зараз так многа: «Мой!» — на працягласць дажджоў.

*1991*

## ФРАНЦУЗСКАЕ ТАНГА<br>Ў МЕТРО З НЯКЛЯЕВЫМ

Ужо на нас паставіў нехта крыж,
а Музам і не надта трэба рангаў...
Нам пазайздросціць мог бы сам Парыж,
так спраўна мы ў метро танцуем танга.

Заместа стрэл Амур бярэ ядро,
«да лямпачкі» даўно яго нам нораў,
хай замірае ўражана метро,
мы адтанцуем, далібог, няскора...

Сваю журбу аддай, Валодзя, мне,
а я табе сваей адважу трохі,
па мармуровай коціцца сцяне
слязінка ачмурэлае эпохі.

Якою прорвай нас адорыць час, —
варожыць лбе ці штось прарочыць Ванга.
Яшчэ нябесы не прымаюць нас
і на зямлю не адпускае танга.
*1987*

**СУМ НА**

Не ведаю ўсяго, што мела.
Не ведаю што зараз ёсць.
Нібы пялёсткі з ружы белай,
гады страсала маладосць.

Раптоўны жар… І ўсё няпроста…
Хвалюе дотык Ваш няўзнак,
а не пахвалішся ўжо ўзростам,
хоць і ўслаўляў яго Бальзак.
*1991*

## ГЛЯДЖУ Ў АКНО

На роўненька засланы ложак
упалі цені ад гардзін.
Ніхто таго змяніць не зможа,
у дэлым свеце — ты адзін!

Я ў нечым надта вінавата,
а ў чым, ужо не скажаш ты.
І гэты ложак стаў мне катам,
не дачакацца віднаты.

Дальбог, разрыў наш не здарэнне,
у кожным дні — свае дары...
І толькі снег, як паўтарэнне
прыкмет той згубнае пары.
*1991*

# Барбара Радзівіл

*Драматычная паэма ў дзвюх дзеях*

«1545 год. У чэрвені месяцы ў Пятроў пост памерла ў Вільні ў панядзелак каралева Эльжбета і пахавалі яе ля святога Станіслава ў капліцы Казіміра ў жніўні 24 дня. А пасля малады кароль, маючы слабасць да бялявых, пачаў мілаваць Барбару Радзівіл, якая была ўдавою Гаштольта, ваяводы троцкага, і жыла на той час пры сваёй маці і брату, падчашаму Мікалаю Юр'евічу Радзівілу. І кароль пачаў хадзіць да яе ноччу з палацу аж да дому яе і там у яе бываў часта».

З летапісу Рачынскага

## Дзейныя асобы

Барбара Радзівіл — удава ваяводы троцкага Гаштольда.
Жыгімонт II Аўгуст — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага.
Радзівіл Мікалай Руды — родны брат Барбары.
Радзівіл Мікалай Чорны — стрыечны брат Барбары.
Бона Сфорца — маці Жыгімонта II Аўгуста.
Дамінік — мастак.
Людвік Монці — сакратар Боны.
Станіслаў Давойна — лекар Жыгімонта II Аўгуста.
Соф'я — камедыянтка.
Ян Танчынскі — ваявода з акружэння Боны.
Падлетак — хлопчык з крыламі анёла.
Камердынер.
Пакаёўка Барбары.
Пакаёўка Боны.
Малады мешчанін.

## Дзея першая

Ужо некалькі гадоў палкае каханне звязвае Барбару Радзівіл і вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Жыгімонта II Аўгуста. Надыходзіць год 1547.

### Сцэна першая

Ліпень. Вільня. Невялікая зала, абабітая блакітным атласам. Ва ўсім — бляск, багацце. Ля агромністага палатна з пэндзлем — мастак Дамінік. На фоне цяжкой цёмна-сіняй шторы, вытрымліваючы паставу, застыў Радзівіл Мікалай Руды. Праз адчыненае акно на чорна-белыя квадраты бліскучага паркета падаюць сонечныя промні.

Мікалай Руды

Дзіўлюся, як жа хутка ты пранік
у таямніцы фарбаў, тонкіх тонаў...
Нядаўна чуў, шаноўны Дамінік,
што ўхвалены ты быў самою Бонай!

Дамінік (адрываецца ад палатна)

Там на палотнах ёсць рука мая,
таму хацеў бы верыць гэтай славе,
але майстроў не гэтакіх, як я,
даволі бачыў беласценны Вавель[10]!
(Зноў схіляецца да палатна.)

Мікалай Руды (мяняючы позу)

Майстры паўсюдна ёсць, але твой дар
тут, на Літве, ва ўсёй красе адкрыўся.
Што ж — радуйся!
Са славай парадніўся!
А слава...
(Задумаўся.)
Як жаночы вабны твар!

Дамінік (ажыўлена)

Прыцягвае... А як распаліць мары!
(Уздыхае.)
Мяне такая слава абміне!
Хачу пісаць партрэт...

Паўза.

---

[10] Крэмль у Кракаве, дзе жылі дынастыі польскіх каралёў

Сястры вашай Барбары,
а ёй чамусьці ўсё не да мяне!

У залу ўваходзіць Радзівіл Мікалай Чорны. Акідвае хуткім позіркам палатно. Пераводзіць позірк на Дамініка. Пасля на Ра-дзівіла Мікалая Рудога.

Мікалай Чорны

Зайздрошчу, брат!
Яўвесь жыццёвым друзам
аблытаны...
А ты надоўга знік,
лічы, ў абдымкі да прыгожых музаў!
(Да мастака.)
Як твае фарбы, мілы Дамінік?
(Падыходзіць бліжэй да палатна.
Разглядвае партрэт.)

Дамінік

Нішто... Нішто...
Хоць фарбы не з агню,
а на партрэце блікамі іграюць.
(Паспешліва збірае фарбы, пэндзлі,
складвае ў скрынку, якая стаіць тут жа.)

Мікалай Чорны

Заўважыў я...
І ўсё ж перапыню!
(Да Мікалая Рудога.)
Брат, ты не супраць?
Справы нас чакаюць!

Мікалай Руды

Вядома! А ты з дому ці з Двара?
Адкуль такая пільнасць,
скуль навіны?!
(З лёгкай усмешкай.)
Ці мо бяда якая, як гара,
і ўсе мы ратавацца тут павінны?!

Мікалай Чорны

Бяды няма. Якраз наадварот!

Дамінік раскланьваецца.

Дамінік (вельмі пачціва)

Размоў жадаю ў ласцы вам ды ў міры!

Мікалай Руды ўзмахвае рукой, як адмахваецца, маўляў, ідзі, ідзі... Мікалай Чорны на Даменіка ўвогуле не звяртае ніякай увагі. Дамінік выходзіць.

Мікалай Чорны

Табе вядомы тытул[11]...
(Вытрымлівае паўзу.)
На ўвесь род
сваім загадам Жыгімонт пашырыў!

Мікалай Руды (не можа схаваць радасці на твары)

Хадкевіч жа малодшы мне гразіў,
нібыта хутка трапім мы ў няміласць!
А тут...

Мікалай Чорны

Загад і... рымскія князі!

Мікалай Руды

Дзе добра ўгноена,
там добрая ўрадлівасць!
І Жыгімонт разлічвае на нас...
Пакуль у розных справах мы ў даверы.

Мікалай Чорны азіраецца.

Мікалай Чорны

Скажы, вушэй не маюць твае дзверы?
(Прыцішвае голас.)
Прыйшоў, здаецца, наш жаданы час!
А твой Хадкевіч знаў, пра што казаў,
і я таму нікольki б не здзівіўся,
каб ля Барбары Жыгімонт не віўся,
бы ўвесну вінаградная лаза!

Мікалай Руды

Барбара?..
Да чаго, скажы, яна?
Яны ўдваіх, дык проста глянуць люба!

Мікалай Чорны

А тут табе пад рэбры навіна!
У замку пахне ўжо законным шлюбам!

Паўза.

Ў заходнія сталіцы наш Лясота[12]

---

[11] У 1515 годзе адзін з прадстаўнікоў роду Радзівілаў Мікалай Мікалаевіч атрымаў тытул князя Рымскай імперыі. У 1518 годзе гэты тытул быў пацверджаны ў Вялікім княстве Літоўскім, а ў 1547-м пашыраны на ўвесь род загадам Жыгімонта Аўгуста.

для гэтага імчаў...
Заўваж, употай!
І кажуць, што не супраць бачыць Бона
прусачку Ганну Соф'ю[13] нарачонай.

Мікалай Руды (абурана. Вельмі ўражаны тым, што пачуў)
А Жыгімонт?! Ён выглядае хлюстам!

Мікалай Чорны (смяецца)
Ты пра яго сказаў ужо загуста!
Ён цягне час, захоплены Барбарай.
Скажы, на троне —
ці ж благая пара?!

Мікалай Руды
Але яна не думае пра трон!

Мікалай Чорны
Вось тут якраз падумаць мог бы ён,
З кім два гады так прагна дзеліць ложак...
Ды што казаць! Яму мы дапаможам.
(Думае.)
Барбары трэба знікнуць! Адцурацца!
Тады яе ён стане дабівацца.
З усёю апантанасцю, шалёна!
Глядзі, і блісне нам тады карона!

Мікалай Руды
Гаворыш, бы не ведаеш жанчыны.
Як знікнуць ёй,
калі няма прычыны!

Мікалай Чорны (узрываецца)
Прычыны?
(Катэгарычна.)
Шлюб! Дзеля яго Лясота
ганцом на захад быў пасланы ўпотай!

У залу ўваходзіць Барбара. Лёгкая і разам з тым грацыёзная. Яна паставай нагадвае маладзенькую дзяўчынку, а тварам — жанчыну, якой салодка быць менавіта жанчынай: спакушаць, абяцаць і... ляцець на каханне.

Барбара (здзіўлена і злёгку насмешліва. Да Чорнага)
О, Мікалай! А дзе ж заўсёдны крык?!
(Яшчэ больш насмешліва.)

---

[12] Віленскі шляхціц, які пасылаўся Жыгімонтам Аўгустам у сталіцы заходніх дзяржаў, каб той вёў перамовы наконт шлюбу.
[13] Дачка прускага князя Альбрэхта

Дзе ты, браток,— там гамана да столі...
Ты крыўдзішся? Не буду больш, даволі!
Мяне цікавіць толькі Дамінік.
(Азіраецца па баках, позіркам шукае
Дамініка.)

Мікалай Руды
Ён заўтра будзе. Тут такія справы...

Мікалай Чорны
Ты не цягні! Скажы пра ўсё як ёсць!
І выйсце знойдзем з гэтае праявы...
(Да Барбары.)
Я ў вашым доме, думаю, не госць?

Мікалай Руды
Вядома, свой!
Ты наш стрыечны брат
і на любую раду маеш права.

Мікалай Чорны (яму надакучылі неабавязковыя размовы)
Барбара, слухай, горкая ў нас справа,
усім вядома, хто твой амарат[14].

Барбара
І што з таго?

Мікалай Чорны
Даруй, магчыма, груба...
Ён цешыцца з табой, а думае аб шлюбе!
Нашчадак трэба! Узмацненне трона!
Ёсць чуткі, што вядзе перагаворы Бона.

Мікалай Руды (асцярожна)
Дый сам ён гэтым клопатам заняты.

Барбара (не можа паверыць)
Вы ў розуме сваім ці вы вар'яты?!
(З папрокам.)
Браты нібыта, а на справе рады
ўблытацца ў цянёты нейкай звады.

Мікалай Чорны (злосна)
Ты лічыш, звада? У пачуццях вера
не лепшае...
(З іроніяй.)
Спяшайся памыліцца!
Шлюб ладзіцца! Якраз з такім намерам

---

[14] Каханак

ганец быў у заходнія сталіцы,
і, можа, не адзін...

Паўза.

Сужыцелька! Мо не?!
Гаштольдава ўдава...
На шыі ў брата!
Ён нават і рукой не варухне,
як хтось цябе адважыцца пасватаць!
Яму ўсё роўна!
Сёння — ты, а там...

Барбара (з адчаем)
Спыніся! Яне веру! Што вам трэба?

Паўза.

А брату я ўсё братава аддам...

Мікалай Чорны (задаволена пасміхаецца)
Ага... Згасае прад вачыма неба!

Мікалай Руды (збянтэжана)
Нічога мне не трэба аддаваць.
Адмовіцца ад Жыгімонта варта!

Мікалай Чорны (да Рудога)
Гляджу, яе пачаў ты шкадаваць!
(Падыходзіць да Барбары.)
Не вер, не вер...
Стой на сваім упарта!

Барбара (гатова заплакаць)
Ідзіце прэч!

Мікалай Чорны (хутка пагаджаецца)
Мы пойдзем! Ты падумай.
Замнога навалілася адразу...

Мікалай Чорны і Мікалай Руды ідуць да дзвярэй.

Мікалай Руды (са шкадаваннем)
Усё пайшло такім раптоўным тлумам.

Мікалай Чорны (азіраецца. Да Барбары)
Пакінь яго! Мы прыйдзем за адказам.

Выходзяць. Барбара застаецца адна.

Паўза.

Барбара (на нейкі момант задумліва)
Паўстала зло...
і ў сэрцы рухнуў хорам.
Нянавісцю кіпець спрабуе кроў,
і розум слепне. Яву мела ўчора,

а сёння — сколкі недаснёных сноў!
Каханая...
(Голас затрапятаў.)
Ноч клікала да Бога.
Сужыцелька...

Паўза.

А дзесь імчыць ганец,
і ты не маеш права анікога
ў тым вінавацiць, стаўшы пад вянец
патайнага, няўтрымнага жадання...
Анёлы адслужылі ўсё сваё,
і вось прыйшла хвіліна пакарання —
у сэрца д'ябал цэліць вастрыё,
скляпанае з ілжы,
з інтрыг,
з атруты...
(Нечакана гнеўна.)
Прымі яго і д'яблу дай зарок!
І выслізні гадзюкаю з пакуты,
і джаль таго, каго мілуе зрок,
з кім зноў і зноў дзяліць свой
будзеш ложак,
джаль вуснамі, хай носіць, як апёк,
мой пах, мой дух,
што сцерці ўжо не зможа,
апёк — кляймо... У помсту ўжо! Знарок!
(Нібыта нешта ўяўляе.)
Бяжы насустрач, з горда ўзнятым тварам,
як сарна... не забыўшы аднаго:
пі ўдосталь, захлынайся згубным жарам
і здзекуйся са слабасці яго.
Хай пашквілюсы ўсе муры і вежы
аздобяць і на вочы трапяць Той,
што будзе да канца яму належаць,
працятая атрутнай віднатой:
ён быў маім!
Маім! І што карона?!
Нас звязвала бяздонне нашых губ:
п'еш — не нап'ешся...

Паўза.

Каралева Бона?!

Яму ці ёй патрэбен гэты шлюб?

У залу вяртаецца Радзівіл Мікалай Руды. Адзін. Барбара адыходзіць у глыб залы. Гавораць на адлегласці.

Мікалай Руды (знарок падкрэслена бадзёра)

Як вырашыла ты? Перажыла?
(Смяецца.)
У гэткай справе розум не залішні.
Што цвет раскошны колішні для вішні,
калі вясной нядаўняй не цвіла?!

Барбара (асцярожна)

Цябе не разумею. Толькі ўчора...

Мікалай Руды

Не дагаворвай! Аўгуст быў з табой!
У скрыні — падарункі,
кветак — мора...
Ты цешся, але Чорны за сцяной
мяне чакае...
Нам патрэбна згода.
(Рашуча.)
Ад Аўгуста адмоўся назаўжды!

Барбара

Якая ж вам ад гэтага выгода?
Пакуль ні ў чым не бачу я бяды.
Наадварот...

Мікалай Руды (узрываецца)

Табе да сэрца, бачу, насміханне?
У кожным горле — косткай Радзівілы.
Калі б маглі — ўзнялі б цябе на вілы!
На родзе скула — нам тваё каханне!

Барбара

Вы пачалі не з гэтага —
з ганцоў!
У розныя заходнія сталіцы...
Цяпер звязаць не можаце канцоў?!

Мікалай Руды (разводзіць рукамі)

Не бачыў свет яшчэ такой дурніцы!
Ды нават нейкі дробненькі шляхтун
за брамаю... ледзь выблісне заранка:14

«Паскудніца! Паганка! Выляжанка!»,
а хутка стане Аўгуст твой, што ўюн.
Май гонар! Ты сястра мне па крыві.

Барбара

Хм-м... З сястрою адпаведна і жыві...

Паўза.

Замысліў нешта Чорны...
Звадыяш!
Але калі ўжо церпіць гонар наш...

Мікалай Руды (радасна)

Ты згодна?!

Паўза.

Мо паедзь у Геранёны[15]?
Хай будзе Аўгуст цалкам адлучоны!

Барбара (як адрэзвае)

Мне добра тут! Ты зняў з душы вярыгі?

Мікалай Руды (падкрэслена лагодна)

А ты? Паўсюдна бачыш цень інтрыгі!

Трошкі марудзіць. Задаволена пасміхаецца. Выходзіць.

Паўза.

Барбара пачынае хадзіць з канца ў канец залы. Настрой мяняецца.

Барбара

Цяжкі дурман у галаве!
(З адчаем.)
Пачуццям як угаманіцца?
Ах, Аўгуст... Княжыць на Літве,
а трызніць аб чужых сталіцах.
(Гатова ўзарвацца.)
Які раптоўны інтарэс?
Чыё прывабіла аблічча?
Чый стан яго няўхільна кліча?
Пытанняў — непраходны лес!
Свой боль хачу расперазаць,
а ў сэрцы, чую, глухне вера...
(Амаль пяшчотна.)
Ужо ніколі не сказаць,
што я — рака,
а ён — мой бераг!
(З прыкрасцю.)

[15] Замак Гаштольда Станіслава, першага мужа Барбары, які памёр у 1542 годзе.15

Пярэварацень... Здань начы!
Было такім жаданым цела!
Начною птушкай на плячы
ад новых ласкаў так трымцела.

Паўза.

І што мог падказаць мне дзень?
Хавала здрада ўсе прыкметы.
Хай пасмяецца зараз цень
заўчасна згаслае Эльжбеты[16]!
(Нервовы смех, як плач.)
Эльжбета...
З Кракава... сюды!
Каранаваная, і тут жа...
Наложніца — сляды ў сляды,
больш даражэйшая для мужа.
А потым я... Ён гэта мог!
Самоту не ўтрымаць у скрутку.
Эльжбета, поўная трывог,
канала ля яго ад смутку.
(Думае, магчыма, нешта ўспамінае.)
Нібыта выеў вочы дым!
(З пачуццём раскайвання.)
Ён жа, вясёлы і ўлюбёны,
яшчэ жалобным днём сваім
імчаў да нас... у Геранёны!
(Спыняецца.)
Я— грэшніца! Бог не са мной,
адвернуты, Ён грэх не зніме...
І тыя двое... за сцяной
(выдыхае, як стогн)
не памыліліся.
Я— з імі!

### Сцэна другая

Плошча, на якую выходзіць дом з балконамі. На адным з балконаў жанчына трасе коўдры, адзенне. Унізе, ля дома, стары ганчар расстаўляе свае вырабы на продаж: збанкі, місы, гаршкі... Ужо з'явіўся пакупнік: малады мешчанін прыцэньваецца да збанка. Тут

[16] Эльжбета Аўстрыйская, першая жонка Жыгімонта Аўгуста, памерла ў 1545 годзе.

жа недалёка стаіць карэта. Ля адчыненых дзверцаў — Ра-дзівілы: Мікалай Руды і Мікалай Чорны.

Мікалай Чорны (азірае плошчу)

Адны трасуць на плошчы гэтай транты,
другія ладзяць гандаль свой штодня...

На плошчу выязджае фургон, абклеены каляровымі афішамі. Спыняецца. Гэта вандроўны тэатр.

Мікалай Руды (з цікавасцю)

А трэція, глядзі,— камедыянты,
для іх усё жыццё — адна гульня!

У фургоне — шум, жаночы смех. З'яўляюцца камедыянты. Яны выцягваюць з фургона скрыні і цюкі, а таксама дэкарацыі. Кідаецца ў вочы выразанае з фанеры дрэва з чырвонымі яблыкамі, пашыты з ануч Змей, што адразу наводзіць на знаёмы біблейскі сюжэт.

З фургона выскоквае маладзенькая дзяўчына. Гэта — камедыянтка Соф'я. Бліскучыя чорныя валасы, лёгкая, доўгая, з фальбонамі сукенка... У руках — невялікі бубен з бляшкамі. Соф'я пачынае біць у бубен, азіраючы плошчу. Звон бубна прываблівае яшчэ некалькі гледачоў. Плошча ажывае. Соф'я прытанцоўвае ў такт музыцы і, вырашыўшы, што гледачоў даволі, працягвае да іх рукі.

Соф'я (дэкламуе ўзнёсла, вельмі тэатральна)

Ледзь толькі ножкаю ступіла на зямлю,
пачула, як на ёй датла згараю...
І позіркам усім кажу: люблю!
І адказаць хутчэй вам тым жа раю!

Чуюцца адзінокія воплескі. Соф'я заўважае Радзівілаў. Позірк яе загараецца, твар успыхвае. Гучна стукнула ў бубен... Пачаўся танец. Адзін з камедыянтаў спрабуе падключыцца да яе, абдымае за стан. Соф'я адштурхоўвае яго. Танцуючы, спявае. Відно, што гэта імправізацыя.

Не хачу сягоння Яна,
бо чакаю кашталяна...
(Самазабыўна.)
О-йё-йё-й... О-йё-йё-й!
З роду княжага каханак
не ўзыходзіць на мой ганак!
О-йё-йё-й... О-йё-йё-й!
Ды аднойчы ў сенцах: бразь!
(Гучна б'е ў бубен.)
Да мяне нарэшце князь!
О-йё-йё-й... О-йё-йё-й!

Ён абняў мяне ўлюбёна
і... заблытаўся ў фальбонах!
О-йё-йё-й... О-йё-йё-й!
(З імпэтам трасе ножкай і фальбонамі.)

Малады мешчанін (атарапела, гучна)

Ажно ў руках пагасла самакрутка...
(Глядзіць на акурак.)
Як лётае, нібы ў паветры пёрка!
Была нядаўна — Соф'я-прастытутка,
а сёння, дайце веры мне, акцёрка!

Соф'я (паўтарае)

О-йё-йё-й... О-йё-йё-й!
Ды аднойчы ў сенцах: бразь!
Да мяне нарэшце князь!
О-йё-йё-й... О-йё-йё-й!
Ён абняў мяне ўлюбёна
і... заблытаўся ў фальбонах!
О-йё-йё-й... О-йё-йё-й!
(З яшчэ большым імпэтам трасе
ножкай і фальбонамі.)

Мікалай Чорны (з захапленнем)

Якія вочы, ножка... аж засоп я!
Якраз да часу сёння гэта Соф'я!

З фургона саскоквае падлетак у белым адзенні з крыламі анёла за спінаю. У руках трымае бліскучую скрынку. Соф'я раскланьваецца... Падлетак пачынае абыходзіць усіх прысутных на плошчы. Збірае грошы.

Мікалай Руды

Усё! Няма чаго глядзець,
здаецца, далей!

Мікалай Чорны (гучна да падлетка, вымаючы грошы)

Сюды хадзі! Вазьмі! Тут цэлы талер!

Падлетак хутка падыходзіць. Падстаўляе скрынку... Мікалай Чорны кідае ў яе талер.

(Падкрэслена ласкава.)
Скажы, анёлак, добра знаеш Вільню?

Падлетак (паспешліва)

Так, як сябе...

Мікалай Чорны

Вазьмі яшчэ і грыўню!
(Кідае грошы ў скрынку.)

Падлетак міжволі радасна прыціскае скрынку да грудзей.
Мікалай Руды (насмешліва)
Глядзі, каб з радасці ды не адпалі
крылы!
Мікалай Чорны (да падлетка)
Павінен ведаць ты, мы — Радзівілы!
Ёй перадай...
(Паказвае позіркам на Соф'ю.)
Хай прыйдзе... Ёсць нагода!
Запомні добра, калі будзе згода,
увечары, а восьмае гадзіне...
Падлетак (няўпэўнена)
Запозніцца...
Яна — ў другой карціне.
Мікалай Чорны (не зважаючы на яго словы)
Ёй, што пачуў, дакладна перакажаш
і дом патрэбны, калі што, пакажаш!
На плошчы з'яўляюцца ўсё новыя і новыя людзі. Зноў звініць бубен. Соф'я танцуе. Падлетак бяжыць праз плошчу да Соф'і. Мікалай Руды запытальна глядзіць на Мікалая Чорнага. Чорны разводзіць рукамі, маўляў, што зробіш...
Барбара — ўбок! Патрэбна ёй замена!
(З загадкавай усмешкай пазірае на Соф'ю.)
Камедыянтка... Прыйдзе несумненна!

**Сцэна трэцяя**

Замак вялікага князя ў Вільні. Адзін з пакояў замка. Адпаведная раскоша. Шмат прыгожых рэчаў. На сценах, абабітых парчою,— каштоўная зброя.
У крэсле ля століка сядзіць Жыгімонт II Аўгуст. У руках трымае разгорнуты ліст з пячаткай — карэспандэнцыю ад маці: польскай каралевы Боны Сфорца.
Жыгімонт Аўгуст (глуха, з незадаволенасцю)
Ліст за лістом...
То просьбы, то пагрозы!
Навошта, калі маю свой я розум?
(Прабягае вачамі по радках ліста.)
У маці, бачыш, прыкрыя навіны...
Яслухацца яе ва ўсім павінны!
Ах, Людвік Монці! Без яго напэўна
не абышлося...

Ён жа служыць верна!
Ва ўсім адну распусту бачыць Кракаў.
О як далася ім Барбара ў знакі!
(Устае. Згортвае ліст. Шпурляе
яго на столік. Са злосцю.)
Ну, хопіць!.. Начытаўся дастаткова.
(З іроніяй.)
Усцешыўся як след бацькоўскім словам.
(Пачынае хадзіць па пакоі. Спыняецца
на паўкроку. Твар святлее.)
Барбара...
Божа, адхілі замах
на ўсё, што ў сэрцы стала непарыўным.
Згубіць яе...
Цяпер падумаць страх!
Яўвесь агнём захоплены прызыўным.
Мне да начы дажыць хапіла б сілы,
на ёй самкнуліся і зрок, і слых...
У пакой уваходзіць камердынер.
Паўза.
Жыгімонт Аўгуст спрабуе саўладаць з пачуццямі.
Камердынер
Мой светлы князь, у замку Радзівілы!
(Глядзіць запытальна.)
Жыгімонт Аўгуст (саўладаўшы з сабой)
Не стой!
Скажы, што я чакаю іх!
Камердынер выходзіць.
Дачуліся, напэўна, пра загад...
(З пачуццём самазадаволенасці.)
Мая Барбара — рымская князёўна.
Як будзе пасміхацца мне чароўна!
(Весела.)
І не шкада жыцця ўжо за пагляд.
Уваходзяць Радзівілы. Схіляюцца ў лёгкім паклоне.
Мікалай Руды (падкрэслена суха)
Вітаем князя! Вечная хвала
яму і Богу...
Мікалай Чорны (на адным дыханні, з запалам)
Пільная патрэба
да князя нас сягоння прывяла!

Жыгімонт Аўгуст (па-сяброўску, лагодна)
Падумаць можна, выбухнула неба!
Як многа жару...
Мікалай Руды
Не дае маўчаць
нам болей крыўда за сястру Барбару!
Мікалай Чорны
Мо не з таго патрэбна нам пачаць,
ды тут пячэ...
(Прыціскае руку да сэрца.)
Жыгімонт Аўгуст (спрабуе жартаваць)
Шукаць патрэбна лекаў!
Мікалай Руды
А я ў сваю чаргу дадам яшчэ —
не заслужылі мы падобных здзекаў!
Адварочваецца да акна.
Паўза.
Жыгімонт Аўгуст (з трывогай)
Барбара... Крыўда...
І, нарэшце, здзекі!
Што за размова дзіўная здалёк?!
Спачатку думаў, у вас клопат нейкі,
і раптам чую, далібог, папрок?!
(З незадаволенасцю.)
У чым, скажыце? Не люблю загадак!
(Гатовы ўсхадзіцца і, каб не
распаляцца, пачынае перабіраць паперы
на стале. Адсоўвае далей ліст Боны.)
Як раздражняе гэты непарадак!
Мікалай Чорны
Здаецца,
ты ад праўды недалёка...
Паўза.
(Падбірае словы.)
Камусьці, бачыш, род наш вочы коле!
У справе гэткай змоўчаць мог бы лёкай,
а мы цярпець не хочам ганьбы болей.
Мікалай Руды
Ноч цёмная, ды некаму не спіцца.
Мы — тут, каб за Барбару заступіцца.
Ужо, лічы, ледзь не на кожнай плошчы

крычаць уголас пра яе любошчы!
І я нядобрым быў бы, пэўна ж, братам,
не ўзяўшы слова сёння з амарата...

Жыгімонт Аўгуст (усхвалявана)

О Божа, ваш прыход мне сном здаецца,
якое слова? Не магу даўмецца!

Мікалай Руды (працягвае на ўзятай ноце)

У спальню...
да Барбары, помніш дзверы?
Забудзь! Як і юрлівыя намеры.

Глядзіць запытальна на Жыгімонта Аўгуста. Мікалай Чорны стаў поруч з братам... Жыгімонт Аўгуст міжволі адступае да стала, на твары з'яўляецца незразумелая ўсмешка.

Жыгімонт Аўгуст

А тут павінна вырашыць яна...
Дый да размоў такіх я неахвочы!
(Адварочваецца.)

Мікалай Чорны

Ага... куды схаваць не знаеш вочы!
Як ноч, дык разам,
а як дзень, адна!
Барбара — ў брудзе... Сэрца точыць боль!
Сужыцелька — яна, а ты — анёл
бязгрэшны...
(З горыччу .)
А як верна мы служылі!

Мікалай Руды

Аддана як ахоўвалі твой трон!
Успомні, на Масковію хадзілі...
Мячы ў крыві і вояў енк і стогн.
І ўсё дзеля тваёй бліскучай славы,
ды як інакш? Сыны сваёй дзяржавы
ёй веліч здабывалі і... табе!

Мікалай Чорны

А вынік? Кіпцюрамі боль скрабе.
Барбара зганьбавана, небарака!
Ці ж гэткая
чакала нас падзяка?!

Жыгімонт Аўгуст (рэзка)

Ну хопіць вам! Не бачу ганьбавання.
Барбара пад крылом майго кахання.

Яе абеража мая пяшчота...

Мікалай Чорны (з'едліва)

О-о, так... ды для чаго ж тады Лясота
з Літвы за межы тайна быў пасланы?!.

Жыгімонт Аўгуст (здзіўлена)

Вось як?
Папрок зусім неспадзяваны...
(Задумваецца.)

Мікалай Руды

Ты не адказвай, але дай нам слова,
каб не было гульні больш адмысловай.

Жыгімонт Аўгуст (задумліва)

Лясота пасылаўся... не таю.
Ды зараз не аб тым ужо гаворка.
Я слодыч піў, і раптам стала горка...
(Нечакана цвёрда.)
Вам слова трэба? Што ж, яго даю!

Паўза.

Мікалай Руды (нібыта нават зніякавела)

Мы змушаны былі, нас змусіў доўг
і перад родам, і перад Барбарай,
яна жыве ў сваіх салодкіх марах,
і акром нас хто б іх развеяць мог?

Жыгімонт Аўгуст

Я слова даў? Бог бачыць, не маню!

Мікалай Чорны

О так...
Яно мілей нам ад брыльянтаў...
(Між іншым.)
А ў Вільні цесна ад камедыянтаў,
і сярод іх адна — уся з агню!
І думаеш, ці конны ты, ці пешы
ляціш на хараство...

Мікалай Руды (ахвотна працягвае)

Яно — палон...
А тая, што з агню, дальбог, пацешыць.
(Запытальна глядзіць на Жыгімонта
Аўгуста.)
Мо й ты прыйсці не супраць на агонь?

Мікалай Чорны

Увечары... а восьмае... як калісь,—

танюткі стан,
чароўны твар і голас.
(Загадкава пасміхаецца.)
Мікалай Руды (з падкрэсленай пачцівасцю)
Чакаем сёння ў бляску ды ў гуморы
і ўцехаў абяцаем табе мора.
Радзівілы, не чакаючы адказу, раскланьваюцца і выходзяць.
Жыгімонт Аўгуст кідаецца да стала, з ярасцю рве пісьмо, якое атрымаў ад маці.
Жыгімонт Аўгуст (на адным дыханні)
Хай прахам пойдзе ўсё,
найперш турбота
бацькоўская... І трон мой, і Лясота!
Падумаць можна, наглытаўся ўгару,
о Божа, памажы забыць Барбару!
(З адчаем.)
Забыцца! Як? Упасці трэба ў шал,
з агню ў агонь,
вар'ятам у вар'яцтва,
каб раздзіраў душу нязнаны пал...
Каханне? Прэч! Лепш з д'яблам у сваяцтва
ўступіць...
(Спыняецца. Закрывае твар рукамі.)
Яслова даў... За што ж такая кара?!
Лясота!.. Пэўна ж ведае Барбара
ўсё пра яго...
Я— здраднік! Я— забойца
таго, што звязваць нас магло бясконца!
Якія ночы!.. Цела... вуснаў водар...
Паўза.
(Апускае рукі. І раптам страпянуўся.)
Ага-а... Успомніў! Сёння ёсць нагода.
Спакуса толькі б сэрца акрыліла!
(І ўжо зусім цвяроза.)
Вядома ж, буду сёння ў Радзівілаў!

**Сцэна чацвёртая**

Ружовы пакой у замку вялікага князя ў Вільні. Алькоў, зацягнуты карункавай фіранкай з кутасамі. На падлозе — ружовы пушысты дыван. На ім раскіданы жаночая сукенка з фальбонамі і іншыя больш інтымныя рэчы, без якіх не абысціся жанчыне.

Карункавая фіранка адсоўваецца. Паказваецца заспаны тварык камедыянткі Соф'і.

Соф'я (пяшчотна)

Ау-у, мой князь!.. Ояк салодка спіцца!

Адшморгвае фіранку. Саскоквае з ложка. Пацягваецца. Праз тонкую тканіну начнога ўбору прасвечваецца гнуткае цела.

Наяве ўсё, ці гэта толькі сніцца?
Які пакой, на мне якія ўборы!
(Цяжка ўздыхае.)
Вось толькі ў князя не салодкі нораў.
І баль мне абяцаў, і паляванне
і вось знікае ўжо другое ранне.
Стаў ноччу раўнадушным да пяшчоты,
яшчэ дзень, два...
І ссохну з адзіноты!
(Зноў пацягваецца. Падае на ложак.)
Ні князя, ні слугі...
І дзе сняданак?
Адно, салодка спіцца між фіранак.
Пасплю яшчэ. Патрэбна ўзбіць падушку
во так... во так,
каб мякка стала вушку.
(Узбівае падушку і знаходзіць пад ёй
згорнуты аркуш паперы. Бярэ яго.
Здзіўлена.)
Няйначай мне? Было як здагадацца,
што нехта гэтак стане заляцацца!
(Радасна.)
Напэўна, тоіць тайнае пасланне
нястрымнае гарачае прызнанне!
А што ж яшчэ?
(Разгортвае аркуш.)

У пакой уваходзіць Жыгімонт Аўгуст. Соф'я не заўважае яго. Прабягае вачамі па радках. Ускрыквае.

Ды тут перасцярога!
Мой князь наложніц меў занадта многа.
Мяне пакінуць можа ён брухатай,
як тую, што сядзіць на шыі брата!

Жыгімонт Аўгуст (крычыць)

Адкуль гэта ў цябе? Аддай сюды!
(Падбягае да Соф'і, вырывае з яе рук

паперу, чытае і павольна камечыць аркуш.)
Зноў пашквілюс! І гэтак два гады...
Цяпер я разумею Радзівілаў!
Сцярпець такое я і сам не ў сілах!
(Задумваецца.)
Соф'я (нічога не разумеючы)
А хто яна, што так цябе трывожыць?
(Чароўна пасміхаецца.)
Забудзь! Хадзі сюды хутчэй... на ложак!
Паўза.
Жыгімонт Аўгуст увесь у сваіх думках.
(Соф'я саскоквае з ложка. Хоча абняць яго.)
Мой слаўны князь, прыгожы мой, жаданы,
скажы, што мне ты ўсё яшчэ аддадзены?
(Лашчыцца да яго.)
Жыгімонт Аўгуст (груба адштурхоўвае Соф'ю)
Ідзі адсюль... і як хутчэй!.. Даволі!
Вяртайся да ранейшай нейкай ролі.
Там твой фургон...
Соф'я пакрыўджана адварочваецца. Трошкі марудзіць... І пачынае апранацца, збіраючы з падлогі свае рэчы.
(Заціскае скамечаны аркуш у кулаку.
На Соф'ю не звяртае ніякай увагі.)
Ці праўда, ці абраза?
Брухатая?! Як многа злосці ў сказах!
Соф'я апранулася. Падышла да алькова. Уважліва разглядвае карункавую фіранку на ім, нібыта ўпершыню бачыць яе.
Соф'я (ціха)
Якія ўзоры?! Бы спляценне гронак...
Жыгімонт Аўгуст (крычыць)
Сказаў я — прэч!
Соф'я нейкае імгненне глядзіць на Жыгімонта Аўгуста і павольна ідзе да дзвярэй. Жыгімонт Аўгуст паспешліва здымае пярсцёнак з пальца...
Чакай, вазьмі пярсцёнак!
(Ловіць руку Соф'і, хоча аддаць яго.)
Пярсцёнак падае на падлогу. Соф'я, не азірнуўшыся, выходзіць. Жыгімонт Аўгуст задумліва паўтарае, бы й не было Соф'і.
Брухатая?! Ці праўда, ці абраза?
(На твары адчай і разгубленасць.)
Звярнуцца да каго мне за адказам?!

О сэрца! Як суняць цяжкія ўдары!
Чаго ж я тут?
Мне трэба да Барбары!
(Імкліва выходзіць.)

## Сцэна пятая

Спальня Барбары ў доме брата — Радзівіла Мікалая Рудога. Яна нечым нагадвае спальню Жыгімонта Аўгуста. Тыя ж ружовыя колеры, амаль той жа алькоў з карункавымі фіранкамі. Вечар. Багатае ўбранне спальні патанае ў паўзмроку.
Мікалай Руды запальвае свечкі ў цяжкіх падсвечніках.
Барбара з адсутным выглядам сядзіць у крэсле.
Мікалай Чорны праходжваецца з кутка ў куток...
У яго рухах адчуваецца нервовасць.
Мікалай Руды
З дзяцінства не люблю сядзець у змроку,
у сэрцы цені нараджалі страх...
То чуўся нейкі шэпт, то раптам крокі,
то шамаценне лёгкіх апранах!
Мікалай Чорны (спыняецца)
Не для таго прыйшоў я, каб пачуць,
што чулася калісь табе ў дзяцінстве...
Барбару словам нельга ўжо крануць,
дык як жа думкі будуць у адзінстве?!
Барбара
Ты, можа, хочаш, каб я разам з вамі
свой жар тушыла ўласнымі рукамі
пры дапамозе пашквілюсаў гнюсных?!
Цяпер маўчаць не будуць болей вусны!
Ты ўжо казаў, што я на шыі ў брата,
а зараз бачыш ты мяне брухатай?!
(Імкліва ўстае, вымае з невялікай
прыгожай скрыначкі, што стаіць на
століку, згорнуты аркуш паперы...)
Такі ж самы знайшла пад падушкай у спальні Жыгімонта Аўгуста камедыянтка Соф'я.
(Гнеўна.)
Вось пашквілюс! Упэўнена, што вы
абодва ў гэтым вінны нейкім чынам,
каб любы мне і ўжо не мой мужчына
згадаў, што мае на мяне правы.

Кахаў мяне, і вось ён... плод кахання!
(Нервова смяецца.)
А ў нас, дарэчы, не было расстання...

Мікалай Чорны (выходзіць з сябе)
Каханне ваша — цьфу!
Нам трэба ўлада!
І плод кахання — добрая прынада!

Барбара
Вар'яты!.. Божа! Праўда, вы —
вар'яты!
Якой інтрыгай дзікаю заняты!
Паддаўшыся, сама я ўсё руйную
і разам з тым гару ўся і раўную.
(Садзіцца ў крэсла.
Плечы ўздрыгваюць. Плача.)

Мікалай Руды (ніяк не можа запаліць апошнюю свечку)
Тут зараз Мікалай сказаў пра ўладу...
Чакаем міласці з чужых уладных рук,
хоць не скажу...
Ёсць права ў нас на Раду[17],
ды наша слова ў ёй староннi гук.
Мы на зямлі сваёй жывём сынамі,
і як сыны стаім мы за яе,
ды вершыць хтосьці зверху
суд над намі,
улада — ўсё!
Яе нам не стае.

Мікалай Чорны
Наўкола — зайздрасць!
А чаму зайздросціць?

Мікалай Руды
Заможнасць наша змучвае кагосьці.

Мікалай Чорны
Любыя скарбы без улады — тло!

Барбара (усхліпвае)
Так горка мне ніколі не было!

Мікалай Чорны

---

[17] Вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім. У Раду ўваходзілі вышэйшыя службовыя асобы дзяржавы.

Мы пра Літву і пра сваю ў ёй пэўнасць,
яна ж — рыдае...
Душыць яе рэўнасць!

Барбара

Адзінае, што ў сэрцы горкім ёсць,—
мае пачуцці...
Можна насміхацца,
ды ўзяць сваё жадае маладосць,
і як, скажыце, ад сябе схавацца?

Мікалай Чорны (зларадна)

Ды нешта ж амарат твой не імчыць...
Акцёрка ў замку, чутка ёсць, начуе.
(Да Мікалая Рудога.)
Пайшлі адсюль!
Пра што з ёй гаварыць!
Яна даўно разумных слоў не чуе.

Радзівілы выходзяць.

Барбара ўстае з крэсла.

Барбара (зніякавела, шэптам)

Акцёрка?.. Скуль?..
Па Вільні ходзіць чутка?
Другі ўжо тыдзень, як яго не бачу.
Душа гарыць, і сэрца б'ецца пудка,
а радасць саступіла месца плачу.

Паўза.

Шлюб ладзіцца... Паверыла братам?
(Падыходзіць да акна.)

Паўза.

Як хутка ноч!
Міргае цьмяна зорка.
Сон — у мурах, і толькі недзе там,
у замку... цешыць шал яго акцёрка.

Чуецца асцярожны стук у акно. Яшчэ адзін і яшчэ...

Барбара ўздрыгвае.

Хто тут?
(Узіраецца ў цемру.)
Пачуе стражнік ля варот...
(І вельмі радасна, проста
захлынаючыся радасцю.)
Чакай... Адну хвіліну... Жыгімонт!
(Расчыняе акно.)

Жыгімонт Аўгуст ускоквае ў спальню. Прыпадае да рук Барбары... Палка цалуе іх.

Жыгімонт Аўгуст (з жарам, словы блытаюцца)

Ты!.. Ты!.. Мне даравала неба
яшчэ адно імгненне... Вось ён, міг!
А без цябе, як высахлая глеба,
я гіну... Ды нарэшце мы — ўдваіх!
Дай вусны мне...
(Цалуе Барбару, шэпча.)
Хай голас твой вясёлы
развее дзён нікчэмных каламуць
і ля ўзгалоўя нашага анёлы
на лютнях хай іграюць і пяюць.
Ты побач...
кожнай рыскаю і ўздыхам,
хутчэй мой жар сабою наталі...

Барбара (трапятліва)

Жаданы... я з табою...
(Прыслухоўваецца.)
Але ціха...
Хтось за дзвярыма... там...
(Глядзіць на дзверы, пасля на акно.)
Ці птушаня ў галлі?

Жыгімонт Аўгуст (не зважае на словы)

Мая!.. Мая!..
(Абдымае Барбару, утрапёна цалуе
твар, шыю.)
Ніхто адняць не зможа!

Дзверы з грукатам расчыняюцца. Імкліва ўваходзяць Радзівілы. У руках — мячы. На тварах — тая няўтрымная рашучасць, калі чалавек здольны на ўсё. Барбара міжволі туліцца да Жыгімонта Аўгуста. Жыгімонт Аўгуст глядзіць з цікавасцю.

Мікалай Чорны (у вялікім узрушэнні)

Што бачу я?
(Да Мікалая Рудога.)
Ты, Мікалай, пазнаў
начнога госця?

Барбара (шэпча)

Робіцца што, Божа!

Мікалай Руды (да Барбары)

Нядаўна Жыгімонт нам слова даў...

Мікалай Чорны (паспешліва, таксама да Барбары)
Што спыніць ён юрлівыя намеры
і ў спальню да цябе забудзе дзверы!
(Стукае мячом. Як непрытомны круціць галавою, маўляў, пераступіў парог, не стрымаў слова. Набліжаецца
да Жыгімонта Аўгуста і Барбары. Спыняецца.)
Паўза.
Момант у нечым парадыйны.
Жыгімонт Аўгуст
Вы ашалелі... Без яе мне цяжка.
(Прыціскае Барбару да сябе.)
Ядля яе — не госць, а абарона...
Мікалай Чорны (гнеўна)
Магчыма, ды з вялікаю нацяжкай!
Ты зноў прыйшоў,
каб наш запляміць гонар?
Жыгімонт Аўгуст
Дарэмна гэтак... Хопіць вам шумець!
Вы будзеце, дальбог, нямала мець...
Мікалай Руды падыходзіць да брата. Абодва напружана слухаюць.
Уладу, славу...
Мікалай Руды (змрочна)
Гэта зноў падман!
Жыгімонт Аўгуст (не зважаючы на яго)
Наўкола шляхта будзе віцца роем...
Мікалай Чорны адштурхоўвае брата. Выступае наперад.
Мікалай Чорны
О Божа міласэрны, дай нам тое!
(Крычыць.)
Плябан!.. Хутчэй сюды, плябан!..
Усе глядзяць на дзверы. З’яўляецца плябан. Ён нясе шлюбныя вянцы. Падаюць на падлогу мячы. Мікалай Чорны падбягае да плябана, забірае вянцы. Адзін аддае Мікалаю Рудому. Ідуць да Жыгімонта Аўгуста і Барбары. Плябан пачынае рыхтавацца да шлюбнага абраду. Мікалай Чорны ўзнімае вянец над галавою Жыгімонта Аўгуста. Над галавою Барбары вянец трымае Мікалай Руды.
Мікалай Руды (да Жыгімонта Аўгуста)
Калі сваёй Барбару лічыш любай,
дык любасць замацуй законным шлюбам!
Жыгімонт Аўгуст маўчыць.
Паўза.

Мікалай Чорны (усхвалявана, таксама да
Жыгімонта Аўгуста)
Скажы, як разумець тваё маўчанне?!
Жыгімонт Аўгуст маўчыць.
Паўза.
Мікалай Руды (з радаснай упэўненасцю)
Як згоду, несумненна, на вянчанне!
Жыгімонт Аўгуст моцна сціскае руку Барбары. Ён згодны.
Заслона

## Дзея другая

1548 год. Замак Радзівіла Мікалая Рудога ў Дубінках, недалёка ад Вільні. З восені 1547 года тут жыве Барбара. Так схацеў Жыгімонт II Аўгуст. Сам ён — то ў Кракаве, то ў Вільні... У Дубінкі ганцы прыносяць пісьмы, поўныя гарачай пяшчоты. Жыгімонт II Аўгуст спрабуе падрыхтаваць спрыяльную глебу, каб можна было афіцыйна аб'явіць, што ён узяў шлюб з Барбарай Радзівіл, але ўсе яго спробы натыкаюцца на нянавісць да Радзівілаў.

### Сцэна шостая

Другі тыдзень красавіка. Аранжарэя. Праз шкляны дах льецца яркае красавіцкае сонца. Каб не гэты дах, можна было б падумаць, што позірк выхапіў куток райскага саду.
Лёгкае крэсла на адкрытай пляцоўцы. Ля яго — Барбара ў задуменнай позе. За некалькі крокаў ад яе — мастак Дамінік. Ён піша партрэт Барбары.
З-за пышных пляндаў дзівосных раслін выходзіць Станіслаў Давойна — давераная асоба Жыгімонта II Аўгуста, яго асабісты лекар. Ён апякуе Барбару.
Давойна (да Дамініка)
Не памылюся, пэўна, гэта пяты
партрэт Барбары?
Дзіўнае натхненне!
(У голасе чуецца непрыхаваная рэўнасць.)
Ядумаў, ты маўчун дзівакаваты,
а тут такое раптам азарэнне!
Як твар змяніўся, рыхтык бы ў анёла!
(З усіх бакоў разглядвае партрэт.)
А вось Барбара тут глядзіцца кволай.
Дамінік (усмешліва)
Вам не даруюць гэтых слоў нябёсы.

Зямля цяплом наўкола набрыняла.
Яранкам слухаў, як смяюцца росы.
(Паварочваецца да Барбары. Вельмі лагодна.)
Барбара смех той у сябе ўвабрала.
Цяпер яна як сонца залатое...

Барбара (смяецца)
Вакол сябе раскідваю праменне!

Давойна (глуха)
Гляджу, вы тут здзяцінелі абое!

Дамінік (уздыхае)
А вы дарэмна спудзілі натхненне.

Давойна (раздражнёна)
Як гаварыць мне з гэтым чалавекам?

Барбара (паціскае плячамі. Насмешліва)
Не ведаю...
Не я, а ты ў нас лекар!

Дамінік пачынае збіраць у скрынку фарбы. Зірнуў на партрэт, пасля на Барбару.

Дамінік
Пісаў, як дазваляла мне майстэрства.

Давойна (хоча, каб Дамінік хутчэй пайшоў)
Ах, супакойся, ёсць жа падабенства!
Хоць радасці няма на гожым твары,
але відно, што гэта твар Барбары.

Барбара (успыхвае)
Скуль будзе радасць? Зноў ганца няма!
Мне з восені Дубінкі, што турма.

Давойна (назірае за Дамінікам, калі ж той пойдзе)
Дамінік марудзіць.
Цішэй, цішэй... вясна цвіце наўкола!
Сум быў, калі была прырода голай.

Барбара (з горыччу)
Няўдалы лёс!.. Блазнуе, што паяц...
У пострыг мо?
(Запытальна глядзіць на Давойну.)

Давойна (ухіляецца ад адказу, бы й не чуе слоў
Барбары. Паказвае на дах аранжарэі)
Глядзі, як шкло іскрыцца!

Барбара (з іроніяй)
Отак... Жыццё, бы казачны палац,
дзе здань на час прыкінулася прынцам.

Дамінік (гучна стукае вечкам скрынкі, у якую
складваў фарбы)
Ісці павінен я...
(Закахана глядзіць на Барбару. З сумам.)
Не прынц...
Не прынц, на жаль!
Барбара (няўпэўнена)
Пабудзь...
Трывожна стала сэрцу раптам.
Паўза.
(Да Давойны.)
А можа, нам наладзіць сёння баль?
Суседзі ёсць,
хоць дробная, ды шляхта!
Давойна
То баль, то ў пострыг...
Гэта несур'ёзна!
Суседзі ёсць, ды запрашаць іх позна!
Каб загадзя...
Дамінік (задумліва)
Баль быць павінен пы-ышным!
Пайду...
Ятут ужо, напэўна, лішні.
Выходзіць.
Давойна (з палёгкай)
Нарэшце знік...
Бадзяецца без справы,
а колькі ганарлівасці на твары!
Ну яшчэ быў бы, скажам, багамаз!
Здаецца, з год ужо, як ён у вас?
Барбара (з адчаем)
Пра што пытанне?
Каб жа Дамінік
мяне на сёння мучыў і трывожыў!
Дзе Жыгімонт? За столькі дзён адвык,
мяне не ўспамінае нават, можа?
Начы адрозніць не магу ад ранку,
ёсць чуткі, што займеў сабе каханку.
Ад гэтых чутак пухне галава!
Давойна (падыходзіць да Барбары, бярэ яе за локаць. Лёгенька штурхае)

Глядзі, гатовы распусціцца ружы...
Барбара (не звяртае ўвагі на яго словы, хоча выгаварыцца)
Пляліся плёткі, дык была ўдава!
А зараз жонка? Пры адсутным мужы?
Хіба ж прызнае хто, што я за ім?!
Кароль Стары?
(Думае.)
Скажыце тое Боне!
Нявестка, хм-м-м? Што коле вочы ўсім!
І раптам поруч з сынам іх на троне.
Таго не будзе!..
Давойна лёгенька абдымае Барбару. Яна не адштурхоўвае яго. Павольна ідуць у глыб аранжарэі.
Стануць, як сцяна!
Маўляў, забудзь!.. Не вартая яна!..
Яведаю, на ўсё,
што можна, пойдуць!
Скасуюць...
За мяжой нявестку знойдуць!
Хаваюцца за раслінамі. Гучаць толькі галасы.
Любому стануць кланяцца Двару...
Толькі б не я!
Давойна
Барбара, я — гару...
Згараю ўвесь!.. Спакою, сну няма!
Ёсць толькі ты!
Твой твар!
Тваё імя!
Паўза.
Не бачу свету... Колькі ж можна гэтак!
Пагасла сонца,
зніклі пахі кветак!
Калі не сёння... зараз... дык ніколі!
Хутчэй вярні душу маю з няволі.
Барбара
Не здзекуйся!
Давойна (усхвалявана)
З каго? Наадварот!
Паўза.
(Адрывістым шэптам.)
Язмучыўся... І ты... Таксама... Ты...

Усё зацьміла бляскам пекнаты...

Паўза.

Барбара

А мы адны?

Давойна

Адны!

Барбара (вельмі ціха, без усялякай інтанацыі)

А Жыгімонт...

Доўгая паўза.

У другім баку аранжарэі чуецца гучны ўсхваляваны голас Радзівіла Мікалая Рудога.

Мікалай Руды

Ба-арба-ара! Божа!
Дзе яны? Дзе ўсе?!
(Выбягае на адкрытую пляцоўку.)
Бы ў ліхаманцы ўсё нутро трасе!
(Азіраецца наўкола. Спыняецца, глядзіць
на незавершаны партрэт.)
Дзе Дамінік?!
Не бачу Станіслава...
Усё ў адно — і радасць, і навала!

З'яўляецца Барбара.

Барбара (стрымана)

Шукаў мяне?
(Збірае ў пучок раскіданыя па плячах
валасы.)

Мікалай Руды (на адным дыханні)

Тваёй турме канец!
Ад Жыгімонта...
З Вільні быў ганец!

З-за раслін выходзіць Давойна.

Не можам мы аслухацца загаду,
у Вільні трэба быць нам без адкладу!
(Глядзіць на Давойну.)
Астатняе дадумаеш сама...
(Хутка, адрывіста.)
Стары кароль памёр... Няма яго!.. Няма!
Збірайся... Заўтра...

Давойна (вельмі ўражаны)

Хто б падумаць мог?

Барбара (думае аб нечым сваім, удакладняе)

Усе?
Мікалай Руды
Усе! І... памагай нам Бог!
(Пакідае аранжарэю.)
Барбара горда ўзняла галаву, ідзе следам за ім. Давойна застаецца адзін.

**Сцэна сёмая**

Чуецца жалобны звон званоў на званіцах цэркваў і касцёлаў. 17 красавіка 1548 года. Вільня. Тронная зала ў замку вялікага князя Вялікага княства Літоўскага. Тут усё гаворыць аб жалобе, якую перажывае княства. 1 красавіка 1548 года памёр Жыгімонт І Стары, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы.
Сцены залы абцягнуты чорным крэпам. Цьмяна гараць свечкі. Князі, шматлікія саноўнікі тоўпяцца ля трона. Адасоблена ад усіх стаяць Радзівілы: Мікалай Руды і Мікалай Чорны.
Мікалай Руды (не без пагарды)
Сабраліся!.. Набеглі, што гайня.
Мікалай Чорны
Ды тут усе яны, лічы, штодня!
Калі не прыйдзеш, круцяцца вужамі!
Мікалай Руды
І нешта ж асцярожна надта з намі
вядуць размовы сёння пра прастол...
Мікалай Чорны
Яшчэ б...
Цяпер адзін у нас кароль!
Няміласці для нас з іх кожны хоча,
ды не!..
(Смяецца.)
Першы голас (гучна)
Каму казыча д'ябал там вантробы?
Другі голас (з выклікам)
Ім можна ўсё!
Трэці голас (з непаразуменнем)
Смяюцца ў дзень жалобы!
Мікалай Руды
Пачулі... І адразу ж лямантуюць!
Мікалай Чорны
Цішэй...
Маўчы.

З усіх бакоў цікуюць.

Звоняць званы на гарадскіх званіцах. Дзверы насупраць трона расчыняюцца. З'яўляецца камердынер.

Камердынер (гучна і ўрачыста)

Яго вялікасць каралевіч, вялікі князь
Вялікага княства Літоўскага
Жыгімонт II Аўгуст!

У залу ўваходзіць Жыгімонт Аўгуст.

Камердынер выходзіць.

Мікалай Руды (з хваляваннем)

Усё... Нарэшце праясніцца... Зараз!

Голас (гучны шэпт)

У Вільні?! Хто?
Хутчэй кажы... Барба-ара?!

Жыгімонт Аўгуст падыходзіць да трона. Садзіцца. Абводзіць позіркам усіх прысутных. Спыняе яго на Радзівілах.

Жыгімонт Аўгуст (суха, адрывіста)

Душа баліць...
Ва ўсім — няўцешны боль.
Мяне пакінуў бацька,
вас — кароль!
(Пераводзіць позірк на залу.)
Вядома вам, што ў Кракаве знянацку
прастол асірацеў...

Голас (ціхі шэпт)

Як суха ён пра бацьку!

Жыгімонт Аўгуст (хутка паварочваецца на голас)

Магчыма,
ды без слоўнае аздобы
даводжу вам у дзень сваёй жалобы,
што заўтра, патрабуюць надта справы,
у Кракаў еду... Зачакаўся Вавель!

Усе ўважліва слухаюць. Чуецца, як зноў звоняць званы на званіцах. Дзверы насупраць трона расчыняюцца. Уваходзіць камердынер. Хутка ідзе да трона, штосьці шэпча Жыгімонту Аўгусту...

Мікалай Чорны (да Рудога)

Ты застаешся ў Вільні?

Мікалай Руды

Несумненна!
(Паказвае на князёў і саноўнікаў,
што стаяць ля трона.)

Глядзі... камусьці стане зараз дрэнна!
Камердынер выходзіць.
Паўза.
Жыгімонт Аўгуст (мякка, запаволена)
Хай застаецца ўсё тут, як пры мне!
Нікога мая ласка не міне.
Ніколі не скупіўся на шчадроты,
цяпер уважце вы мае турботы...
Устае з трона, ідзе да дзвярэй, у якіх толькі што схаваўся камердынер. З шумам расчыняе іх... Усе глядзяць на дзверы. З'яўляецца Барбара. Уся ў чорным аксаміце, толькі ў вушах і на шыі праменяцца брыльянты. Па зале праходзіць лёгкі гул.
Мікалай Руды (да Чорнага)
Што я казаў?! Зірні хутчэй на твары...
(Зноў ківае ў бок саноўнікаў і князёў.)
Мікалай Чорны (з захапленнем)
Пагляду не адвесці ад Барбары.
Глядзіць толькі на Барбару і Жыгімонта Аўгуста. Жыгімонт Аўгуст вядзе Барбару да трона. Спыняюцца.
Голас (гучны шэпт)
Як можна?!. На вачах ва ўсяго свету
абразіць так нябожчыцу Эльжбету!
Яе брыльянты!..
Жыгімонт Аўгуст (заглушае гэты шэпт)
Здарылася гэтак,
што я парушыць мусіў завядзёнку.
Не палічыўся з даўнім этыкетам
і... без кароннай Рады[18] выбраў жонку.
З ёй павянчаўся, кляўся перад Богам,
што будзе ў нас адна цяпер дарога!
Лёгкі гул праходзіць па зале.
Заняты быў апошнім часам крайне,
таму дасюль трымаў свой шлюб у тайне...
Зноў лёгкі гул галасоў.
І я шчаслівы вельмі тым, што ў пару
Бог даў, каго я сам хацеў,— Барбару!
Голас (гучны шэпт)
Вось для чаго на гэтай мы нарадзе!

[18] У Польшчы быў закон, які забараняў каралю браць шлюб без згоды на тое каронай Рады. Жыгімонт Аўгуст у дадзеным выпадку парушыў гэты закон.

Другі голас (прыглушаны)
Чакай!..
Чакай, а хто ў кароннай Радзе?
Жыгімонт Аўгуст (рэзка)
Явынес клопат свой не на разгляд!
(Азірае ўсіх прысутных у зале.)
Наступнае прымайце, як загад!
Вы ўсе павінны ў радасці ці ў гневе
ёй кланяцца заўжды як каралеве!
Прысутныя ў зале аслупянелі.
Барбара з захапленнем глядзіць на Жыгімонта Аўгуста. Радзівілы Мікалай Руды і Мікалай Чорны горда ўзнялі галовы. Звоняць званы на званіцах цэркваў і касцёлаў.

**Сцэна восьмая**

Лістапад 1550 года. Варшава. Багатая гасцёўня ў каралеўскім замку. Скрозь — бляск пазалоты. Шыкоўная мэбля таксама праменіцца бляскам. Ля каміна ляжыць палевы дог. Ярка палае агонь у каміне. Ля акна стаіць Бона Сфорца — каралева польская і вялікая княгіня літоўская. Узіраецца ў золь лістападаўскага дня.
Бона Сфорца (глуха)
То снег, то дождж...
Абклалі неба хмары.
Даўно няма ў прыродзе добрых знакаў.
Адна пахмурнасць...
Змрочны цень Барбары...
(Успыхвае, з гневам.)
Нягодніца! Прыбыць пасмела ў Кракаў!
На Вавель мой... І цешыць зараз рэчы
агідны зрок, каб мог хто асляпіць!
Паўза.
(З невыказным болем.)
ОЖыгімонт... Як бацька твой пярэчыў,
а ты схацеў па-свойму ўсё зрабіць!
(Адварочваецца ад акна, ідзе да каміна,
спыняецца. Глядзіць на агонь.)
І я ў Варшаве...
тут... нібы ў выгнанні,
што ні казала,— словы не дайшлі!
Дарэмнымі былі ўсе намаганні...
(Садзіцца ў крэсла. З нянавісцю.)

Правоў ім мала,
золата,
зямлі...
Паквапіліся! Лёгка акруцілі.
Змяя схавала джала ў нейкі міг.
(З адчаем.)
На троне з сынам... поруч Радзівілы!
І як мне саўладаць з нахабствам іх?!
Дог устае, ідзе да дзвярэй.
З іх хітрасцю?! Яна была яскравай.
Барбара — толькі лялька ў іх гульні...
Уваходзіць пакаёўка. Бона ўскідвае на яе запытальны позірк.
Пакаёўка (ціха)
Танчынскі Ян...
Гаворыць, з важнай справай!
Паўза.
Бона Сфорца
Пакліч...
Хай пагамоніць пры агні!
Пакаёўка выходзіць.
Змяніць штосьці хоча, але толку мала.
(Цяжка ўздыхае.)
Што зробіш тут? Навала ёсць навала!
З'яўляецца Танчынскі. Схіляецца ў глыбокім паклоне.
Танчынскі
Не маю слоў, каб выказаць пашану,
любоў сваю...
Бона Сфорца
Не трэба гэтых слоў!
Прысядзь...
(Паказвае на крэсла па другі бок каміна.)
Ты быў заўсёды мне адданы.
Паўза.
Танчынскі з шумам садзіцца. Бона задуменна глядзіць на агонь.
Агонь ратуе... стыне ў жылах кроў,
не ўкладваецца, як ён мог паддацца!
Спачатку думалася —
маладосці грэх...
Танчынскі (з'едліва)
Яна паспела добра ўладкавацца!
Аж стогне Кракаў, кажуць, ад уцех.

А ён што блазен...
Паўза.
(Са злосцю.)
Знойдзецца дзівак!
Сарве карону і... падасць каўпак.
Бона Сфорца (уважліва глядзіць на Танчынскага. Строга)
Таму я тут, што ў Кракаве Барбара.
Танчынскі (угодліва)
І Чорны там... Мярзотная пачвара!
Гавораць, ён яе каханкам быў.
Нацешыўся! І Жыгімонту збыў!
Твар Боны перасмыкнуўся.
На дыбу іх, караць трэба агнём,
бо Кракаў ператворацць у Садом!
Штодня — музыкі,
баль за балем,
спевы...
Бона Сфорца (сціскае скроні)
Бы ў абцугах гарачых галава.
Танчынскі
Цяпер любая на Літве ўдава
з пярыны жаркай схоча ў каралевы!
Падумаць!
Перад ім укленчыў Сейм[19]!
Бона Сфорца
Няўжо сцярпець такое я павінна?
Упэўнена, без выключэння ўсе
на Захадзе адвернуцца ад сына.
Танчынскі
Вядома, хто ж лічыцца зараз будзе
з дзяржавай,
дзе кароль сядзіць у блудзе!
(Прыцішаным голасам.)
Нам трэба ратаваць хутчэй прастол.
Бона Сфорца (міжволі ўздрыгвае)
Прастол?
(Зноў сціскае скроні.)

[19] У канцы 1548 года праходзіў Сейм у Петрыкаве, на якім абмяркоўвалася справа каралеўскага шлюбу з Барбарай Радзівіл. Удзельнікі Сейма па-трабавалі, каб шлюб быў скасаваны, але Жыгімонт Аўгуст адмовіўся. Тады ўвесь Сейм укленчыў перад ім, толькі ж і гэта не падзейнічала. Жыгімонт Аўгуст стаяў на сваім, у выніку чаго, нягледзячы на моцную апазіцыю, шлюб быў прызнаны законным.

Ніяк не пройдзе гэты боль,
не ведаю, за што такая кара!

Танчынскі

А хутка карануецца Барбара!

Бона Сфорца (імкліва ўстае з крэсла)

Не дапушчу!

Танчынскі (з нейкай патаемнай думкай)

Каб ведаць жа тут як?
(Таксама ўстае з крэсла.)
Баюся, позна!

Бона Сфорца (з адчаем)

Лёсу чорны знак?!
(Нервова.)
О не!.. О не!.. Скасую ўсё... Парушу!
(Пачынае хадзіць па гасцёўні.)

Танчынскі

А я пакінуць каралеву мушу.
(Ідзе да яе. На момант прыпыняецца.)
Народ бурліць... І, Божа, барані
наш край ад непатрэбнае вайны.
(Падыходзіць да Боны. Цалуе руку.
Цяжка ўздыхае. Пяшчотна.)
Хацеў бы бачыць каралеву ў шчасці...

Бона Сфорца

Не ўратавацца мне ўжо ад напасці!
Ідзі...
Улады болей тут не маю.
(Задумалася.)
Чужы мне край...
І я чужая краю.

Танчынскі схіляецца ў глыбокім паклоне. Выходзіць.
Паўза.

(Падыходзіць да дога, які разлёгся ў парозе.
Лашчыць яго.)
Сумуеш?.. Да цябе няўважнай стала?
Каб ведаў ты, як зараз горка мне!
Танчынскі... Ці ж не праўду я сказала —
чужая гэтай змрочнай старане.
І сын — чужы...
Ён выбраў Радзівілаў...
(Вяртаецца да каміна. Глядзіць на агонь.)

Ну хоць бы колькі напісаў радкоў!
Яго, здаецца, нават не здзівіла,
што я ў Варшаву з'ехала цішком.
Навошта я?
Там без мяне ўсё — проста...
За балем — баль!
Ёй хоча дагадзіць...
Барбара!

Паўза.

(З гневам.)
Будзе вельмі страшнай помста...
Яведаю, што трэба мне рабіць!
Мой сын, яна і я...
Які трохкутнік!
Ды відавочна — лішні нейкі кут!
(Імкліва ідзе да дзвярэй. Расчыняе іх.
Крычыць.)
Сюды!.. Хутчэй!.. Дзе Монці?
Дзе мой Людвік?!
(Прычыняе дзверы. Ціха.)
Ён... Толькі ён... патрэбен зараз тут!
(Ідзе да акна.)

Уваходзіць Людвік Монці. Бона не азіраецца. Глядзіць у акно.

Па кроках чую — ты... І не тлумачу,
што да чаго! Ты бачыш гэта сам,
як я гарую, курчуся ад плачу,
збірайся ў Кракаў!

Паўза.

Справа будзе там!

Монці стаіць ля дзвярэй. Уважліва слухае. Моўчкі ківае галавой.

Мой сын адзіны...
Боль мой і пакута...
Ты ведаеш, чый цень між намі лёг!

Монці моўчкі ківае.

Дзе словы не даходзяць, там атрута
ўсё вырашае! Хай даруе Бог
і дапаможа... Хай нашле ён кару
з тваёю дапамогай на Барбару!
Абедзвюм на зямлі нам нельга жыць.

Паўза.

Ты зразумеў? Не мне цябе вучыць!
Монці моўчкі ківае. Ён зразумеў.

**Сцэна дзевятая**

Канец снежня 1550 года. Кракаў. Некалькі тыдняў таму назад адбылося каранаванне Барбары.

Невялікая гасцёўня ў каралеўскім палацы. Час абеду. Пышна накрыты стол. За сталом сядзяць Жыгімонт II Аўгуст, Барбара і Людвік Монці — сакратар каралевы Боны. Гавораць ажыўлена, у прыўзнятым настроі.

Монці

Хацеў паспець я на каранаванне,
ды затрымалі клопаты ў Варшаве.

Жыгімонт Аўгуст

Што ж, сакратар павінен быць пры справе...
(Глядзіць на Барбару.)
Нас матчына сагрэла віншаванне.
Ёй на карысць, гляджу, жыццё ў Варшаве,
брыльянты пераслала... Тры ў аправе!

Барбара (з годнасцю, уласцівай каралеве)

Не трэба ні брыльянтаў, ні сапфіраў,
адно, каб з ёю мы жылі суладна.

Монці (угодліва)

З тым і прыехаў... Хоча з сынам міру.
Так і сказала: перадай дакладна.

Барбара

Віна мая тут, ды хіба ж хацела?

Жыгімонт Аўгуст

Ах, Божа, ты галубкаю ўляцела
ў мой лёс і ўсё навокал асвяціла,
напоўніла мяне дзівоснай сілай,
а тут... сцяна!
(Моршчыцца.)
І слёзы маці... Сваркі...
З усіх бакоў — пагрозы, забарона...

Монці

За іншае паднімем зараз чаркі,
за шчасце ваша!
За магутнасць трона!
(Паднімае чарку. П’е.)

Барбара і Жыгімонт Аўгуст толькі прыгубліваюць.
Жыгімонт Аўгуст (ставіць чарку на стол)

Ад Габсбурга[20] пасол у троннай зале
павінен быць. Пакіну вас адных.
(Да Монці.)
Шкадую, што пабыў з табою мала...
Ты маці перадай — не помню злых
яе намераў. Тое ўсё забыта.
(Устае з-за стала.)
Мая душа насустрач ёй адкрыта,
ёй не чужы, як і калісьці, Вавель.
(Глядзіць на Барбару.)
Скажы, што хочам бачыць неўзабаве!

Барбара

Я ўкленчыць перад ёй заўжды гатова.

Монці

Яна ўжо блаславіла вас на словах,
і думаю, што неўзабаве схоча
вас блаславіць, як кажуць, вочы ў вочы.

Жыгімонт Аўгуст

Хай Бог дае...
(Цалуе руку Барбары. З лёгкай усмешкай.)
Тут, пад тваім наглядам,
пабыць, напэўна, Людвік будзе рады!
(Ківае Людвіку, маўляў, развітваюся...
Выходзіць.)

Паўза.
Монці

Змяніўся Аўгуст...
Знікнуў недавер,
зусім вярнуўся іншым ён з Літвы.

Барбара

Не ведалі яго, магчыма, вы!
Ён быў заўжды такім, як і цяпер.

Монці

Оне скажыце, часта быў круты,
ды пад уплывам вашай пекнаты
куды і знікла колішняя ўпартасць?!

Барбара

---

[20] Фердынанд Габсбург, імператар рымска-нямецкі, бацька Эльжбеты Аўстрыйскай

Пра колішняе ўспамінаць не варта!

Монці

Напэўна...
(Задумліва.)
Не ўсялякая зямля
тым сокам, што патрэбен, жывіць дрэва.
Пра што ж я?
(Смяецца.)
А-а! Свет бачыць караля,
якім яго ўспрымае каралева!
Любыя Аўгуст зможа зрушыць горы...
(Не дагаворвае.)

Дзверы ў гасцёўню расчыняюцца. Уваходзіць пакаёўка.

Пакаёўка (схіляецца ў паклоне. Да Барбары)

Не ведаю, як быць? Прынеслі вам уборы.

Паўза.

Магчыма, будзе нешта ў іх не так,
сказаць, каб пачакалі вас, ці як?!

Монці (паспешліва да Барбары)

Уборы?!
(Смяецца.)
Для жанчыны гэта важна.
Адкладваць нельга, мілая Барбара!

Паўза.

Уборы... Хм-м? Як позіркі раздражняць!
Пачуцці ўскалыхнуць, навеюць мараў!
Ісці патрэбна... У мяне ёсць час,
магу чакаць...
слугою верным вас!

Барбара (устае з-за стала)

Тады я на хвілінку... Толькі гляну!

Барбара і пакаёўка выходзяць.

Монці (не можа схаваць радасці)

Усё ідзе, дальбог жа, як па плану!

Паўза.

(Нейкае імгненне сядзіць нерухома.
Вочы загараюцца нядобрым бляскам.
Адкідваецца назад, на спінку крэсла.)
Ну вось і момант! Што ж маруджу я?
(Нервова смяецца.)
Ха-ха... Уборы! Выйшла ўсё так складна!

Аяк сябе тут пачувае ўладна
нягодніца!
Распусніца!
Змяя!
(Рэзка ўстае. Ідзе да акна. Спрабуе
расчыніць створкі.)
Хоць бы паветра свежага глыток,
не задыхнуцца б!
Што ж цягну з атрутай?
Адзіны крок...
(Глядзіць на чарку, з якой прыгублівала
Барбара.)
Да чаркі толькі крок...
(Робіць гэты крок. Спыняецца ля крэсла,
на якім толькі што сядзела Барбара.)
І ўсё... Сцяжына лёсу разамкнута!
Жыцця няма... Што Вавель? Што карона?
(Хуткімі рухамі вымае з кішэні скураны
вузельчык. Рукі трасуцца. Азіраецца
на дзверы. Імкліва развязвае...)
Хай будзе так, як пажадала Бона!
(Высыпае ў чарку атруту. Вузельчык хавае ў кішэні.)
І калі можаш, дык даруй мне, Божа,
Барбары ўжо нішто не дапаможа!
Дзверы расчыняюцца. Уваходзіць Барбара.
Барбара
Прымусіла чакаць?
Монці (спрабуе быць вельмі лагодным)
Ды не!..
(Адварочваецца да акна.)
У хмарах неба...
(Цяжка ўздыхае.)
Што зробіш, не чакаюць доўга справы!
Два тыдні ўжо, як з’ехаў я з Варшавы,
засумаваў...
Назад збірацца трэба!
Барбара
Ад нас адразу?
Монці
Думаю, што так!
Прысесці толькі трэба на дарогу...

(Садзіцца. Лёгкім рухам рукі запрашае сесці і Барбару.)
Штодня за вас маліцца буду Богу,
каб беды ўсе былі для вас няўзнак!

Барбара (устрывожана)
Якія беды?
(Садзіцца на ранейшае месца.)

Монці
Гэта я да слова!
А зараз у мяне ёсць прапанова!
(Бярэ чарку. Паднімае яе.)
За маці!

Паўза.
Шчасця зычыць вам яна!
За каралеву Бону і... да дна!
(Выпівае.)

Барбара бярэ сваю чарку. Марудзіць... і таксама п'е.
Хай чарка пойдзе на карысць здароўю,
каб жыць сто год у згодзе са свякроўю!

**Сцэна дзесятая**

8 мая 1551 года. Кракаў. Спальня Барбары ў каралеўскім замку. Шырокі ложак падцягнуты да расчыненага акна. Ледзь не над самым падваконнем звісаюць пышныя гронкі бэзу.

На ложку ляжыць Барбара. Уваходзіць Мікалай Руды. Спыняецца ў дзвярах.

Барбара (ціха)
Хадзі сюды... Да ложка падыдзі...
Мой мілы брат, шкада, што я не дома!

Мікалай Руды хутка падыходзіць да ложка. Барбара спрабуе пасміхнуцца.
Не на мяне... На гэты бэз глядзі,
я надта ж змучана хваробай невядомай.

Недзе ў далёкіх пакоях замка б'е гадзіннік.
(Барбара лічыць.)
Адзін... другі... яшчэ адзін удар...
Адпушчана гадзін мне, чую, мала!

Мікалай Руды садзіцца на ложак. Бярэ руку Барбары ў сваю. Гладзіць яе шчаку.

Мікалай Руды
Схуднеў,
але ўсё роўна гожы твар...

Хоць і пакут даволі ты зазнала.
Барбара (пагаджаецца)
Цяпер — хвароба,
а раней — няслава,
Які сягоння дзень?
Мікалай Руды
Святога Станіслава!
Чацвер... Ты не трывожся...
Гэта шкодна.
Барбара
Мне цяжка...
На зямлі памру няроднай.
Чужыя сцены, галасы, імёны...
У Вільню б хоць на міг, у Геранёны.
Мікалай Руды
Пра смерць не думай,
гэтага не будзе...
Барбара (глыбока ўздыхае)
Не прадыхнуць,
бы камень лёг на грудзі.
(Зусім ціха.)
Уся гару, нібы абліта варам.
(Пачынае кідацца.)
Мікалай Руды (усхапіўся з ложка)
Пагоршала?..
Мо доктара, Барбара?!
(І ўбок, ціха.)
Але ж пазнала...
Чуў, назвала братам.
Якой жа непамернай будзе страта!
Была ў сабе і доўга...
(Схіляецца над Барбарай.)
Барбара кідаецца ў гарачцы.
Барбара
Дзе я?.. Дзе я?..
(І суцішваецца.)
Мікалай Руды
Маленечкая, але ёсць надзея!
Суцішылася... Пасвятлелі вочы...
Няма сумнення:
хтось яе сурочыў!

Паўза.
За дзвярыма чуюцца гучныя хуткія крокі.

Нехта ідзе!..

Мо Жыгімонт так шпарка?

Дзверы расчыняюцца. Імкліва ўваходзіць Жыгімонт Аўгуст.
Жыгімонт Аўгуст

З Літвы вярнуўся Чорны!..
З ім — вядзьмарка.
Барбара як?
(Ідзе да ложка. Схіляецца над Барбарай.)

Мікалай Руды

Гарачка доўга біла.
Цяпер, здаецца, трошкі адпусціла.

У спальню ўваходзіць Мікалай Чорны.
Мікалай Чорны

Вядзьмарка хоча як хутчэй да хворай!

Жыгімонт Аўгуст цалуе рукі Барбары. Мікалай Руды адмахваецца ад Чорнага, маўляў, маўчы! Чорны паказвае позіркам на Барбару.

(Прыцішана.)
А як яна?..

Жыгімонт Аўгуст паварочваецца да Радзівілаў.
Жыгімонт Аўгуст (з горыччу)

Дасюль не меў я гора
сапраўднага...

Мікалай Руды

Яно заўжды не ў час!

Барбара прыўзнімае галаву. Яна вельмі змарнела. Твар непазнавальна асунуўся. Усе напружана сочаць за яе рухамі. Барбара цягне руку да Жыгімонта Аўгуста...
Барбара

Скажы, няхай браты пакінуць нас.

Мікалай Руды

Мы чуем, чуем...
Пойдзем у гасцёўню!
(Ідзе да дзвярэй. Ціха да Чорнага.)
Ты бачыш?
Як жа можна тут без слёз!

Мікалай Чорны (вельмі ўражана)

Такой Барбару, далібог, не помню...
Відно, дарма з Літвы вядзьмарку вёз.

Радзівілы выходзяць.

Паўза.
Барбара
Пайшлі...
Ты помні, мне яны — браты.
Жыгімонт Аўгуст
Пра гэта зараз не турбуйся ты.
(Бярэ яе рукі ў свае.)
Паўза.
Барбара
Не ведаю, што там...
(Глядзіць уверх. Са шкадаваннем.)
Можа, нічога?
Жыгімонт Аўгуст
Там Бог!
Яза цябе Яго прашу.
Барбара
Тады я там пачну прасіць у Бога,
каб адпускаў сюды маю душу[21]...
Мой лёс зямны пакутаю кляймёны,
такія мукі зараз я цярплю!
ОЖыгімонт...
Ты помніш Геранёны
і да цябе найпершае «люблю»?!
Кахаю, веру... Гэта ўсё са мною,
яно ўва мне... У сэрцы толькі ты!
Цяпер і потым, калі ўжо сцяною
між намі ляжа вечнасць нематы.
Паўза.
(Захвалявалася. У вачах з'явілася няясная трывога.)
Цалуй мяне ў апошнюю хвіліну!
Ірвецца дух... Навошта так імкне?
Явыпаду аднойчы са ўспаміну,
а губы будуць сумаваць па мне...
Жыгімонт Аўгуст прыпадае да губ Барбары.
Паўза.
Жыгімонт Аўгуст
Не пакідай... З табою быў шчаслівы!

---

[21] Сярод паданняў Нясвіжа ёсць адно, у якім расказваецца пра Чорную даму. У XVI стагоддзі Нясвіж належаў Радзівілу Мікалаю Чорнаму. Пасля смерці Барбары там і пачала зрэдку з'яўляцца Чорная дама — душа Барбары, апранутая ў чорнае адзенне ў знак жалобы па сваім каханні. А калі памёр і Жыгімонт II Аўгуст, Чорная дама пасялілася ў Нясвіжскім замку назаўсёды.

Жыццё маё дзеля цябе было…

Барбара прыўзнімаецца.

Барбара

Яведаю…
(Глыбока ўздыхае.)
Куды ж ён, дух імклівы?
(Ледзь чутна.)
Твой твар плыве… У вочы б'е святло…
(І заціхае, адкідваецца на падушку.)

Жыгімонт Аўгуст (схіляецца над нерухомым целам Барбары. Бы не ў сабе)

Няма!..
Як хутка?!
Божа літасцівы!
Аддай!..
Ты чуў, я з ёю быў шчаслівы!
(Укленчвае перад ложкам. Працягвае рукі ўверх… да Бога.)

Адтуль наплывае жаласлівы спеў, а можа, гэта толькі так здаецца Жыгімонту Аўгусту.

Хор анёлаў

Імкне душа ў апошнюю дарогу,
зямны прытулак зведаўшы спаўна,
у тыя высі, дзе раскажа Богу
пра ўсё, з чым развіталася яна.
(І на больш высокай ноце.)
Ляціць душа ў апошні свой прыстанак,
свой пэўны час адбыўшы на зямлі…
З начы глухой у вечны свой світанак,
у пекныя нябесныя палі…

Паўза.

Жыгімонт Аўгуст паднімаецца… Нейкае імгненне глядзіць у нерухомы твар Барбары.

Жыгімонт Аўгуст (з болем, з жалем, з тугою)

Хто зараз чуе голас твой прызыўны?
Хілю ў жалобе чорнай галаву…
Даруй, калі я ў нечым, можа, вінны,
з Літвы прывёз і павязу ў Літву.

Заслона

1992

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Раіса Андрэеўна Баравікова нарадзілася 11 мая 1947 года ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці ў сям'і служачага.

У 1965 годзе скончыла Бярозаўскую школу і пачала працаваць літсупрацоўнікам у быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроўя». У 1966-1971 гг. вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве. Пасля заканчэння працавала рэдактарам на кінастудыі «Беларусьфільм», карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва», некалькі гадоў кансультавала пачаткоўцаў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». Цяпер працуе намеснікам галоўнага рэдактара ў часопісе «Алеся».

Першыя вершы надрукавала ў 1960 годзе. Выдала зборнікі лірыкі «Рамонкавы бераг» (1974), «Слухаю сэрца» (1978), «Такое кароткае лета» (1981), «Адгукнуся голасам жалейкі» (1984), «Каханне» (1987), «Пад небам першага спаткання» (1990), «Люстэрка для самотнай» (1992).

Раіса Баравікова працуе і ў іншых жанрах. Яе пяру належаць аповесць «Кватарантка» (1980), кнігі для дзяцей «Галенчыны «Я», альбо Планета Цікаўных хлопчыкаў» (1989) і «Дзве аповесці пра Міжпланетнага пажарніка і казка пра жабяня Квыш-Квыш» (1996). Па гістарычнай драме паэтэсы «Барбара Радзівіл» у тэатры Беларускай драматургіі пастаўлены аднайменны спектакль.

Творы пісьменніцы перакладаюцца на іншыя мовы. У 1982 годзе ў Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» была выдадзена кніга лірыкі «Горицвет».

За кнігу «Каханне» (1988) Раісе Баравіковай была прысуджана Літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова. У 1995 годзе знакамітая паэтэса стала лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы («Люстэрка для самотнай»).

© OCR: Камунікат.org, 2012
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2012
© PDF: Камунікат.org, 2012

## ЗМЕСТ

«Я памаўчу. Ты гавары…»
З першых кніжак.
Пастушка
«Прастора спазнаецца ў руху…»
Невядомае
«Няхай гавораць людзі ля кіёскаў...»
«Мне сёння прыснілася хата…»
«Сярод папер, сярод лістоў...»
Світанне ў парку імя Янкі Купалы
«З-за саду выглянуў прамень…»
Верлібр, напісаны пад раніцу
З бабуліных песень
«А на душы і светла, і шчымліва…»
Забароддзе
«Гронак рабінавых медзь…»
Восеньскі сад
«Выпадкова машыну спыніла…»
Пасля дажджу
«Стракатасць выставачнай залы…»
«Выпадкова, без пэўнай прычыны…»
Навальнічнай ноччу
Жывапіс побач
Пры знаёмстве
«Зіма размашыста пазначыць…»
«З табой даўно не гаманілі...»
Апошняя сустрэча
«Пасядзім, мой даўні дружа…»
Зорка палявая
«Падобны голас мой на ўсхліп…»
На балконе
«Цяпер бы лашчыць салаўю…»
«Адплывуць за пясчаную выспу…»
«І лістоце апалай няўлежна…»
Дзічка
«Не прашу ні ў кога вернасці…»
Першае верасня
Госць
«Даруй і дзякуй! Вольная цяпер...»
Зімовы эцюд
«Пад перастук сталёвай рэйкі...»
«Хай будзе так, як ты схацеў…»
Русалчына кветка
«Лета вяртацца не ўмсс…»

«Іду туды, дзе луг духмяны…»
Прыцемкам у бярэзніку
«Пад соннай ёлкі калыханне…»
«Ля крыніцы бруістае вяне…»
«Павер, каханы, я — ў даўгу!..»
Музыка
«Ах, нездарма жыла я ганарліўкай…»
«Не спатрэбяцца лёгкія вёслы…»
«Шчасліваму і гора дапаможа…»
«Я з душы сваей вырвала слова…»
«Ластаўкі сядзяць напагатове…»
«Не цалаваць, не думаць, не чакаць…»
«Яшчэ захоўваюць сукенкі…»
Кастусь Каліноўскі
«Даўно крыклівая малеча…»
Успамін пра цётку Яшо
«Ужо не трэба шкадаваць…»
«Чамусьці ўзяў і ўсё парушыў…»
«Як ціха яблыні шумяць у нашым садзе…»
Калінавік
«Адгукнуўся смуткам шолах…»
З размоў вясёлай удавы
«У кожным слове ёсць мастацтва…»
Серабранка
«У тваіх блукае валасах…»
«Мой N… Далей не буду. Гэта грэх…»
І далей…
«Калі б я знала, што — ў гадах?..»
«На ўсё, на ўсё кажу: мажліва…»
«За жнівом надыходзяць дажынкі…»
«Жыву, як ёсць, не без заганы…»
«Мяч, сынам кінуты, злаўлю…»
Рака
«Мы не хаваліся за фразы…»
«У грудзях замірае дыханне…»
«На вярбе каташок, як вочка…»
«Раптам сонечна і блізка…»
«Усё бліжэй стаю да рыскі…»
«Валасы — як са спелага стэпу…»
11 мая
«Нехта пазірае ўслед варожа…»
«Прывязацца б душою і целам…»
«Не пагаворым болей, як раней…»
«Вада вірлівая, а плытка…»
«Гэта слізкая ў восень хада…»

«У мяне палянка ёсць за садам…»
«Птушка патрывожаная свішча…»
Там…
«Ну і пагляд, — курам на смех!..»
«Як добра часам, што наўкол…»
«Кладзецца першы снег на скроні…»
«Забываць перажытыя годы…»
«Цвіце ў гародчыку язмін…»
«Адсмяяўся, адплакаў, атрос…»
«Заместа слоў пачаўся снегапад..»
«Таксі праехала, і пырскі…»
«Як і не гасла цыгарэта...»
«Па правадах бяжыць нячутна ток…»
«Забыць і назаўсёды адысці…»
Патароча
«Паспытаўшы вясновага шалу…»
«І я сказала: «Больш не трэба фальшу…»
Ліпа цвіце
Красавік
«Не трэба папракаць у здрадзе…»
«На беразе за самаробнай вышкай…»
Пад грушай у час дажджу
«Там рос палын густы і горкі...»
Рыбачка
«У гэты горад прыляцяць гракі...»
«…І растрывожыць халадок нізіны...»
Дзесяць васьмірадкоўяў
«Жыццё, жыццё — начэй і дзён паток!..»
Паляна
«Шумела Свіслач, парк звінеў…»
Краявід з хваляй
«Гэта ж проста восемь адшумела…»
«З адвагай рыцара-гулякі…»
«І ніколі ўжо не паўторыцца…»
Вячоркі
«Непадуладна ні вятрам, ні сцюжы...»
«Праз навісь лёгкае імжы…»
«Не сустрэўшы, — таропка праводзім…»
Цыкламены
Чуеце, зноў наплывае яна…
«Адспявалі вясёлыя шыны…»
«Парушце звычкі, — пазваніце!..»
«А ты, лісток, зусім як сэрца…»
«У лёгкіх рухах чуе здраду…»
«І без адліг душа адтала…»

«Не схацела паклікаць у госці...»
«Сырое неба. Каляіны...»
«Не трэба мне надакучаць...»
Макавей
Eugenio
Загедан
«Ля азерца шапоча аер...»
«Ішлі на ясны і вялізны...»
«І сняжынка шукае прытулку...»
«Вось і заві бяседу мілай...»
«Пра якія такія любошчы...»
Паэзія
У чаканні вясны
Калыханка для Алены
«З пяшчоты словы зноўку ткуцца...»
Паралель
Ліпень не дома
Ва ўрочышчы Маліннік
«Ўсё, што ўчора было яшчэ марай...»
Дзень. Вечар. Раніца
Рамантычны верш
«Адорыць глеба рупны клопат злакам...»
Кулёма
«А дзень на сад святлом пральецца...»
Любоў
«Хмелю расцвіўшага гронка...»
«Колькі казак сама расказала...»
«Прыеду я у той куток зялёны...»
«Калі нехта пяшчоту забраў...»
«Усё забыць — імгненна і адразу...»
«Не кожны мае ўладу, як халіф...»
«Бывала, ў ціхае начы...»
«Здзіўляемся загадцы Баальбека...»
«Казаў мудрэц: яно — і нараканне...»
Доля
Назіранне
«Успеньвае стаялую ваду...»
Зіма. Дарога ў Цяхцін
«Кароткіх сустрэч на прыпынку не будзе...»
Шыпшына пры даліне
«Халодны вецер дрэў не скалане...»
«Не дастаткам, а сэрцам расла...»
«Голас мой, не дрыжы...»
«А давай, як у даўнішнім... Зноўку...»
Пэпка

«Чаму? Навошта? — што ні дзень з пытання…»
Напрадвесні
«Прывыклі ўнукі да тэлеэкрана...»
«На сцежку выйду палявую…»
«Калісьці ў зелень апрануцца дрэвы…»
«Бязмежнасць жыве ў снегападах…»
Пры заходзе сонца ў парку
«Старэюць людзі, дрэвы і кусты…»
«Пра markdown, ды на паўгуках…»
Раніцай на Камароўцы
«Клопаты звязалі нас адны…»
«За прыціхлымі дварамі…»
Дзяды
Ты гаворыш…
На Вайсковых могілках
«У спёку чэзнуць ля дарог кусты…»
«Ні славай, ні бясслаўем не дарыў…»
Адчужанасць
Саламея
Развітанне
«Спадзе раса, і адшуміць калоссе…»
Сустрэча
Калі не пішацца…
«Жыву з жыцця, і можна было б лепей...»
Не грэба слоў
«Разважаеш пра штормы і мелі...»
У прадчуванні блізкае разлукі
Стары сад
«Яшчэ ў вачах насіць жыцця святло…»
«Перажыла адліжны тыдзень…»
Птушачка
«Любі траву, і першы гром, і гай…»
«Не абяцаюць, калі ўсё — цацанка...»
«Вясёлка пёркамі паўліна…»
«Век дзівакоў захопленых прайшоў…»
«Адшуміць і ясень мой, і клён...»
«Калі ў лясах зялёных птах пяе…»
«Ледзь толькі промень жвавы глянуў…»
«Пад шум ракі, пад шолахі бярозы…»
Зімовы вечар
Даўняя мелодыя
«У дваццаць нуль-нуль на развілцы…»
«Ізноў вяртацца ў сталасць з маладосці...»
«Як часта ў свеце, бы ў бязладнай хаце…»
«Зачэпіцца сонца за снежную горку…»

«Гэтай начы неспакойнае назва…»
Вершы без апошняга радка
Вера
«Сумна між сухіх кустоў карынкі…»
«О, я не ў сон глухі закута…»
Рабінавая гронка
«Нічагусенькі не зменіцца…»
Мазурка
«Дзіўлюся, нібы рэдкай навіне...»
Прысвячэнне
Ад імя адзінокай
Позняя восень
«Вазьмі і зразумей, дзе шчырасць…»
За дзень да снежня
Аднойчы ў Давыд-Гарадку
«Не адцвітала доўга бульба ў полі…»
«Пры горкіх днях усе добразычліўцы…»
«У сэрцы затрымцеў няясны гук…»
Зазімак
Пастукайся ў акно маё галінай
«Выбліснуў дзень, — як прыроды адвольнасць…»
«Прыйдзі, прыйдзі…»
«Ты, магчыма, словы перабльтаў…»
«Папялушка! — ўздрыгваюць кусты…»
«Імклівы лыжнік сцежку перабег...»
«А ён ляціць, ляціць, як ашалелы…»
«МільЬны дзён мяне кахаў…»
Дзве гадзіны навагодняй ночы
Успамін
«Пераплятуцца гукі «дж» і «дз»
Прызнанне
«…І вось сустрэча з колішнім кумірам…»
«Яшчэ зязюлі голас адзавецца…»
«Дом літаратара ў Маскве…»
«У час вясновых шумных вод…»
«Маладзіка халоднае свячэнне…»
Рамантычная дзяўчынка шукае шчасця
Каляндар
Навагодняя ноч
«Разлічваць йа які яшчэ прыём?..»
«Забывай мяне, калі поруч…»
Верш без назвы
Снег
Пачуццё
«Разрасліся шумлівыя кроны…»

Калі знікае каханне
«Напэўна, мне не прыдалося…»
«На ўзгорку дуб. Яму даўно за сто…»
«Страчанае, забытае…»
«Набору пах. Пякучасць крапівы…»
Іранічны верш
«Былі нядаўна дрэвы ўсе ў журбе…»
ўсё ж…
Сарамлівасць юнай
«Ці не пупышкі хіляць голле ўніз?..»
На пачатку восені
«Разлуку ў хуткім часе напрароч…»
«Не мудры той, хто сэрцам на агонь...»
«Хлуслівы не прызнаецца ў хлусні…»
«Схапіць… Купіць… кожны ўжо бы п'яны!..»
«Не можа быць кахання без цяпла…»
У старым парку
Горад першага кахання
«З кроплі не разліцца акіяну…»
«Голле ліпаў глядзіцца кволым…»
Сіло
«Якая ж ты простая, дума…»
«У свет зірнуць — не ў дворык з-за фіранкі…»
У час аднаго шпацыру
«Слязой не вымаліш святла…»
Лістападаўскі пейзаж
«Выходзь да люду пры парадзе…»
На зары
Надзея
Сягоння дождж
«Я вечнасць падарыць табе змагла…»
Ноч. Водар архідэй
«Усё гаворым пра высокі доўг…»
«Сказаў: «Забудзеш, і я памру!..»
Год Пеўня
«Ужо нічым не здзівіць век…»
Да вобраза сучаснай жанчыны
«Не спадзявайся, а жыві…»
Усё цудоўна! Бусліны клёкат…»
«Выпусці з сэрца раба…»
Чатырохрадкоўі
«Любіць жанчына слыхам…»
«Ведаю, твар мой аднойчы прысніцца…»
Ульянаўская, 4
Чаму?

Нішто не вечна…
«Жыву, і, дзякуй, не ў прасторы голай…»
Партрэт жонкі Станіслава Ксаверыя Прушынскага XVIII стагоддзя
«Калі адчай, хоць закрычы…»
«Дзеці нашы даўно захапляюцца рокам…»
«О колькі крыўды, — ён мой вязень!..»
Купалле
Апошні шлях незнаёмай
«Шалее д'ябал ад сваіх забаў…»
«Жыць з пачуцця, з надзей, з адвагі…»
Сябрам-паэтам
«Твая жанчына… Божа мой!..»
«Дыхнула хвояй з-за фіранак…»
«Даўно ўжо звысоку гаворыць аб нечым…»
Дыханне здрады
«Яшчэ не спушчана заслона…»
«З ліпамі за кладамі…»
У гасцінным доме
«Мы з Вамі ў леце тым былі сябрамі…»
«Хто з нас не ўспомніць пладаносны сад…»
Лістапад
«Лета дыхала месяц грамамі…»
Люстра
Верш да дзяцей
Воля
Ліст, нашаптаны дажджамі
Французскае танга ў метро з Някляевым
Сумна
Гляджу ў акно
Барбара Радзівіл
*(Драматычная паэма ў дзвюх дзеях)*
Біяграфічная даведка

**Баравікова Р.**

Сад на капялюшыку каханай: Лірыка. — Мн.: Маст, літ., 1997. — Іл. партр., — 486 с. — («Залатая серыя». Паэзія XX стагоддзя).

ISBN 985-02-0364-1.

Усім вядомы біблейскі сюжэт: Бог стварыу райскі сад, пасяліў у ім Адама і Еву... Еву спакусіў Гад, пасля чаго забаронены плод пакаштаваў і Адам, але гаворка ў дадзеным выпадку не пра грэх, а пра тое, што на Зямлі ў кожнага з нас ёсць свой сад. Для лаўрэата Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы вядомай паэтэсы Раісы Баравіковай гэты сад — «Сад на капялюшыку каханай». Які ён, хай мяркуе чытач.